Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ
Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 13 (4659) 30 сакавіка 2012 г.

## У нумары:






# Казкі любяць усе!

**На вясновых канікулах вучні наведваюць не толькі тэатры ды музеі, але і шматлікія імпрэзы, што ладзяцца кнігарнямі і бібліятэкамі ў межах Тыдня дзіцячай кнігі. Таму да літаратуры гэтага кірунку павышаная ўвага.**

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**фота Кастуся Дробава**

А якая яна, сучасная беларуская казка? Чым павінен кіравацца пісьменнік, працуючы над творам для дзяцей у сучасных умовах?

Знайсці адказы на гэтыя і іншыя пытанні мы паспрабавалі разам з загадчыцай рэдакцыі дзіцячай літаратуры выдавецтва "Мастацкая літаратура", папулярнай пісьменніцай-казачніцай Аленай Масла.

— Сёння выдаецца шмат кніг казак, як народных, так і аўтарскіх. Яны выходзяць у серыях "Казкі XXI стагоддзя", "Беларуская аўтарская казка", "Казачны свет", "Казка за казкай" (выдавецтва "Мастацкая літаратура"). Адметныя і выданні РВУ "Літаратура і Мастацтва" — "Чырвоная…", "Лясная…", "Блакітная кніга ў творах беларускіх пісьменнікаў" з ярка вызначанай экалагічнай скіраванасцю. Не застаюцца ў баку і іншыя выдавецтвы, актыўна развіваючы "казачны" напрамак дзіцячай літаратуры.

На маю думку, гэта натуральна. З казкі пачынаецца спазнанне свету маленькім чалавекам, менавіта казка актыўна фарміруе яго свядомасць. Таму важна, што нам чытаюць альбо мы чытаем у дзяцінстве, якую сістэму вобразаў і ўстановак успрымаем.

Вось, да прыкладу, задумаемся — чаму паводле закону казачнага жанру Дабро заўжды перамагае Зло, а герою, які прайшоў праз выпрабаванні, пераадолеў перашкоды і пазбавіў людзей ад ліха, дастаецца і каралеўна, і каралеўства ў дадатак? Інакш — ніяк, бо гэта і ёсць закон захавання жыцця на зямлі, адзін з найважнейшых аспектаў народнай мудрасці, якая засвойваецца ў дзяцінстве праз народныя казкі. А дзівосы і чарадзействы, уласцівыя казкам, бяруць у палон і нязмушана, ненавязліва даводзяць гэтую думку. Дарэчы, псіхолагі раяць найперш чытаць дзецям народныя казкі, бо ў іх — стваральны, а не разбуральны пачатак, мудрасць, правераная стагоддзямі.

У гэтым сэнсе беларуская аўтарская казка, на мой погляд, пераймае лепшыя традыцыі народнай казкі. Варта толькі прыгадаць, да прыкладу, "Казкі жыцця" Якуба Коласа, "Сярэбраную табакерку" Змітрака Бядулі...

Сучасная беларуская літаратурная казка, у якой плённа працуюць Алесь Бадак, Раіса Баравікова, Наталля Бучынская, Пятро Васючэнка, Вольга Кураткевіч, Георгій Марчук, Серж Мінскевіч, Мікола Чарняўскі і іншыя творцы, не адмаўляе традыцыйнасці ў лепшым сэнсе гэтага слова. Аднак поле дзейнасці казачных герояў у сучаснай беларускай аўтарскай казцы пашырылася! Пакінуўшы Трыдзявятае царства, яны перабраліся ў гарадскі асяродак, упэўнена абжываюць тэхнічны свет, дапамагаюць вырашаць экалагічныя праблемы, асвойваюць касмічную прастору, дапамагаюць беларусам спасцігнуць нацыянальныя карані.

Рэаліі — сучасныя, а закон спрадвечны: Дабро павінна перамагаць Зло, і ў сучасных казках, як і ў традыцыйных народных, гаспадараць дзівосы, неверагодныя здарэнні і пераўтварэнні. Відаць, гэтыя складнікі і ёсць той магніт, які ва ўсе часы прыцягвае чытачоў да казкі.

Сёння ж, калі людзі ўвогуле менш звяртаюцца да папяровых кніг, карыстаючыся інфармацыяй, тэкстамі з электронных носьбітаў, актуальнасць традыцыйнай дзіцячай кнігі ў цэлым — і казкі ў прыватнасці — павялічваецца. І гэта не дзіўна, бо дзіцячая кніга, апроч іншага, гэта і сродак яго кантактавання са светам, з дарослымі.

Традыцыйна лічыцца, што казкі — творы для маленькіх, але я не згодна. Бо гэта жанр універсальны, ён цікавы і самым маленькім, і сталым чытачам. Менавіта дзякуючы шматслойнасці, казка адкрывае коды, якія не павінны ўспрымацца літаральна. Яна прыцягвае творцаў магчымасцю выкарыстаць багатую выяўленчую палітру. Па законах жанру любы прадмет можа ажыць, загаварыць і па-свойму перадаць ідэю аўтара, а таксама імкненне праз казачныя выявы зразумець свет і адкрыць яго дзіцяці.

Што да складнікаў паспяховасці казкі, то на гэты конт казачніца разважае так:

— Мне падаецца, важна быць шчырым, любіць жыццё, умець радавацца і пераадольваць цяжкасці — карацей, дзейнічаць у жыцці так, як героі твораў. Тады і сапраўдныя казкі не будуць абмінаць казачнікаў. А ці будзе герой хадзіць з мабільнікам, карыстацца камп'ютарам, ездзіць на машыне — гэта другаснае. Тэхнічны прагрэс развіваецца імкліва; адпаведна, і тэхнічны антураж мяняецца. А людзям патрэбны цеплыня, сумленнасць. І, канечне ж, прыгоды! Гэтыя інгрыдыенты, мне падаецца, уваходзілі ў склад казачнай рэцэптуры ва ўсе часы.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі з 77-годдзем. "Падзвіжніцкае духоўнае служэнне, мудрасць і жыццёвы вопыт прынеслі Вам аўтарытэт у праваслаўным свеце. Упэўнены, што Вы яшчэ доўгія гады будзеце працаваць на карысць Беларусі і хрысціянскай веры", — сказана ў віншаванні.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка накіраваў віншаванне народнай артыстцы Расіі Мары Пахоменцы з нагоды юбілею: "У Беларусі па праве ганарацца Вамі — нашай выдатнай землячкай і цудоўнай спявачкай, чые пяшчотныя, лірычныя песні блізкія і зразумелыя людзям розных пакаленняў. Ваша мастацтва — гэта каштоўны ўнёсак у развіццё дружбы і культурных сувязей братніх народаў нашых краін".

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста Расійскай Федэрацыі Арыстарха Ліванава з 65-годдзем. Кіраўнік дзяржавы адзначыў, што на беларускай зямлі жыве нямала прыхільнікаў творчасці юбіляра, і пажадаў, каб дзейнасць артыста і надалей аб'ядноўвала нашы народы.

✔ Падчас рабочай сустрэчы міністра культуры Беларусі Паўла Латушкі з Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Катара ў Расійскай Федэрацыі і Рэспубліцы Беларусь Ахмедам Аль-Мідадзі абмяркавана падрыхтоўка Дзён культуры Катара ў Беларусі, якія пройдуць у маі. У рамках мерапрыемства плануецца падпісанне Выканаўчай праграмы культурнага супрацоўніцтва паміж Урадамі Беларусі і Катара.

✔ Намеснік міністра культуры Беларусі Тадэуш Стружэцкі сустрэўся з дырэктарам індыйскага офіса тэлеканала Asian News Channel Санджывам Малікам і старшынёй аддзела па развіцці дзелавых сувязей Рамнітам Каурам. Сярод іншага абмяркоўвалася магчымасць удзелу індыйскіх кінематаграфістаў у Мінскім міжнародным кінафестывалі "Лістапад" і індыйскіх танцавальных калектываў у фестывалі "Сожскі карагод".

✔ Загадам Міністэрства культуры Беларусі мастацкім кіраўніком Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі прызначаны Аляксандр Гарцуеў, дырэктарам тэатра — заслужаны артыст Беларусі Ігар Сігаў. Былы дырэктар і мастацкі кіраўнік тэатра Валерый Анісенка будзе пераведзены на іншую пасаду ў сістэме ўстаноў Міністэрства культуры.

✔ Падведзены вынікі IV рэспубліканскага конкурсу "Жанчына года — 2011", заснавальнікам якога з'яўляецца Беларускі саюз жанчын. У ліку пераможцаў — дырэктар Антопальскага Цэнтра рамёстваў Драгічынскага раёна Галіна Сцепанюк, дырэктар рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства мастацкіх вырабаў "Слуцкія паясы" Ларыса Тарасава. Сярод тых, хто атрымаў званне "жанчына-легенда" — народныя артысткі Беларусі Наталля Гайда і Марыя Захарэвіч.

✔ Тыдзень праваслаўнай кнігі ў Гомелі распачаўся выстаўкай "Скарбы царкоўных бібліятэк Гомельскай і Тураўскай епархій", падчас якой экспанавалася больш як пяцьдзясят рэдкіх выданняў XVII — пачатку XX стагоддзяў.

Падрыхтавала
Ірына АЛЯКСАНДРАВА

*У Саюзе пісьменнікаў Беларусі*

# Конкурс як акцыя падтрымкі

**Скончыўся чацвёрты сезон міжнароднага літаратурнага конкурсу буйной рускамоўнай прозы "Триммера", што праводзіцца ініцыятыўнай групай, у склад якой уваходзяць прадстаўнікі Саюза пісьменнікаў Беларусі і Саюза пісьменнікаў Расіі. Конкурс мае на мэце падтрымку маладых літаратараў, якія працуюць у фармаце рамана і аповесці. Інфармацыйнымі партнёрамі праекта з'яўляюцца пісьменніцкія саюзы, расійскія выдавецтвы "Лениздат", "Астрель", "Аэлита" і шэраг сеткавых літаратурных пляцовак.**

Вадзім ВАЗНЯСЕНСКІ

Безумоўна, маладыя ўдзельнікі "Триммеры" — гэта будучыня рускамоўнай літаратуры. Прыемна здзівіў і якасны ўзровень пададзеных твораў, і іх колькасць.

Сезон стартаваў у пачатку верасня мінулага года. Падчас працы было разгледжана 98 раманаў рускамоўных аўтараў з розных краін — Расіі, Украіны, Казахстана, Узбекістана, Ізраіля, ЗША, Германіі. Беларусь прадстаўлялі шэсць пісьменнікаў. 50 раманаў патрапілі ў асноўную намінацыю і паводле вынікаў групавога турніра 10 з іх выйшлі ў фінал. Як членамі журы, так і ўдзельнікамі былі падрыхтаваны 87 аглядаў, рэцэнзій.

Ва ўсёй разнастайнасці жанраў і мастацкіх кірункаў, ідэй і сюжэтаў "Триммера" засталася вернай сваёй галоўнай канцэпцыі: не конкурс дзеля перамог і ўзнагарод, а пляцоўка дзеля кантактаў, абмену досведам, плённага супрацоўніцтва аднадумцаў. Менавіта такі падыход адпавядае духу маладосці і таленту, які панаваў на конкурсе.

Пераможцам у асноўнай намінацыі — сімпатый журы і чытачоў — уручаны фірменныя прызы "Триммеры" — статуэткі, выкананыя англійскай мастачкай Крысцінай Хэварт. Адзначаны таксама лепшыя крытыкі з ліку ўдзельнікаў.

У рамках партнёрскіх праграм раманы трох лаўрэатаў накіраваны для разгляду і публікацыі ў выдавецтвы, адзін прадстаўлены ў Саюз пісьменнікаў Расіі для ўзнагароджання прэміяй імя А. Чэхава.

Саюз пісьменнікаў Беларусі таксама ўручыў адметныя прызы намінантам "Триммеры" — статуэткі Еўфрасінні Полацкай, чый вобраз сімвалізуе далёкія ад прагматызму каштоўнасці — духоўнасць, творчасць і чысціню. Гэтымі прызамі ўзнагароджаны беларускі аўтар Андрэй Асмю з гістарычным раманам "Истории времён Немого сейма" і ізраільскі пісьменнік Уладзімір Пятроў-Адынец з крымінальнай драмай "Боль, Закон и Рэвенж Бред". Трэцюю статуэтку Еўфрасінні Полацкай вырашана ўручыць арганізатарам конкурсу, калектыву "Триммеры" — за аптымізм, вернасць і настойлівасць у дасягненні пастаўленай мэты.

*Да 1150-годдзя Полацка*



Валянцін Лукша прадставіў на выстаўцы тры свае кнігі.

# Ад старажытных часоў

Ірына СЛАНІМСКАЯ,
фота Кастуся Дробава

**Кніжная выстаўка "Пісьменнікі Полаччыны", прымеркаваная да юбілею горада, адкрылася ў сталічным Доме літаратара.**

Полацк як самы старажытны з беларускіх гарадоў мае багатыя літаратурныя традыцыі, закладзеныя Францішкам Скарынам, Сімяонам Полацкім і аўтарам "Жыція Еўфрасінні Полацкай". З гэтым краем цесна звязана творчасць цэлай плеяды класікаў беларускай літаратуры. Іх традыцыі паспяхова працягваюць нашы сучаснікі, выдатныя паэты і празаікі Алесь Савіцкі, Надзея Салодкая, Навум Гальпяровіч, Валянцін Лукша і многія іншыя. Прадставіць іх лепшыя кнігі чытачам і калегам — галоўная мэта выстаўкі.

Акрамя таго, Саюз пісьменнікаў Беларусі плануе арганізаваць серыю прэзентацый і творчых вечарын для полацкіх аўтараў, а таксама ўзяць удзел у святочных урачыстасцях у Полацку.

*Супрацоўніцтва*

# Прэмія шукае імя і намінантаў

Славамір АНТАНОВІЧ

Па ініцыятыве Пастаяннага Камітэта Саюзнай дзяржавы ў межах кампаніі па вылучэнні твораў на прэмію Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва за 2013 — 2014 гады ў Маскве прайшло пасяджэнне "круглага стала". Яго тэма — пашырэнне кола суіскальнікаў названай прэміі.

Пасяджэнне праводзілася з мэтай актывізацыі супрацоўніцтва паміж творчымі саюзамі абедзвюх дзяржаў. Таму падчас яго было выказана шмат прапаноў адносна паляпшэння інфармацыйнага суправаджэння прэміі, актывізацыі творчых саюзаў і арганізацый па ўдзеле ў вылучэнні твораў. Пра актуальнасць і неадназначнасць узнятых пытанняў гаворыць і той факт, што яны ўжо абмяркоўваліся падчас падобнага пасяджэння, якое праходзіла ў Мінску ў кастрычніку мінулага года.

Як было зазначана падчас "круглага стала", плануецца прадоўжыць работу па прыцягненні рэгіянальных творчых аб'яднанняў і арганізацый сферы культуры. З гэтай мэтай запланаваны спецыяльныя акцыі ў Цверы, Уладзіміры, Вялікім Ноўгарадзе (Расія), Брэсце, Полацку і Гомелі (Беларусь).

Удзельнікі пасяджэння падтрымалі ідэю надаць прэміі "імя" і аб'явіць конкурс на лепшую назву прэміі.

Шырокі водгук выклікала абмеркаванне крытэрыяў, якія вызначаюць уклад мастацкага твора ва ўмацаванне адносін братэрства, сяброўства і ўсебаковага супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Расіяй. Актыўна абмяркоўвалася і тэма ўдзелу ў конкурсе маладых творцаў, прыцягнення ўвагі сродкаў масавай інфармацыі.

Яшчэ адно пытанне — колькасць намінацый. Так, было прапанавана ўвесці новыя намінацыі, паменшыць грашовы эквівалент прэмій і павялічыць іх колькасць, прадаставіць магчымасць дзялення і заснавання заахвочвальных і спецыяльных прэмій.

*За падзеяй*

# Патрыятызм у розных жанрах

Людміла КЕБІЧ,
старшыня Гродзенскага абласнога аддзялення СПБ

"Той край легендай апавіты…" — так называецца трэці зборнік, выдадзены ў гімназіі № 5 г. Гродна, у які ўвайшлі матэрыялы творчых работ вучняў сярэдніх і старшых класаў. Аздоблена кніга ілюстрацыямі маладых мастакоў гімназіі. Ініцыятар і ўкладальнік зборніка — таленавіты педагог і літаратар, чалавек з неабыякавай паэтычнай душой Марына Казлоўская.

Вучні гімназіі паспрабавалі акрэсліць унутраную прастору свайго "я", вызначыць найбольш цікавыя старонкі гісторыі любага горада і краіны, перадаць свае ўражанні, роздумы. Таму зборнік стаў заканамерным вынікам творчасці навучэнцаў, што адчувалі неабходнасць у самавызначэнні сябе як грамадзян нашай краіны, як адданых патрыётаў Гродзеншчыны.

Чатыры раздзелы зборніка — гэта чатыры прыступкі да свайго "я", сваёй душы, сваіх каранёў. Праз творы раскрываюцца аўтары, якія надзелены асаблівай назіральнасцю — уменнем бачыць душой. І гэта менавіта яны — будучыня Беларусі.

*Праекты*

# Замілаванне родным словам

Ніна ДРЫК

Брэсцкія настаўнікі беларускай мовы і літаратуры ўзялі актыўны ўдзел у літаратурных чытаннях "Радком тваім, о, Берасцейшчына, я смагу наталяў не раз". Гэта другая частка сумеснага праекта аддзела адукацыі адміністрацыі Маскоўскага раёна горада Брэста і Грамадскага аб'яднання "Белая Русь".

Шырокая панарама тэм, прадстаўленых настаўнікамі, уразіла і здзівіла прысутных. Сапраўдныя рупліўцы і падзвіжнікі беларускага мастацкага слова, яны падрыхтавалі грунтоўныя даклады, прысвечаныя творчасці сучасных беларускіх аўтараў і пісьменнікаў XX стагоддзя, якія па праве лічацца класікамі айчыннай літаратуры. Старанна і з любасцю адабраны цытаты з літаратурных тэкстаў для ілюстравання дакладу, яркая прэзентацыя, умела выкарыстаныя ўспаміны пра творцаў упрыгожылі выступленні, шэраг з якіх можа пры далейшай працы ператварыцца ў манаграфіі.

Прысутным было прапанавана звярнуцца да кніг Міколы Пракаповіча, Валерыя Гапеева, Уладзіміра Калесніка, Ніны Мацяш; духоўна ўзбагаціцца праз літаратурныя творы Зінаіды Дудзюк, Георгія Марчука, Ярaслава Пархуты; задумацца над вобразным словам Раісы Баравіковай, Яўгеніі Янішчыц, Алеся Каско.

Гучала беларускае слова ўзнёсла і пераканаўча, нараджаючы ў сэрцах гонар і замілаванне. Замілаванне прыгажосцю роднай мовы. Гонар за родную літаратуру.

Літабсягі

# «Вечная Вандроўніца» Алена

**Вечар памяці паэтэсы Алены Пяхоты прайшоў у Мінскай абласной бібліятэцы імя Аляксандра Пушкіна.**

**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА, фота Кастуся Дробава**

Сузор'е вершаў, любоўна запаленых агнём натхнення Алены Пяхоты, радавала яркім святлом многіх. Яна пісала ў рэдкім для паэта жанры фэнтэзі, расчыняючы перад чытачамі дзверы то ў эльфійскі край вечнай маладосці і прыгажосці, то ў зямлю суровых і справядлівых славянскіх багоў і герояў. Яна давала нам паспрабаваць на смак таямнічы зёлкавы напой вядунні, адчуць цяжар мяча і баявой сякеры, пачуць спевы сірэн, упрыгожыць галаву вянком пераможцы ці то княжаскім вянцом, зазірнуць у чалавечыя мудрыя вочы на звярынай пысе ваўкалака. Магло падацца, што паэтэса імкнецца адмежавацца ад свету рэальнага, будуючы вакол сябе чарадзейны. Але гэта не так. Таму што паэтычны шлях, абраны ёй, насамрэч вёў кожнага да спазнання сябе сапраўднага. Не стомленага і мітуслівага. А таго, хто падпарадкоўваецца толькі законам прыгажосці, якую трэба стварaць кожным словам і справай. Служыць толькі каханню. Нясе ў сэрцы іскру адвагі і пачуццё гонару.

Алена Ануфрыеўна была падобная да сваіх рамантычных герaiнь нават знешне — прыгожая, статная, залатавалосая. Спачатку — рамантычная каханая, пасля — таямнічая берагіня, пра энцыклапедычныя веды якой літаральна хадзілі легенды. У старасці… Старасць яе не кранула. Вестка пра заўчасную смерць паэтэсы ад каварнай і няўмольнай хваробы ўзрушыла і ахінула горыччу тых, хто любіў яе.

Выступаючы на вечарыне, старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхась Пазнякоў падзяліўся ўспамінамі пра тое, як рыхтавалася да друку апошняя паэтычная кніга Алены Пяхоты. Яна з'явілася ў славутай серыі "Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі". Ужо прыкаваная да ложку, хворая паэтэса вычытвала гранкі, загадваючы сабе дажыць да выхаду кнігі. Не здарылася. Выданне стала пасмяротным.

Пра жонку, у якую закахаўся з першага погляду, аднойчы і назаўсёды, цёпла і даверліва расказваў мастак Генадзь Пяхота: "Алена была такой багатай духоўна асобай, што я, нібыта зачараваны, мог весці з ёю размовы гадзінамі, на працягу многіх гадоў чэрпаючы з яе вялікіх ведаў усё новыя тэмы для натхнення".




Уплятаючы ў вершы хрысціянскія і язычніцкія вобразы, спалучаючы ўсходнюю і заходнюю міфалогіі, паэтэса неаднаразова прызнавалася чытачу: яе вабіць ідэя вандровак у часе, усё новых нараджэнняў пасля заканамернай зямной смерці. "Вечная Вандроўніца" Алена, няхай душы тваёй будзе па тваёй веры! Бо і на самай справе паэты не паміраюць, пакуль іх вершы чытаюць.

Артлінія

**Валянціна ДРАЗДОВА**

# Музыка ў музеі

**Выстаўка, што адкрылася ў Дзяржаўным музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі, знаёміць з нашымі таленавітымі суайчынніцамі — сучаснымі актрысамі, з іх сцэнічнай дзейнасцю, складанай, шматграннай працай над яскравымі і змястоўнымі жаночымі вобразамі. Экспазіцыя, названая "Музыка вясны", уключае фотаздымкі, афішы і праграмы, сцэнічныя строі, звязаныя з творчасцю салістак НАВТ оперы і балета Рэспублікі Беларусь Алены Шведавай, Алены Бундзелевай, Аксаны Якушэвіч; артыстак Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра Ганны Бяляевай, Наталлі Дзяменцьевай, Ілоны Казакевіч.**

Выстаўка "Музыка вясны" — вынік сумеснай працы музея з вядучымі тэатральнымі калектывамі. Яна звяртае ўвагу на сольныя праекты кожнай з герaiнь экспазіцыі, прымушае прыглядзецца да іх творчасці, убачыць тое, што не вядома шырокаму гледачу.

"Бісерная сапрана", "салістка высокай вакальнай культуры", "выдатны майстар вакалу" — усё гэта эпітэты таленту Алены Шведавай. Яе оперныя партыі дапаўняе канцэртны рэпертуар: араторыі, кантаты, рамансы. Спявачка выступае разам з Прэзідэнцкім аркестрам Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўным камерным аркестрам Беларусі, з іншымі музычнымі калектывамі. Яе голас гучаў у самых прэстыжных канцэртных залах свету.

Яшчэ адна салістка оперы Аксана Якушэвіч (мецца-сапрана) спявала сольныя партыі ў спектаклях Бакінскага тэатра оперы і балета і Нацыянальнай оперы Украіны ў Кіеве; удзельнічала ў Днях культуры Рэспублікі Беларусь у Таджыкістане, Расіі, у гастрольным турнэ тэатра па Германіі, Венгрыі, Тунісе, Нідэрландах.

Выдатнае сапрана Алены Бундзелевай гучыць не толькі ў НАВТ оперы і балета Беларусі. Знаная спявачка выступала ў Іспаніі, Тайландзе, Швецыі, Германіі.




*На адкрыцці выстаўкі.*

Артыстка-вакалістка БДАМТ Ганна Бяляева супрацоўнічае з рознымі беларускімі калектывамі: аркестрам Мінскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя М. Глінкі, аркестрам народных інструментаў БДУ культуры і мастацтваў. Маладую спявачку неаднойчы запрашалі ў адметныя праекты, сярод якіх — запіс оперы-араторыі "Свяціцель Ермаген" у Расіі; пастаноўкі опернай студыі Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі; опера "Юбілей" на сцэне Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі; музычны перформанс, прысвечаны Марку Шагалу.

У Беларускім дзяржаўным акадэмічным музычным тэатры працуе і Наталля Дзяменцьева, якой давялося гастраляваць у складзе харавых калектываў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, удзельнічаць у міжнародных харавых фэстах у Італіі, Францыі, Іспаніі. Як і іншыя герaiні выстаўкі, яна мае некалькі конкурсных узнагарод. А яшчэ Наталля з'яўляецца стыпендыянтам спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі.

Ілону Казакевіч публіка добра ведае як удзельніцу мюзіклаў, рок-опер, музычных рэвю і пастановак для дзяцей на сцэне БДАМТ. Але мала хто з яе прыхільнікаў ведае, што гэтая артыстка ўваходзіла ў склад трупы Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага (з 2000 па 2008 г.).

Падчас адкрыцця выстаўкі, прысвечанай выдатным артысткам сучаснай музычнай сцэны, адбыўся канцэрт, які напоўніў музейную залу вясновым настроем.

Повязі

# Геній паэзіі Лі Бай

**Дар'я ШОЦІК, фота аўтара**

**У Доме дружбы адбылася літаратурна-музычная вечарына, прысвечаная жыццю і творчасці класіка кітайскай літаратуры Лі Бая, падчас якой былі прадстаўлены пераклады яго твораў на рускую і беларускую мовы.**



*Лі Цзо падчас аўтограф-сесіі.*

Творчасць Лі Бая, вядомага паэта і філосафа дынастыі Тан, з'яўляецца каштоўнай для ўсяго чалавецтва. Сучаснікі называлі яго Зорка Тай Бай. Вершы Лі Бая — сапраўдныя шэдэўры. Кожны радок напоўнены гармоніяй, яркімі вобразамі, вызначаны рытм стварае меладычнасць пачуццяў, эмоцый, выяўленых у лірыцы.

"У дынастыі Тан паэтаў шмат, як зорак на небе, а Лі Бай адзін з іх. Ён самы мудры, справядлівы, ганарлівы і чароўны Танскі, рамантычны паэт. Яго казачнае жыццё і выдатныя вершы пакінулі ў душы наступных пакаленняў глыбокую асалоду да чалавечай і прыроднай Прыгажосці", — распавёў у прадмове да кнігі "Лі Бай. Сто выбраных лірык" паэт, перакладчык, майстар каліграфіі Лі Цзо.

Кніга пабачыла свет у выдавецтве "Мастацкая літаратура" пры падтрымцы Пасольства Кітайскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь.

На пачатку вечарыны кожны госць і ўдзельнік атрымаў кнігу.

Літаратурна-музычную вечарыну вёў старшыня Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, галоўны рэдактар газеты "Звязда" Алесь Карлюкевіч. Алесь Мікалаевіч зачытаў прывітальны ліст, які даслаў вядомы кітайскі літаратар Гао Ман, перакладчык вершаў Максіма Танка і іншых беларускіх пісьменнікаў на кітайскую мову. З прывітальным словам і падзякай да прысутных звярнулася саветнік па культуры Пасольства Кітайскай Народнай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь спадарыня Ван Жуй. Таксама выступілі паэт, перакладчык Лі Цзо, паэт, дырэктар радыёстанцыі "Беларусь" Навум Гальпяровіч, паэт і перакладчык, галоўны рэдактар часопіса "Полымя" Мікола Мятліцкі ды іншыя. Лі Эрун аспірант Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, прадставіў песенную спадчыну Лі Бая.

— Нягледзячы на тое, што кітайскі і беларускі народы пражываюць далёка адзін ад аднаго, паразуменне і сяброўства мацнее, — зазначыла спадарыня Ван Жуй. — Да таго ж, прадстаўлена магчымасць для лепшага вывучэння кітайскай літаратуры.

Тэматыка вершаў Лі Бая самая разнастайная, а яго мастацкае слова вядома многім. Галоўнае, каб творчую зорку памяталі і шанавалі.

З-пад пяра

➤ Сучасная беларуская дзіцячая літаратура пачынае асвойваць прасторы замежжа. Зусім нядаўна вядомы літоўскі пісьменнік і кнігавыдавец Яромінас Лаўцюс пераклаў дзевяць арыгінальных казак беларускага пісьменніка Георгія Марчука з цыкла "Прыгоды Агапкі і ката Фокуса". Яны былі надрукаваны ў дзіцячым часопісе "Žvaigždytė" і выклікалі вялікую цікавасць у юных літоўскіх чытачоў. Вясёлыя, дасціпныя, каларытныя героі казак Георгія Марчука маюць поўнае права прадстаўляць Беларусь і беларускую літаратуру ў краінах блізкага і далёкага замежжа.

**Ірына АЛЯКСАНДРАВА**

➤ Кніга апавяданняў брэсцкага празаіка Сяргея Цыплюка "Полымя ранішняй зары" была прэзентавана ў спецбібліятэцы № 12 г. Брэста. Галоўныя героі большасці твораў — моладзь 1960 — 1970-х гадоў. На прэзентацыю сабраліся вядомыя берасцейскія пісьменнікі, бібліятэкары, музыканты, мастакі і, безумоўна, чытачы. З цёплымі словамі выступілі калегі-літаратары. Мастачка Галіна Жорж расказала, як яна працавала над ілюстраваннем кнігі. У гонар аўтара Паўла Лукашэвіч і Эдуард Пішчык выканалі песні.

**Надзея ПАРЧУК**

➤ Адзін з самых папулярных сярод турыстаў музеяў Віцебшчыны — Музей Марка Шагала. У 2012-м, юбілейным для вялікага мастака годзе, яго супрацоўнікі вырашылі правесці цікавую акцыю. Наведвальнікам прапануюць паспрабаваць сябе ў тэхніцы манатыпії, якая спалучае эстамп і жывапіс. Дзеля гэтага для турыстаў з сярэдзіны мая да канца верасня стануць праводзіцца спецыяльныя майстар-класы. Усе творы самадзейных графікаў будуць праштампаваны знакам "Зроблена ў музеі Марка Шагала" і ператворацца ў непаўторныя сувеніры на памяць пра знаёмства з работамі і жыццём вялікага майстра.

**Лізавета БАГАДЗЯЖ**

➤ 28 сакавіка ў галерэі "Ракурс" Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі адкрылася V Мінская міжнародная выстаўка графікі "Арт-лінія". Сёлета ў праекце ўзялі ўдзел мастакі з Беларусі, Расіі, Украіны, Таджыкістана, Казахстана, Польшчы, Бельгіі ды іншых краін. Побач з творамі сталых і прызнаных майстроў экспануюцца работы маладых графікаў, студэнтаў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Рэтраспраграма выстаўкі прадстаўляе калекцыю эстампаў бельгійскага мастака-сімваліста Фелісьена Ропса. Яшчэ адна адметнасць "Арт-ліні": у галерэі "Ракурс" можна пабачыць работы мастакоў-удзельнікаў творчых майстэрняў "Сенеж" (Расія), якія доўгі час узначальваў народны мастак Беларусі Георгій Паплаўскі

**Дзмітрый ХВОЙНЫ**

➤ Навуковая праца Архіепіскапа Віцебскага і Аршанскага Дзмітрыя "Віцебская епархія: гісторыя і сучаснасць", абароненая ім у Кіеўскай Духоўнай Акадэміі, нядаўна выдадзена асобнай кнігай. Праца закранае перыяд з часу прыняцця хрысціянства да пачатку XXI ст. Асаблівы інтарэс уяўляе раздзел па гісторыі епархіі XX ст. Яго аснову склалі ўспаміны відавочцаў, матэрыялы закрытых раней архіваў НКУС, дакументы часоў фашысцкай акупацыі, а таксама статыстычныя дадзеныя савецкага перыяду пра колькасць вернікаў і парафіі пра разбураныя і закрытыя храмы епархіі. Кніга з'яўляецца ўнікальным гістарычным даведнікам.

**Алексій МАРКЕВІЧ**

# Ці захаваем Дом Гарэцкага?

Ірына ТУЛУПАВА

**У Горках не сціхаюць чуткі пра незайздросны лёс дома, у якім у 1926 — 1928 гадах жыў класік беларускай літаратуры Максім Гарэцкі. Прычым, спрэчкі выйшлі на агульнарэспубліканскі ўзровень.**

Сутнасць праблемы патлумачыў начальнік упраўлення культуры Магілёўскага аблвыканкама Анатоль Сінкавец:

— Максім Гарэцкі нарадзіўся ў Мсціслаўскім раёне, у вёсцы Багацькаўка створаны музей пісьменніка. У Горках, у бібліятэцы, якая носіць яго імя, ёсць куточак Гарэцкага. Але на вуліцы Агранамічнай стаіць і дом, дзе пісьменнік жыў два гады. Будаўнічая служба цяпер рыхтуе заключэнне, быццам дом гэты аварыйны. Хаця Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і абласное ўпраўленне культуры прапануюць пакінуць будынак, правесці кансервацыю і пасля Дажынак, якія сёлета пройдуць у гэтым рэгіёне, прывесці яго ў парадак, заснаваць Дом-музей і мемарыяльную кватэру Гарэцкага. Экспазіцыю з бібліятэкі тады можна было б перанесці сюды. Уласнікам будынка цяпер з'яўляюцца камунальныя службы, яны пастанавілі, што гэта старое жыллё, жыхарам прапанавалі адсяленне, і ўсё часцей чуеш размовы пра тое, што дом ідзе пад знос, а на яго месцы пабудуюць пяціпавярховік.

Галасы ў абарону Дома Гарэцкага ў Горках прагучалі на калегіі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, дзе было вырашана накіраваць у горад прадстаўнікоў рэспубліканскай навукова-метадычнай рады па пытаннях гісторыка-культурнай спадчыны. Тым больш што чатыры помнікі, якія размяшчаюцца ў раёне, збіраюцца вывесці з Дзяржаўнага спіса гісторыка-культурных каштоўнасцей. Трохі раней згаданая Рада выязджала ў горад з мэтай вырашэння лёсу памяшкання стаматалагічнай палiклінікі на вуліцы Леніна, 22, якое таксама лічыцца помнікам архітэктуры. Тады Рада не дала дазволу вывесці яго са спіса каштоўнасцей і рэкамендавала аднавіць у першапачатковым выглядзе. Гаворка ідзе і пра тры іншыя пабудовы. Па вуліцы Мічурына, 3 — цяперашні жылы дом, пабудова 1932 — 1934 гг., выкананая ў стылі канструктывізму; таксама корпус па вуліцы Ціміразева, 6 (1855 г.!) і дом, які фактычна прымыкае да корпуса — па Ціміразева, 4 — былы інтэрнат для студэнтаў.

— Усе памяшканні можна выкарыстоўваць — размясціць дом і школу рамёстваў, вакальна-харавую школу, — прапануе Анатоль Сінкавец.

Кватэру Гарэцкага ёсць чым напоўніць. Як паведаміла загадчыца аддзела маркетынгу Цэнтральнай бібліятэкі імя М. Гарэцкага Ірына Зінковіч, у кніжніцы пастаянна разгорнуты дзве экспазіцыі, прысвечаныя пісьменніку. Адна — на абанеменце, другая — у чытальнай зале. Сярод экспанатаў — бюст М. Гарэцкага, створаны З. Азгурам, карціна магілёўскага мастака В. Шпака, падораныя кніжніцы на 100-годдзе М. Гарэцкага. Тады ж бібліятэцы было прысвоена імя знанага пісьменніка. Захоўваюцца тут шматлікія фотаздымкі з мерапрыемстваў з удзелам сучасных творцаў, пісьмы дачкі з Санкт-Пецярбурга Галіны Гарэцкай — бібліятэка доўгі час вяла з ёю перапіску. Цікавыя фотаздымкі сям'і, вясковай хаты, дзе нарадзіўся М. Гарэцкі, шпіталя, у якім лячыўся пісьменнік. Ёсць таксама яго юбілейны медаль. Штогод у лютым кніжніца праводзіць тыдзень прапаганды творчасці М. Гарэцкага. Падрыхтаваны электронная прэзентацыя "Старонкамі жыцця і творчасці М. Гарэцкага", буклеты, выдадзеныя бібліятэкай, даведнік "Горацкі Гарэцкі", складзены супрацоўніцай бібліятэкі Аленай Марозавай.

Галоўнаму архітэктару вобласці Дзмітрыю Дуднічэнку ўжо пакладзена на стол заключэнне арганізацыі "Магілёўпраектсэрвіс", зробленае па замове вытворчага прадпрыемства "Камунальнік". У ім — вынікі абследавання будаўнічых канструкцый дома, дзе жыў Гарэцкі. Цяпер лёс будынка будзе вырашацца ў абласным выканаўчым камітэце, дзе створана адпаведная камісія. На канец гэтага тыдня запланавана яе пасяджэнне, галоўнае пытанне на якім — ці магчыма аднавіць дом і як увекавечыць памяць знанага земляка.

Зазначым: дом пабудаваны ў 1925 годзе. Ён не ўваходзіць у Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей.

Што да іншых згаданых пабудоў, то Рада, якая наведала горад у панядзелак, адназначна выказалася за захаванне іх у Дзяржаўным спісе гісторыка-культурных каштоўнасцей.

*Партрэт на фоне кнігі*

# Стан улюбёнасці і замілаванасці

**Размаўляць з Людмілай Кебіч і прыемна, і адначасова нялёгка. Прыемна таму, што паэзія яе неяк далікатна і арганічна кладзецца на любую душу, што прагне разумення і парады. Нялёгка таму, што пры ўсёй знешняй адкрытасці паэткі адчуваеш нейкі бар'ер, за якім Людміла Антонаўна цнатліва хавае вялікі кавалак сябе ад цікаўнасці людзей, ёй няблізкіх. Не, гэта не мае нічога агульнага з няшчырасцю. Проста Людміла Кебіч, мудрая жанчына, валодае рэдкім у нашы часы талентам аддзяляць асабістае ад інтымнага.**

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

По паэтычных кнігах Людмілы Кебіч разліта цэлая палітра асабістых пачуццяў, што ўзнікаюць ад сузірання харства і дасканаласці створанага Богам сусвету. Вясна, якая штогод прыходзіць у цеплыні і пяшчоце сваёй, нагадваючы пра Дараванне і Рай. Напоўненае птушынымі спевамі і "белагрудымі аблачынамі" неба над жытнёвым полем, "дзе жнейкі сонечным праменнем перапяразваюць снапы". Здаецца, Стваральнік — галоўная дзейная асоба ўсіх яе вершаў, хаця яны маюць цалкам свецкае аблічча. Бога спазнае паэтка праз Яго тварэнні. Да Бога звяртаецца ў моманты суму і болю, у Яго просіць літасці і любові да роднай зямлі, людзей, якія жывуць на ёй, і — даравання для сябе. Бо няма сярод людзей бязгрэшнага. Тое, што светам кіруе любоў, для Людмілы Антонаўны рэч, якую не трэба нават і даказваць. І ўжо, безумоўна, з гэтай пазіцыі любоўю, каханнем, шкадаваннем, замілаваннем проста павінны быць напоўненыя паэтычныя радкі.

— Каб быць паэтам і пісаць добрыя вершы, — кажа яна, — неабходна знаходзіцца ў стане ўлюбёнасці пастаянна, таму што гэтае пачуццё — не толькі ўзнёсласць, вясёлкавасць і радасць, але і боль, душэўная нераўнавага, пакуты, расчараванні, жарсці. Усё гэта з'яўляецца базавым падмуркам паэтычнай творчасці.

І дадае з уздыхам:

— Перабрала дзясяткі імёнаў славутых і не надта паэтаў, колішніх і сучасных, і не знайшла лёгкіх і шчаслівых лёсаў. Уручыць Бог паэту пяро залатое, ды нешта за гэта адыме другое, — гэта, на жаль, сапраўды так.

Некалькі слоў, што выляцелі знянацку і зноў — зачыненыя ў нетры інтымных перажыванняў дзверы. Гэта датычыць толькі яе адной!

Аднак паэзія — усё ж такі шлях, вызначаны Нябёсамі. І таму ён не можа быць па сутнасці сваёй шляхам суму і слёз, як бы горка іншы час не даводзілася самому паэту. Знак Божы, вылучанасць, дабраслаўленне Нябёсаў Людміла Антонаўна адчула яшчэ ў дзяцінстве, калі, патрапіўшы ў храм, дзе бацька яе мусіў аднавіць іканастас, была пасля экскурсіі на клірас і званіцу раптам уведзена святаром проста ў "царскія брамы", святая святых, куды жанчынам ва ўсе часы забаронены ўваход. Чаму слуга Божы вырашыў учыніць такое? "Можа, ён ва мне паэтку ўбачыў у яшчэ дзіцячыя гады?" — разважае ў адным са сваіх самых вядомых і самых яркіх вершаў Людміла Антонаўна.

Так, паэтка — не зусім жанчына, паэтка паўстае па-над жаночай існасцю, прыраўноўваючы жанчыну ў вачах Божых да мужчыны. І — адначасова вельмі часта пазбаўляючы мужчынскай ўвагі да яе як да асобы супрацьлеглага полу. Сямейны дабрабыт, звычайныя выверaныя тысячагадовым жаночым вопытам стасункі з дзецьмі, — усё прыходзіць у супярэчлівасць.

— Быць паэткай — гэта не штосьці надзвычайнае, — кажа Людміла Антонаўна. — Але гэта — складана. Ва ўсім. Ад успрымання свету ёю і яе светам да штодзённага жыцця і душэўнага стану. Жанчына-паэтка — гэта ахвяра і ахвярнасць. Яна асуджана на вечную ўнутраную адзіноту і немагчымасць быць да канца зразуметай…

Але паэт — Божы суразмоўца, і гэта ні з чым не параўнальная радасць. "Вера мая — як расінка празрыстая / На травах, не зрушаных коскай. / Вера мая — ты слязінка ўрачыстая / На ліку святым Маткі Боскай".

Вера і паэзія для Людмілы Кебіч непарыўна звязаныя. І таму абедзве яны — вытокі маладосці душы. Гэта — яе асабістая філасофія, тым не менш блізкая многім творцам.

— Па стане сваім, — кажа Людміла Антонаўна, — паэзія заўжды маладая. Інакш быць не можа, таму што паэзія — гэта вечнае адкрыццё і спазнанне свету, сваёй асобы, су- і супрацьпастаўленне сябе яму, вечныя пошукі адказаў на адвечныя пытанні праз раскопкі ўласнай душы, гэта — невераготны рамантызм і



максімалізм. Таму паэзія, як правіла, бярэ пачатак з маладых душ і калі не пакідае з часам іх, дык застаецца маладой назаўжды. Прыгадайце хаця б Зоську Верас або Цютчава…

Я прыгадваю Зоську Верас. А яшчэ — Элізу Ажэшку, хаця яна зусім не была паэткай. І чамусьці Еву Фялінскую, якая і наогул пісала не мастацкія творы, а мемуары. За шляхетнасцю і вытанчанасцю кожнай з гэтых пань ад літаратуры — магутны стрыжань характару, які ператварае проста літаратарку ў асобу. Такі стрыжань, устойлівы і непахісны, як земная вось, мацуе і Людмілу Кебіч, якая, здаецца, дзякуючы сваёй веры і сваёй паэзіі застанецца стаяць на нагах нават калі ўвесь свет паўстане на галаву. І што б ні здарылася, будзе сцвярджаць: Бог літасцівы да людзей; зямля — самае каштоўнае, што мы маем; каханне чалавечае — найвышэйшы Божы дар, пасланы нам; разуменне і спагада — галоўная радасць чалавека, самота — самае цяжкае выпрабаванне…

Трываласць Людмілы Кебіч дапамагае ёй сёння кіраваць Гродзенскай абласной арганізацыяй Саюза пісьменнікаў Беларусі, самаахвярна абараняючы прэстыж пісьменніка і пісьменніцкай працы. На шчасце, не насупераk творчасці. Пра тое сведчаць усё новыя яе кнігі, якія з'яўляюцца ў бібліятэках і на паліцах магазінаў. Кнігі запатрабаваныя, чаканыя, асуджаныя на любоў чытачоў, бо ў іх так шмат асабістага і амаль зусім няма інтымнага.

*Юбілеі*

## Пяро не ведае спачыну

28 сакавіка ветэрану журналістыкі і літаратуры, майстру слова, які даў пуцёўку ў жыццё многім — цяпер ужо знакамітым — пісьменнікам і журналістам, актыўнаму ўдзельніку партызанскай барацьбы ў гады Вялікай Айчыннай вайны, заслужанаму дзеячу культуры Беларусі, члену Саюза пісьменнікаў Беларусі Аляксею Каўко споўнілася 90.

За гэты багаты на творчыя здабыткі і проста добрыя, годныя справы час Аляксеем Трафімавічам напісана і апублікавана больш як 90 апавяданняў, безліч гумарэсак, аповесць "На крутых паваротах", дакументальная аповесць "Партызанскія былі". Творы ахвотна змяшчалі на сваіх старонках часопісы "Маладосць", "Вожык", "Работніца і сялянка", "Родная прырода", рэспубліканскія і рэгіянальныя газеты, калектыўныя зборнікі.

Вартая павагі ды пераймання і журналісцкая біяграфія Аляксея Каўко: рэдактар Жабчыцкай райгазеты "Новы шлях", супрацоўнік газеты "Палеская праўда", рэдактар газеты палітаддзела Лагішынскай МТС, уласны карэспандэнт Брэсцкай абласной "Зари", рэдактар Лунінецкай райгазеты "Авангард", намеснік рэдактара міжраённай газеты "Ленінскі шлях". З 1965 года і да выхаду на заслужаны адпачынак — рэдактар Іванаўскай райгазеты "Чырвоная звязда".

Пяро таленавітага творцы не ведае спачыну і па сёння.

Шаноўны Аляксей Трафімавіч, радуйце і надалей чытачоў новымі публікацыямі! Шчодрага даўгалецця вам!

**Брэсцкае абласное аддзяленне СПБ,**
**Брэсцкая абласная арганізацыя**
**Беларускага саюза журналістаў**

*За падзеяй*

## Кнігі для гімназістаў

У сталічнай гімназіі № 23 адбылася сустрэча прадстаўнікоў Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі і выдавецтва "Чатыры чвэрці" з вучнямі старэйшых класаў. У ёй удзел узялі Міхась Пазнякоў, Раіса Баравікова, Уладзімір Мазго, Павел Саковіч, а таксама супрацоўнікі выдавецтва Наталля Карасёва і Дзяніс Раманаў.

Міхась Пазнякоў перадаў школьнай бібліятэцы кнігі беларускіх паэтаў і пісьменнікаў. Выдавецтва таксама падарыла кнігі, выдадзеныя сумесна з СПБ.

Выступоўцы чыталі вершы, распавядалі пра рэспубліканскія літаратурныя выданні — часопісы "Полымя", "Маладосць", "Вожык". Раіса Баравікова запрасіла вучняў ў касмічнае падарожжа па матывах сваёй кнігі "Казкі астранаўта", а Павел Саковіч прапанаваў гумарыстычную віктарыну ад часопіса "Вожык". Паспрабаваць сябе ў літаратурнай творчасці прапанаваў моладзі Уладзімір Мазго. Міхась Пазнякоў расказаў пра ўмовы конкурсу паэзіі сярод моладзі.

Сустрэча творцаў і кнігавыдаўцоў з чытачамі, а магчыма, і будучымі калегамі, атрымалася пасяброўску цёплай.

Наталія КАРАСЁВА

Галіна БАГДАНАВА-САЧАНКА,
фота Аляксандра Дзмітрыева

# Без любові няможна!

## Суб'ектыўныя нататкі з нагоды вяртання "Людзей на балоце" да купалаўцаў



*Ганна ў выкананні Валянціны Гарцуевай.*

## Посттрадыцыя

Менавіта гэтым тэрмінам хочацца сёння акрэсліць постмадэрнізм у кантэксце не толькі выяўленчага, але і тэатральнага беларускага мастацтва. Памятаючы пры гэтым, што для творцы XXI стагоддзя традыцыяй сталі і кубізм, і сюррэалізм, і Станіслаўскі, і Брэхт, і тэатр абсурду. Ведаючы, што аўтар інсцэніроўкі і рэжысёр-пастаноўшчык новага прачытання мележаўскай палескай хронікі (спектакль створаны паводле раманаў "Людзі на балоце" і "Подых навальніцы") Аляксандр Гарцуеў у сваіх ранейшых, адзначаных шматлікімі рэспубліканскімі і міжнароднымі ўзнагародамі пастаноўках прадэманстраваў бездакорнае валоданне стылістыкай самых розных кірункаў і плыняў. Полюсам прэм'еры "Людзей на балоце" ў ягонай творчасці я б назвала постабсурдысцкую з сюррэалістычным прысмакам "Крывавую Мэры" па п'есе Дзмітрыя Бойкі.

Але Мележ — гэта няспешная палеская плынь, гэта не проста класічны рэалізм, гэта рэалізм этнаграфічны, дыялектычны. Так, не сацыялістычны, а менавіта дыялектычны (ад словаў "дыялект" і "дыялектыка") — сцвярджаю гэта на правах паляшучкі. Але я чамусьці была ўпэўнена, што пострэалістычныя "Людзі на балоце" Аляксандра Гарцуева мусяць адкрыць для мяне нешта новае. На падсвядомым, калі хочаце, архетыпічным узроўні.

Маё, ды не толькі маё, Палессе сёння — гэта Курані на выспе, шчарбаты штыкетнік, праз які праглядаюць і краты гісторыі, і азярод, і зоры. Гэта гукі балота, гэта водар сена і песні-"рамансы" на трасянцы, у якія пераўтварыўся аўтэнтычны, крынічны фальклор (кампазітар Дзмітрый Фрыга; мастак-пастаноўшчык Ігар Анісенка).

## Сям'я

Кажуць, разбурэнне асобы і дзяржавы пачынаецца менавіта з разбурэння сям'і. Зернем спектакля сталася не летуценнае, як аблачынка, як туман, як мроіва над балотам, **каханне,** а **любоў,** што мацуе сям'ю — найвялікшае вынаходніцтва культуры чалавечага існавання. Культура супрацьстаіць цывілізацыі. Сям'я — рэвалюцыі. Сям'я Глушакоў — традыцыйная беларуская сям'я, са сваім, уласцівым толькі ёй тэмпарытмам. Няспешным, таму што ўсё прадумана, разлічана, таму што кожны ведае свае абавязкі, таму што з малітваю, з Богам.

Пэўна, ніхто з купалаўцаў не змог бы больш дакладна перадаць самім ладам маўлення, рухам, жэстам трываласць і глыбіню палескай традыцыі, як гэта зрабіў наш народны Генадзь Аўсяннікаў. Для мяне гэта першы Глушак, да якога захацелася прыслухацца. У школьныя гады гэтага персанажа не любіла і баялася. А тут раптам задумалася: як Гаспадар усё так наладзіў? І жонка (Наталля Качаткова) на лёс не наракае. І дзеці ў іх на зайздрасць усім — адзін Яўхім (Павел Харланчук) чаговарты! Не паказаўшы на сцэне ўсіх астатніх Глушаковых сямейнікаў, Аляксандр Гарцуеў дае нам магчымасць угледзецца, услухацца ў ці не самы важны момант мацавання сям'і — узаемаадносіны бацькі і сына. Бацька прывучыў сына працаваць, хай рэзка, але цвёрда перасцярог ад граху (з Хадоськай жа Яўхім сышоўся насуперак бацькаваму папярэджанню, парушыў традыцыю). Але калі сын — будучыня роду — настойвае на сваім, выбраўшы ў нявесты Ганну Чарнушку, бацька выбухае, а потым маўчыць. Старэйшы саступае перад будучыняй. У нейкі момант раптам разумееш, што ўсё было б неяк інакш, можа, не гэтак трагічна, каб не парушыўся выпрацаваны стагоддзямі напружаны сямейны Глушакоўскі тэмпарытм. Не кожны род такое вытрымае. Працуюць, моляцца, ізноў працуюць... І кахаць пэўна ж Глушакі ўмеюць. Без кахання, бацькоўскай любові такога, як Яўхім, не народзіш, не выгадуеш...

Увесь спектакль для мяне быў супрацьстаяннем няспешнага і па-свойму гарманічнага Глушакоўскага рытму (да якога, праўду сказаць, хацелі ж далучыцца і хай няпоўныя, але ж сем'і Васіля Дзятліка, Ганны Чарнушкі, іншых вяскоўцаў) і рэзкага, надрыўнага рытму рэвалюцыі. Апошні парушаў, разрываў найперш сямейныя традыцыі. Глушак гэта адчувае фізічна. І калі ён нервова раз-пораз паводзіць плечуком, гэта ж Глушак ад чужароднага рытму адмахваецца, ад "саранчы", як ён называе вясковую галоту. У іх рытм іншы. Адны не ведаюць меры ў п'янцы-гулянцы, другія — у ляноце, трэція — у каханні... Да Глушака яны прыходзяць як Мефістофель трыадзіны: адзін Кульгавы, другі Смяшлівы, трэці Міканор (мясцовы Дзяржынскі ў будзёнаўцы). Разважлівы, упэўнены ў сабе Гаспадар пачынае нервавацца, мітусіцца і ў нейкі момант страчвае і сувязь з зямлёю, родам (паміраe ўнучка Вера, рушыцца сям'я, што была ўсім на зайздрасць), і сувязь з Богам...

Не ведаю, але мне падалося, што і бацька Ганны — Чарнушка (Генадзь Гарбук), вяжучы венік (згадайма, венік цяжэй зламіць, чым адзін пруток) і спрабуючы падзяліцца сваёю маркотай з дачкою на яе вяселлі (пры гэтым над імі, як душа памерлае Ганнінай маці — абраз Маці Боскай), ён увесь час нагадвае, мроіць пра тую ж сям'ю. І маці Васіля Алена (як заўжды дакладная і адчайная Зоя Белахвосцік) абараняе сына — працяг свайго роду. І Васіль Дзятлік (Раман Падаляка), калі не "паляцеў" з каханаю Ганнай, застаўся мянціць касу, каб скасіць пустазелле, а мо накасіць травы на сена, ён жа дзеля таго ж, дзеля сям'і застаўся... "Ня лёс, Ганно, ня лёс..." І таго не парушыш. Бо яно ад Бога.

## Рэвалюцыя

*"Зачэм, зачэм,*
*Зачэм не ўбіт*
***Я буў** ў праклятай*
*Той вайне..."*

У песні кульгавага, з параненаю рукой гарманіста Лёшы Губатага (Ігар Пятроў), якая гучыць на пачатку спектакля, я зачапілася за гэтае роднае да болю паляшуцкае "буў" і потым, як дыяменты, збірала дыялектныя словы і па ўсім спектаклі, дзе гучала не толькі музыка, але і мова. Натуральная, беларуская, з акцэнтам на мясцовую гаворку (калі параўнаць з першаю пастаноўкай купалаўцаў і фільмам Віктара Турава, тут ці не самы гарманічны, натуральны варыянт маўлення). І рэвалюцыйная, як шашкаю рассечаная савецкімі варварызмамі. Так гаворыць Лёша Губаты, Хоня (Андрэй Дробыш), Міканор (Павел Яскевіч). Не з Ганны і Васіля — з іх пачынаецца спектакль. Бо яны новыя гаспадары. Бо яны прыйшлі перамераць, перадзяліць зямлю, ссекчы наш "вішнёвы сад". У іх няма сям'і. Таму і смелыя, адчайныя. Шкода іх, з першай сцэны шкода. І дзяўчаты на іх не заглядаюцца, і Глушак не баіцца, так толькі, асцерагаецца — якая ні ёсць, а ўлада. Гэтым гора-рэвалюцыянерам не толькі перамерваць зямлю, але ж і працаваць на ёй, штыкетнік рамантаваць. Ці стане ў іх сілы, розуму, працалюбства? Хаця, згадаем, гэта ж Хоня возьме ў жонкі пакрыўджаную Яўхімам Хадоську...

*У сакавіку ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы адбылася доўгачаканая прэм'ера спектакля "Людзі на балоце" паводле твораў Івана Мележа. Рэжысёр-пастаноўшчык — лаўрэат Нацыянальнай тэатральнай прэміі Беларусі Аляксандр Гарцуеў.*

## Каханне

І ўсё ж "Людзі на балоце" былі, ёсць і будуць раманам пра каханне. Варта сёння перакласці іх, адаптаваць — свет зачытаецца. Калі ўпершыню ўзяла ў рукі Мележа, маёй Ганнай Чарнушкай была Лілія Давідовіч, якая выконвала яе ролю ў першым спектаклі купалаўцаў, дзёрзкая, з агеньчыкам у вачах. А Васілём — Генадзь Гарбук. Ціхі, патульны. У новым спектаклі Аляксандра Гарцуева Гарбук іграе бацьку Ганны. Колішні Васіль — бацька Ганны. Псіхалагічна дакладны постмадэрнісцкі ход... А потым быў мастацкі фільм Віктара Турава. І не адна я з цяжкасцю прыняла Ганну Алены Барзовай: рускай актрысе было надзвычай цяжка натуральна і проста гаварыць па-беларуску, ды яшчэ з паляшуцкім акцэнтам, у Ганны ж мова — музыка душы.

Для сённяшняй Ганны (маладой актрысы Валянціны Гарцуевай) мова яе гераіні — флейта, на якой яна што хоча, тое і выкажа. Яе прымаеш адразу. Ужо потым згадваеш, як натуральна пачуваецца маладая актрыса і ў беларускай, і ў замежнай класіцы, што яна і нашая Паўлінка, і польская, і ірландская "дзяўчына з характарам", і тое, што яна праўнучка Глеба Глебава, унучка Валянціна Белахвосціка, дачка Зоі Белахвосцік. Яна нясе ў сабе святло **сям'і**, культурнай сямейнай традыцыі.

Вось яны толькі першы раз выйшлі на сцэну, так, перакінуцца кпінамі з хлопцамі (гэта для Глушака яны новая ўлада, а для іх жа хлопцы) — дзяўчаты-сяброўкі — дзёрзкая Ганна і такая абаяльная, далікатная Хадоська (Вольга Скварцова-Кавальская), а ўжо разумееш, чаму Яўхім, першы на вёсцы хлопец, кажа, што Хадоська для яго вада, смаку ніякага, а Ганна — са смакам, пяршак. Але ж галоўнае, Ганне быў дадзены прыродай унікальны і тады, і ў наш час дар — кахаць. "Кахаць — бачыць чалавека такім, якім задумаў яго Бог і не здзейснілі бацькі!" — пісала Марына Цвятаева. Ганна выбірае не дасканалага Яўхіма, а Васіля. Рэжысёр і выканаўца ролі (Раман Падаляка) ўбачылі яго ўнурыстым, засяроджаным, заклапочаным гаспадаром. Ды пра гаспадарку, вартую яго, ён толькі марыць. Дзёрзкая, задзірыстая з іншымі, з Васілём Ганна раптам робіцца мяккай, нават губляецца. Валянціна Гарцуева вельмі дакладна пражывае **каханне** сваёй гераіні, сваё **каханне**: нясмеласць, далікатнасць, расчараванне, калі каханы паказаў дарогу бандытам; крыўду непаразумення, калі не паверыў, што яна яму не здрадзіла; і потым, ужо пасля шлюбу з Яўхімам і смерці малой дачушкі, — у новую ўжо дарослую іх сустрэчу, збліжэнне, гэтую мляўкую надзею на шчасце...

У канцы адчайны птушыны яе вокліч "Без любові няможна!" патанае ў родных усім беларусам гуках балота. Яна адлятае ўдалечынь, пакінуўшы Васіля мянціць касу на смерць іхняму каханню.

Чытаючы Мележа, не задумвалася, а тут убачыла: надта летуценнае ў Васіля з Ганнаю каханне. А на Яўхіма з Ганнаю глянеш спрактыкаваным вокам — пара. Абодва дзёрзкія, гарачыя, ганарлівыя, усмешкі ў іх вострыя, рэзкія. З Яўхімам Ганна іншая, чым з Васілём. Але ж дзе яна сама свая? Угаворваючы Ганну не адмаўляць сватам і Яўхіму, мачыха Куліна (выключны па каларыце вобраз Алены Сідаравай) за галоўныя аргументы бярэ няўвагу Васіля і магчымасць дапамагчы родным. Але Ганна стаіць, бяссільна апусціўшы рукі, думае. Яна ўглядаецца, услухоўваецца ў сваю душу, а Яўхім напружана ўглядаецца ў яе. Гэта, бадай, адзіны момант, калі ён няпэўны, разгублены... Вяселле Ганны і Яўхіма нагадвае хаўтуры. Можа, таму, што на ім з моладзі толькі жаніх ды нявеста?

Дарэчы, пра вясельныя і не толькі строі. І Аляксандр Гарцуеў, і многія акцёры слухалі лекцыі, чыталі кнігі нашага слыннага этнографа Міхася Раманюка. Гэта адчуваецца. У касцюмах, і будзённых, і святочных, простых, стылізаваных, праз агульны строй, дэталі захаваны дух палескай культуры. Мяне асабліва ўразіў дыялог, які гераіня вядзе з хусцінкай — ці не галоўным у жаночым строі элементам. Бялюткая, як крыльца, чырвоная ў кветкі (на вяселлі хіба толькі й згадаеш, што Мележ бачыў сваю гераіню рабінкай), потым шэрая... Актрыса па-рознаму яе павязвае, здымае, камячыць у руках, шторaз рухамі сваімі прамаўляючы штосьці надта важнае, невымоўнае.

Ці не самая моцная па эмоцыях сцэна — хвароба і смерць малой дачкі Ганны і Яўхіма, калі няўрымслівая Ганна ўжо стала членам сям'і Глушакоў. Актрыса вельмі дакладна перадае гэтую прыналежнасць. Яна выконвала свае абавязкі, яна цярпела, яна любіла дачушку. І першыя словы Ганна вымаўляе не з нянавісцю, у іх пульсуюць любоў да дачушкі і трывога за яе жыццё. Але не сустрэўшы спагады ні з боку старога Глушака, які дбае пра сена, ні з боку Яўхіма, які ладзіць хамут, Ганна зрываецца. Смерць дачушкі, пра якую паведамляе Глушачыха, — страта ці не адзінай повязі з сям'ёй Глушакоў. Вось тады і абрынулася на яе ўся нянавісць гэтага роду. Ды, бадай, самыя страшныя словы Ганны — пра тое, што стары Глушак маліўся Богу не за ўнучку, а за надвор'е, каб не прапала сена. Жахлівым рэхам адазваўся ў яе лёсе праклён Хадоські...

А Ганна нікога не кляне. Яна сябе вінаваціць. І ў тым, што з Васілём не выйшла, і што дачушка памерла. Тое, што крычыць, б'ецца Яўхім, — нішто ў параўнанні са смерцю дзіцяці, якое яна не паспела ўратаваць. Яўхім паўзе, Ганна стаіць, застыла. Як птушка перад палётам. Хацела Васіля з сабою ўзяць. А не — дык адна ўпрочкі... Лёгкае крыльца хусцінкі. Напамін пра страчанае каханне да Васіля і любоў да дачушкі Верачкі. Яна вельмі моцная і лёгкая мележаўская Ганна XXI стагоддзя...

...Дамоў я вярталася ў метро, і малады чалавек гаварыў па тэлефоне па-беларуску. Не ўслухоўвалася, але апошнія ягоныя словы былі сказаны надта гучна і пяшчотна.

— Я чакаў...

Значыць, шчэ блукае дзесь сярод нас **каханне**. І ў эпоху посттрадыцыі.

# Лечыць гаркатой палын

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

Гадоў, што засталіся дзесяці за небасхілам, у мяне даўно ўжо куды болей, чым тых, якія бачацца наперадзе. Зразумела, многае з таго, што некалі адбывалася, забываецца. Але найбольш значнае памяць, на шчасце, не губляе. Не выкрэслівае яна і той жнівеньскі тэлефонны званок 1972 года ў маім кабінеце — тады я працаваў у рэдакцыі слуцкай аб'яднанай газеты "Шлях Ільіча". Тэлефанаваў сам галоўны рэдактар "Літаратуры і мастацтва". Чулася кепска, таму я ніяк не мог разабраць ягонае прозвішча.

— Шуцько? — перапытаў для пэўнасці.

Быў такі пісьменнік Іван Шуцько, у Крупках жыў.

— Які яшчэ Шуцько, — на тым канцы провада пачуўся смех. — Жычка я, нядаўна галоўным прызначылі. Згодны ў нас працаваць?

— Згодзен, — адказваю на адным дыханні.

Пасля таго, як паклаў трубку, паспяшаўся асвяжыць сваю памяць. Хто ж ён, пісьменнік Хведар Жычка? Адразу ж прыгадалася мініяцюра, чытаная яшчэ школьнікам, здаецца, у часопісе "Бярозка". Яна настолькі ўразіла мяне, што па сённяшні дзень не забылася:

*Скрып, скрып, скрып,*
*Снег ад холаду ахрып.*
*У яго, напэўна, грып.*

А яшчэ, будучы вучнем, з задавальненнем чытаў аповесці Хведара Жычкі "Каштанавы «Масквіч»", "Піфагоравы штаны". У бацькоў адшукаў ягоную кнігу паэзіі "Настой", адметную, дарэчы, тым, што вянок санетаў "Абеліск", якім яна адкрываецца, стаў другім у беларускай літаратуры. У зборніку ёсць і цудоўны верш "Ружовы конь", пра высокую мастацкую вартасць якога сведчыць ужо тое, што Уладзімір Гніламёдаў уключыў яго ў трэці том "Анталогіі беларускай паэзіі".



Калі Х. Жычка ўзначаліў "ЛіМ", было ў яго нямала і іншых кніг, прытым у розных жанрах. Дэбютаваў жа ён як паэт, з першым вершам выступіўшы ў "Полымі" ў 1947 годзе. На той час служыў на Балтыйскім Ваенна-Марскім флоце. Таму і першую сваю кнігу, што выйшла ў 1961 годзе, назваў менавіта так — "Стой на вахце, сэрца". Наступная называлася больш па-зямному: "Росныя лілеі". Шмат пісаў для дзяцей, выдаўшы як кнігі аповесцей "Зброю бяруць сыны", "Зорачка-пяцёрачка", "Дзе растуць бяссмертнікі", так і зборнік апавяданняў "Паспелі суніцы". Паспяхова выступаў і ў галіне перакладу з украінскай і рускай моў. У далейшым ягоныя абсягі ў гэтым кірунку пашырыліся. За пераклады і прапаганду чэшскай і славацкай паэзіі ў 1983 годзе стаў лаўрэатам Літаратурнай прэміі імя Віцеслава Нэзвала. Гэта натхніла яго на далейшае пераўвасабленне паэзіі В. Нэзвала, кніга перакладаў "Васількі і гарады" выйшла ў 1986 годзе. Меў Хведар Дзмітрыевіч Дыплом і медаль Славацкага літаратурнага фонду. Працягваў пісаць уласныя паэтычныя творы, лепшыя з якіх увайшлі ў кнігі "Абавязак", "Карэц халоднай вады", "Абдымкі і сонца", "Партызанскі праспект".

Творчыя набыткі гэтым пералікам не абмяжоўваюцца. Дый што такое пералік? Толькі назвы. Каб адчуць сапраўдны "смак" літаратурнага твора, яго трэба перачытваць. Асабліва калі гэта паэзія. "Смак" жычкаўскай паэзіі можна адчуць, пазнаёміўшыся з ягоным томікам выбранага "Абеліск", што папоўніў "Бібліятэку беларускай паэзіі". Захоўваю яго, як і некаторыя іншыя кнігі Хведара Дзмітрыевіча з ягоным даравальным надпісам. На гэтай аўтограф такі: "Алесю Марціновічу на добры ўспамін з вялікай павагай. Хв. Жычка. 19.III.73 г."

У "ЛіМе" Жычку не так і лёгка працавалася, таму што быў ён такім чалавекам, кіраўніком, які заўсёды прытрымліваецца ўласнай пазіцыі, не зважаючы на тое, падабаецца гэта каму-небудзь ці не. Дарэчы, нямногія і ведаюць, як на той час расшыфроўвалася абрэвіятура "ЛіМ". "Лесть и Месть"! Менавіта "месть", а не здаровая крытыка. А "месть" — што гэта такое? Гэта імкненне звесці асабістыя рахункі. Хведар Дзмітрыевіч рашуча выступіў супраць падобнай ганебнай практыкі. Канечне, адразу знайшліся і пакрыўджаныя, у тым ліку і сярод даўніх супрацоўнікаў "ЛіМа", якія лічылі сябе "заканадаўцамі моды". Ды толькі новы галоўны рэдактар ад свайго не адступаўся. Па-ранейшаму працаваў так, як лічыў неабходным, а гэта значыць — сумленна.

Сумленна працаваў Хведар Жычка і пасля таго, як перайшоў на працу ў выдавецтва "Мастацкая літаратура". Прапаноўвалі, праўда, узначаліць літаратурна-драматычную рэдакцыю Рэспубліканскага радыё, але выбраў тое, да чаго ляжала душа. Да "ЛіМа" ж працаваў у выдавецтве "Беларусь", з якога і "вырасла" "Мастацкая літаратура".

Як і дагэтуль, аптымізму не страчваў, любячы паўтараць: "Жыццё — гэта барба". У сувязі з гэтым успамінаецца адзін з лепшых вершаў Хведара Дзмітрыевіча "Жыта, ружа і палын":

*Хмара чорная не знае,*
*Хто ёй — пасынак, хто — сын,*
*Шчодра ў маі палівае*
*Жыта, ружу і палын.*

Таго і "сонца яснае не знае", дый "зіма не разбірае". Сутнасць жа твора ў ягонай заключнай, трэцяй страфе:

*Хто больш родны, хто з іх лепшы,*
*Знаю, можа, я адзін:*
*Жыта корміць,*
*ружа цешыць,*
*лечыць гаркатой палын.*

Палын будняў неадкойчы гаркавіў паэту жыццё, але ж ён і лячыў яго сваёй гаркатой. Таму і не зламаўся, выстаяў Хведар Жычка.

# Імя ў літаратуры

**Ганна ШЫБУТ**

У сакавіку далёкага 1918-га нарадзіўся Мікола Ткачоў. У Віцебску ён скончыў рабочы факультэт, а пасля вучыўся ў Беларускім дзяржаўным інстытуце народнай гаспадаркі імя Куйбышава.

У 1938 годзе ў часопісе "Полымя" выйшла яго першае апавяданне "На граніцы". Пісаў Мікола пра тое, што добра ведаў і перажыў. Падчас Вялікай Айчыннай вайны ён быў на фронце, у партызанах.

З 1949-га па 1957-ы Мікола Гаўрылавіч працаваў адказным сакратаром часопіса "Полымя", а ў 1957 — 1959 гг. — галоўным рэдактарам газеты "Літаратура і мастацтва". У 1959-м быў абраны сакратаром Саюза пісьменнікаў Беларусі, на гэтай пасадзе шчыраваў да 1972 года. Яму пашчасціла ў 1969 годзе быць прадстаўніком Беларусі ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

Працы было шмат, аднак Мікола Ткачоў знаходзіў час і на асабістую творчасць. Роздум над жыццём, над перажытым у час вайны выліўся ў раман "Згуртаванасць" (1951), які стаў адным з першых твораў у беларускай літаратуры пра барацьбу з фашысцкімі акупантамі. У 1963 годзе выйшаў зборнік апавяданняў і нарысаў "Пошукі скарбаў". У іх галоўныя героі — сучасныя пісьменніка, рабочыя, калгаснікі, настаўнікі, якія аддаюць радзіме свае сілы і талент. Ён перакладаў на беларускую мову зборнік апавяданняў В. Рошкі "Што мае вочы бачылі".

На апошнім этапе свайго жыццёвага і творчага шляху Мікола Гаўрылавіч кіраваў выдавецтвам "Мастацкая літаратура", у якім сабраў калектыў аднадумцаў, прафесіяналаў, адданых справе развіцця беларускай літаратуры. Рэдакцыі ўзначальвалі Васіль Хомчанка, Уладзімір Паўлаў, Вера Палтаран, Алена Васілевіч, Уладзімір Шахавец. За год у свет выходзіла не менш як 100 назваў кніг на беларускай і рускай мовах: арыгінальная проза, паэзія, кнігі па літаратуразнаўстве, пераклады з іншых моў, выбраныя творы, кнігі для дзяцей рознага ўзросту. Не столькі эканамічная адукацыя і матэматычны склад розуму, а добрыя чалавечыя якасці дапамаглі Міколу стаць выдатным кіраўніком выдавецтва.

Цяжкая хвароба спыніла жыццё Міколы Гаўрылавіча 20 сакавіка 1979 года. У апошнія месяцы, праведзеныя ў шпіталі, ён ніколі не выглядаў засмучаным. Усім, хто да яго завітваў, спакойна казаў: "Усё будзе добра". А паміраючы, наказваў сваім родным: "Жывіце па-людску".

Прайшоў час, а ўсе, хто ведаў гэтага чалавека, захоўваюць памяць пра яго, ганарацца ім. Імя пісьменніка носіць Краснапольская раённая бібліятэка.

## Фотаархіў

*Пяройдзе шлях*
*у новы шлях,*
*Расстанне —*
*ў новае спатканне,*
*Напеў жалейкі —*
*ў труб гучанне,*
*Выток жыцця —*
*ў жыцця працяг.*

**Аркадзь Куляшоў**



*Варлен Бечык, Аркадзь Куляшоў, Вера Вярба.*
*Фота Уладзіміра Крука, 1972 год.*

## З пошты «ЛіМа»



# Не ганіся за шчасцем

Кожны нумар "ЛіМа", з публікацый якога чэрпаю для сябе шмат цікавага і карыснага, чытаю ўважліва. Асаблівую ўвагу надаю матэрыялам праекта "Зямля пад белымі крыламі". У адным з апошніх нумароў пазнаёмілася з апантаным краязнаўцам Анатолем Бензеруком з Жабінкаўскага раёна. Запалі ў душу яго словы: "…мая малая радзіма — акенца ў вялікі свет. Трэба нарадзіцца ў Беларусі і быць у яе закаханым".

Працягну думку пісьменніка.

Наша шчасце — побач з намі. Гэта бацькі, сябры, браты і сёстры, дарагія нам людзі. А мы часам думаем, што шчасце — гэта заўсёды нешта недасяжнае. Я шчаслівая, што нарадзілася ў прыгожай палескай вёсцы Гальцы, што жыву ў добрай сям'і, што ў мяне ёсць бацькі, вясёлая і кемлівая сястрычка, сябры, каханы. Каб быць шчаслівым, трэба проста цаніць жыццё, цаніць усё тое, што мы маем, берагчы яго, каб не страціць. Шчасце, што родная Беларусь — мірная краіна, у якой мы можам спакойна вучыцца, адпачываць, марыць.

Калі задумваюся пра шчасце, мне прыгадваюцца радкі Хведара Жычкі:

*Шчасце — гэта здабытак чалавека,*
*плён яго імкнення,*
*плён яго розуму,*
*плён яго працы,*
*плён жыцця…*

**Карына ВАКУЛІЧ,**
**вучаніца Гальцоўскай сярэдняй школы Пінскага раёна**

# Вуліца ў гонар газеты

"ЛіМ" я стала чытаю з 1964 года, неаднаразова друкавалася на яго старонках, чым і ганаруся. А ўпершыню газету "Літаратура і мастацтва" ў 1960 годзе мне прынёс у бальнічную палату паэт Пятро Глебка. З выгляду Пётр Фёдаравіч быў нейкі хмурны, затое па натуры — вельмі добрым.

— Вось, газеты табе прынёс лімаўскія, вельмі цікавыя. Такую газету павінны ўсе чытаць: і настаўнік, і пісьменнік, і асабліва наша моладзь, каб добра ведаць сваю культуру, спадчыну, каб была павага адзін да аднаго, гонар за нашу Беларусь! — сказаў паэт.

За гэтыя амаль 50 гадоў, што чытаю "ЛіМ", шмат чаго давялося бачыць на яго старонках. Былі і такія гады, калі змест газеты мне не надта падабаўся, але я ёй не здраджвала. Цяпер вядуцца нейкія размовы пра тое, што трэба "перабудаваць" "ЛіМ", змяніць яго фармат. Мне ж здаецца, што газета "ЛіМ" павінна застацца такой, якая яна выходзіць сёння. Галоўнае, каб змест тыднёвіка станавіўся яшчэ больш цікавым. Хацелася б, каб адна з вуліц у Мінску была названа ў гонар газеты — Лімаўскай.

**Уладзімір ГОЛУБЕЎ,**
**г. Мінск**

# Дзяўчына ці рыбкі?



Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

На дзіва багатую празаічную частку лютаўскага нумара часопіса "Полымя" можна ўмоўна падзяліць на тры катэгорыі. Першую з іх склалі значныя па памеры творы, чыё прадстаўленне чытачам расцягваецца на некалькі нумароў (завяршэнне аповесці Уладзіміра Ліпскага "Ідзі і радуйся. Лісты да ўнука", пачатак другой часткі кнігі Янкі Сіпакова "Мая бібліятэка"). Другую — дакументальная аповесць Юліяна Высоцкага "Двое з пякельнага бамбардзіроўшчыка". Трэцюю — невялікія апавяданні: "Акварыум" Алеся Макоўскага, "Свая філасофія вайны" Уладзіміра Мароза і "Салдацкая зорачка" Аркадзя Жураўлёва. Ахарактарызую больш падрабязна творы з апошняй катэгорыі.

Апавяданне У. Мароза мае, на маю думку, больш дакументальны, чым мастацкі характар (пра што сведчыць падзагаловак "З аповеду жыцця майго роду"). Аўтар згадвае ў творы сваіх сваякоў (дзядулю, дзядзьку і бацьку). Таленавіты сцэнарыст і дакументальны рэжысёр, ён здолеў літаральна некалькімі штрыхамі перадаць вобраз чалавека і яго характар. Напрыклад, дзядуля аўтара, Канстанцін Антонавіч, які служыў у артылерыі, быў перакананы: застаўся жывым таму, што нікога не забіў. Калі ж унук запытаўся ў яго: "Але ж тыя снарады, якімі вы стралялі, зусім натуральна маглі забіваць?", той адказаў: "А што там было, куды ляцеў снарад — я не бачыў і не ведаю. У чалавека я не страляў". "Што скажаш на такія словы? — разважае аўтар. — Застаецца толькі згадаць новазаветнае: "Вера твая выратавала цябе" і яшчэ раз упэўніцца ў глыбіннай сутнасці гэтых слоў".

Несумненна, самым кранальным з трох твораў з'яўляецца "Салдацкая зорачка". Згодна з сюжэтам, над лініяй фронту раздаецца плач дзіцяці. Байцы ведаюць, што часам фашысты наўмысна запісваюць гукі, правакуючы "нашых", але наважваюцца рызыкнуць. У выніку галоўны герой Андрэй Галавенчык ратуе хлопчыка, якога мучылі фашысты. Разам з тым А. Жураўлёў, на жаль, не здолеў дадаць нечага новага да адлюстравання баявых дзеянняў ці пераасэнсавання псіхалогіі чалавека на вайне.

Падзеі апавядання А. Макоўскага разгортваюцца адразу ў двух часавых прасторах. У пачатку і фінале галоўны герой, 50-гадовы халасцяк Андрэй Акуліч, выпівае і закусвае сам з сабой у пакоі інтэрната. Настальгія пераносіць яго ў гады маладосці, у той час, калі Андрэй засяляецца ў пакой да трох мужчын ("дрэннага" Казіка і "добрых" Івана і Алега). Імкнучыся аздобіць жыллё, станоўчыя героі купляюць акварыум з рыбкамі. Але пакрыўджаны на іх Казік налівае ў ваду віна, і рыбы гінуць. Неўзабаве здзяйсняецца акт справядлівасці: дзякуючы моцы Івана "рыбканенавіснік" назаўсёды пакідае пакой…

Нават калі ўявіць, што твор адрасаваны прыхільнікам "Грынпісу", "Акварыум" выклікае шэраг пытанняў. Пры аналізе апавядання адразу кідаецца ў вочы схематычнасць характараў герояў. Незразумела, якую ролю выконваюць эпізоды пра бабульку і дзядзьку Сцяпана, што дзяжураць на ўваходзе. Яны маюць відавочна ўстаўны характар і не ўплываюць на развіццё сюжэта. Незразумелая і прычына галоўнага канфлікту. Згодна з сюжэтам, станоўчыя героі вырашаюць пажартаваць і ад імя аднавяскоўцаў пішуць Казіку ліст, абвінавачваючы яго ў сквапнасці і хітрасці. Але мяркую, што супярэчнасць паміж героямі можна было б паказаць інакш, напрыклад, як глыбокі канфлікт паміж людзьмі з рознай сістэмай каштоўнасцей. А знішчэнне рыбак падаецца банальнай бытавой помстай пакрыўджанага чалавека.

Яшчэ адно пытанне выклікае структура апавядання. "Акварыум" мае падзагаловак "Згадкі старога халасцяка". Пры такім ракурсе абсалютна лагічнай выглядала б пэўная рамантычная гісторыя з часоў маладосці, з-за якой галоўны герой так і не пачуў "свой" марш Мендэльсона. Але Зіна, адзіная прэтэндэнтка на сэрца Андрэя, згадваецца ўсяго ў двух эпізодах. У першым ён вырашае запрасіць яе на сустрэчу, у другім тэлефануе і высвятляе, што яна выходзіць замуж. Тады якая ж сувязь паміж халасцяцкім жыццём і гісторыяй з рыбкамі? Няўжо, пакуль герой купляў акварыум, дзяўчына паспела ўзяць шлюб?

# Няўмольныя пытанні



Вераніка РУСАКОВА

Лютаўскі нумар часопіса "Нёман" адкрываецца апавяданнямі Алены Брава. Чытачы, знаёмыя з творчасцю пісьменніцы, знойдуць тут усё тое, чаго варта чакаць ад яе прозы, але адчування дэжавю не ўзнікне. Псіхалагізм, вострыя жыццёвыя абставіны, у якія змешчаны галоўныя гераіні, пытанні без адказаў, часам жорсткія рытарычныя — усё гэта прысутнічае. Гісторыі, расказаныя аўтарам, жыццёвыя, праўдзівыя, на месцы іх удзельнікаў лёгка ўявіць нашых знаёмых, суседзей, сваякоў.

У апавяданнях "Змяя, пакрытая пёрамі птушкі Сонца" і "Сон піянеркі" гаворка ідзе пра жанчын-маці, іх трагічна-суровы лёс, які не пакідае ім шанса застацца слабой паловай чалавецтва, бо яны знаходзяцца на мяжы выбару: быць моцнымі ці не быць увогуле. "Эфект прысутнасці" не хвалюе такімі балючымі пытаннямі, хутчэй, у чытача ўзнікне пачуццё шкадавання ці, магчыма, непаразумення і агіды да гераіні. Аб'ядноўвае апавяданні ненавязлівае запрашэнне аўтара паразважаць разам з ёй. Мякка, але няўмольна Алена Брава ставіць у сваіх творах пытанні, адказ на якія кожны павінен знайсці сам.

З апавяданняў Жанны Міланкевіч вылучаецца "Story" — твор, які даў назву ўсёй падборцы. У аснове сюжэту — гісторыя пра тое, як нецвярозыя, не абцяжараныя ўнутранай культурай нядаўнія падлеткі сталі прычынай зламаных лёсаў і заўчасных смерцяў. Аўтар нагадвае: неабходна помніць пра адказнасць за кожны ўчынак, таму вінаватымі паўстаюць не толькі маладзёны на падпітку, але і кіроўца аўтобуса, і адказны за праверку транспарта перад рэйсам. Твор прымушае задумацца над тым, што жыццё гэта не вечная дадзенасць, а вельмі крохкая субстанцыя.

"Вясенні снег" і "Мацыёла" разгортваннем падзей нагадваюць сучасныя тэлесерыялы. Сюжэты твораў лёгка могуць зацікавіць чытача, але падчас развіцця дзеяння не стае паглыблення ва ўнутраны свет герояў: чаму яны паводзяць сябе менавіта так, кажуць менавіта такія словы, што з'яўляецца іх душэўным рухавіком, адкуль і ў чым крыніцы іх учынкаў. Пры адсутнасці ўнутраных чыннікаў знешне атрымліваецца толькі пустая абалонка. Да таго ж у "Мацыёле" аўтар пакідае чытача там, адкуль, як падказвае логіка разгортвання падзей, пачынаецца вялікая і доўгая гісторыя.

Нізка вершаў Сямёна Шыкуна "Палоска святла" цалкам апраўдвае сваю назву. Вершы хоць і розныя па тэматыцы, але ўсе прасякнутыя святлом, месцамі з'яўляецца пачуццё суму, але і ён светлы. Чытач зможа атрымаць асалоду ад восеньскага дня, будучага палёту на самалёце, адчуць цеплыню пакоя, дзе толькі што прачнуліся двое… Лірычная лёгкасць вершаў дорыць спакой і гармонію.

У падборцы вершаў Фёдара Гурыновіча "Айчыны лекавая зёлка" дамінуе вобраз маці: маці як падмурак сям'і, як яе цэментуючая аснова, як стваральнік і ахоўнік роду. Агрэсія ў дачыненні да маці з боку блізкіх у вершы "Сумнае" праецыруецца аўтарам на навакольнае асяроддзе: малодшы брат крыўдзіць маці, і ва ўсёй вёсцы няма ладу. Зноў узнікае думка пра маці як пра праведніцу, без якой абрынаюцца спрадвечныя нормы маралі, рушыцца свет:

*И корчатся деревья в огороде…*
*Я всех простил бы,*
*Ведь любовь сильней.*
*Но пьяный конюх*
*сивку бьёт по морде,*
*А я ведь в сказку*
*странствовал на ней.*

Вобраз маці-Айчыны вымалёўваецца аўтарам з трывожным болем за яе раны, з разуменнем яе пакут і гатоўнасцю прыняць яе любой, якой бы яна ні была. Аўтар звяртаецца і да тэмы прыроды, захапляецца яе гарманічным і няспынным рухам, дэкларуе, што толькі ў еднасці з прыродай чалавек можа быць шчаслівым і адчуваць сябе чалавекам.

# Шляхам магіі



Соф'я МАРОЗАВА

Людзі маюць патрэбу ў казках, і тым большую, чым больш празаічным робіцца жыццё. Альтэрнатыва рэальнасці — розная гаворка роду літаратурнай фантастыка і містыка, а таксама зварот да міфа. Часам белетрыстычныя па сваёй сутнасці творы прыпадабняюцца да міфа: напрыклад, пастаўлены летась у купалаўскім тэатры "Хам" (паводле Элізы Ажэшкі) атрымаў падзагаловак "нёманскі міф".

Не абыходзіцца і літаратура без падобных з'яў: у другім нумары "Маладосці" надрукаваны твор Ганны Навасельцавай "Чорная лотаць", пазначаны як "міфалагічнае апавяданне". Па сутнасці, гэта аповед пра чарадзеяў. Твор насычаны магіяй і міфалагічнымі істотамі, вылучаецца арыгінальным стылем.

Галоўнае ўражанне ад "Чорнай лотаці" — атмасфернасць. Навеяны апавяданнем "сон залаты" афарбаваны не ў сонечныя колеры: ён шэра-зялёны, балотны, з блукаючымі сямтам агеньчыкамі. Відавочна, аўтарка хацела надаць тэксту якасці чарадзейнага трансу: не столькі апавядаць, колькі "ўнушаць". Часам гэта ўдаецца, а часам эфект адваротны: праз ускладнены сінтаксіс даводзіцца "прадзірацца".

"Чорная лотаць" — гэта густое чарадзейнае варыва, у якім ці то разблытваюцца, ці то заблытваюцца адносіны вяшчунніцы (і ў той жа час — "такой жа, як яна") і "самага прыгожага чарадзея" ("такога ж, як ён"). Часавыя пласты герояў і двайнікоў прашытыя ніткай прадказанняў.

Гераіня-вяшчунніца валодае здольнасцю разумець гаворку раслін і духаў прыроды. Таму праз яе свядомасць шырокай плынню праходзяць словы зёлак і камянёў, лознікаў і купнікаў... Менавіта нячысцікі падказваюць вяшчунніцы, што "страшную кветку" чорную лотаць стварыла "дзеля напамінку" тая, "у якой твая кроў, у якой твае чары, у якой твае сэрца". Пра што напамін? Хто яна — тая? Разгадаць загадку даводзіцца гераіні, а разам з ёй — і чытачу. Але калі вяшчунніцы гэта нібыта ўдасца, то чытачу — я б не была так упэўнена... Зрэшты, кожны можа паспрабаваць свае сілы.

Відавочна, героі "Чорнай лотаці" паходзяць з "маленькай лясной Неўрыды" — краіны чарадзеяў і ваўкалакаў, апісанай у папярэднім творы Ганны Навасельцавай — аповесці "Святло зямлі Неўрыда" (між іншым, таксама пазначанай як "міфалагічная"). Для герояў абодвух твораў магія натуральная, як дыханне. Больш за тое, узнікае ўражанне, што яны не могуць зрабіць ані кроку без чараў. "Шлях жыцця. Шлях магіі" — жыццё для іх роўнае чарадзейству, яны "дакранаюцца магіяй" да ўспамінаў, чары папярэджваюць іх пра небяспеку, даюць сілы дзейнічаць... У арсенале маюцца: "магія спагады", "чары веры, надзеі і памяці", "чары гневу", "магія адчаю", "чары веры і смерці", "магія сіняга дня" ды інш. ("Святло зямлі Неўрыда"). Для параўнання, падобныя назвы ўжываюцца ў камп'ютарных гульнях: меч вогненных чараў, меч раз'юшанасці, меч супрацiўлення, латы смутку, пярсцёнак натхнення, кашуля пакаяння... І гэтая аналогія невыпадковая: з твораў Ганны Навасельцавай магла б атрымацца неблагая віртуальная гульня. Галоўны герой, пазбаўлены пазнак аб'ёмнасці, — выдатны прататып дзеючай асобы гульца (абранец, вылучаны для вялікай місіі). Прысутнічаюць і яркія вобразы візуальнага кшталту, і міфалагічны пачатак, сюжэт распадаецца на асобныя эпізоды (бітва, дзіў, на калінавым мосце, сіні дзень). "Чорная лотаць", як своеасаблівы "балотны дадатак", магла б стаць асобным эпізодам-узроўнем...

Вядома ж, падобны рэдукцыянізм у адносінах да літаратуры — правакацыя. Але творы на міфалагічныя сюжэты функцыянальна ўсё больш набліжаюцца да сваіх візуальных аналагаў (у тым ліку і гульняў). Таму хочацца знаходзіць у літаратуры больш такога, што віртуальны свет перадаць не ў стане: ідэі, цікавага героя, шматмернасць і глыбіню.



Соф'я Шах

* * *

*Зямля, што пад белымі крыламі,*
*зямля, што з легендамі, былямі, —*
*не дзесьці ў няведамай далечы,*
*а тут, і ёй назва — Азарычы.*
*Зямля, што пад струмнымі промнямі,*
*зямля, што з улоннямі мройнымі,*
*стагоддзяў і пяць мо зазначыла, —*
*якіх толькі з'яў не пабачыла!*
*А колькі ўсяго праслухала*
*між радасцямі, паміж скрухамі,*
*між слёзнымі, скрытнымі стогнамі,*
*між спевамі ўзнёслымі, вольнымі.*
*Пад крыламі зззяюча белымі,*
*пад марамі ўзрушана смелымі,*
*пад зоркамі любасна мілымі,*
*пад вышнімі, Боскімі сіламі…*
*Зямелька, зямліца, зямелечка, —*
*не проста мясціна, а месцечка*
*шчыруе, сябе азараючы*
*праменістай назвай "Азарычы".*

## Журботная прысутнасць

*Ці вясна тут, ці восень, ці лета,*
*а здаецца,— заўсёды зіма.*
*Зазначае прыкмеце прыкмета,*
*што тут нават і сонца няма.*
*І няма, і не будзе ніколі, —*
*сад надзею ўжо страціў даўно.*
*Не з'яўляцца святлу тут у голлі —*
*тут галлю толькі сніцца яно.*
*Анікога на доле самотным,*
*анікога між згорбленых дрэў,*
*толькі цені на гурбах сумётных,*
*толькі сцюжы ледзь чутны павеў.*
*Толькі дзесь у вышнях скалелых*
*ледзь прыкметныя рысачкі той,*
*што жывіла сабою свет белы,*
*покуль доля шчэ ладзіла з ёй.*

## Вулачка маленства *(дыпціх)*

**1**

*Што — пазнаю, а што — і незнаёма.*
*Такі мінуў, такі прамчаўся час...*
*Цябе як бы і не кранула стома, —*
*цяпла й пад восень маецца запас.*
*А ўжо святла ад стройненькіх бярозак,*
*ад ліпак маладзенькіх, ад садоў...*
*Ах, вулачка, які ж ты адгалосак*
*пакінула ўва мне з былых гадоў!*
*Зірну бездапаможна слёзным зрокам,*
*напружу зноў дарэмна бедны слых, —*
*як невымоўна ўсё і як далёка*
*усё цяпер ад высілкаў маіх...*

**2**

*І не гады, а ўжо дзесяцігоддзі*
*прайшлі з тае кароткае пары, —*
*з імклівым часам у заўсёднай згодзе*
*змяніліся і хаты, і двары.*
*Ды сведка гэтая — старая ліпа,*
*што ўсё яшчэ не томіцца стаяць,*
*вядома ж, помніць, што была сядзіба*
*з хацінаю някідкай нумар "пяць".*
*Багата што самазабыўна помніць*
*пра тыя запаветныя гады,*
*багата што і шалясціць, і тоіць*
*усім відочным станам сіраты.*
*Адна і засталася з тых, славутых,*
*з тых, поўных урачыстага святла,*
*калісьці пад якімі праз пакуты,*
*праз мары-ўсцешнасці і я расла.*

## Прага жыцця

*Усё — як у людзей: балячкі, раны*
*заместа маладой красы,*
*шматлікія выразлівыя шрамы,*
*нарасты, трэшчыны, вузлы...*
*Усё — як у людзей. Таксама нібы*
*хандрозы і артрозы, сівізна...*
*Адна адну бы падпіраюць ліпы, —*
*дапамагае ўсё-ткі крывізна.*
*Уладным часам кручанае вецце,*
*а ўсё імкне туды, да вышыні, —*
*то ў шчодрым залатым сваім імпэце,*
*то ў шчырасці зялёнай чысціні...*
*Старэнькія, крывенькія, сівыя,*
*але ж ці пранікнёна не відаць,*
*як прагнуць апантана і такія*
*пад родным небам на зямлі стаяць!*

## Азарыцкія храмы

*Драўляная, уся ашаляваная,*
*аздобленая, гожа фарбаваная,*
*трохкупальная і на сем акон...*
*Цагляная, чырвона мураваная,*
*з высокаю званіцай будаваная,*
*каб быў чуваць далёка чысты звон...*

*Адна была шчэ дарэвалюцыйная,*
*другая — даваенная, часінаю*
*ліхою зруйнаваная была.*
*Люд местачковы,*
*скрозь дзесяцігоддзямі*
*прыбіты атэізмам ды бядоцямі,*
*як бы не ведаў Божага святла.*

*І вось царква ў пасёлку зараз новая,*
*красою патаемнай адмысловая, —*
*святых Пятра і Паўла, як калісь...*
*Прызыўны перазвон зноў расчыруецца,*
*і дух Азарыч верай умацуецца,*
*і плён пашле Гасподняя ім высь.*



Фота Кастуся Дробава



Іван Монцік

## Вясновыя матывы

* * *

*У каляровых снах*
*Чуваць вясны гуканне.*
*Прыйдзі, прыйдзі, вясна,*
*На першае спатканне!*
*Прыйдзі… прыйдзі хутчэй,*
*Майго жадання госця.*
*Пагляд тваіх вачэй —*
*Як песня маладосці.*
*Дзівосная пара!..*
*Вясна, з табой я ў згодзе:*
*Пунсовая зара*
*Праменіцца на ўсходзе!*
*І ўсход памаладзеў…*
*Лагодны ветрык вее.*
*Ільдзінка на вадзе*
*Заранкай ружавее.*
*А музыка святла*
*На гоні звонка льецца!*
*Вясна, вясна прыйшла!..*
*І сонца ўвысь ірвецца!*

* * *

*Вясна ідзе…*
*Звіняць над вёскай бомы.*
*Суток снягоў*
*Дае дарогу ўжо вясне.*
*Вясна, з табой*
*Я, мабыць, не знаёмы.*
*А мо даўно*
*Былі знаёмыя мы ў сне?*
*Увысь глядзі —*
*На крылы трапяткія:*
*Жаўрук узнёс*
*Вясну, што сілы ёсць!*
*І кветкі, кветкі…*
*Першынцы лясныя,*
*Пралескі скрозь —*
*Якая прыгажосць!*
*Вясна, вясна…*
*Звіняць над вёскай бомы!*
*Жаўрук пяе.*
*Ён з песняй дорыць сто надзей.*
*З табой, вясна,*
*Я ўсё ж такі знаёмы.*
*Ці гэта*
*Толькі ў сэрцы*
*Сонечны мой дзень?*

* * *

*Збяру я промні*
*ў прыгаршчы вясне,*
*Каб цёплых дзён было паболей,*
*Каб кожны новы дзень*
*звінеў, яснеў*
*На крылах жаўрука над полем.*
*На ніве шчодрай выспелю радок,*
*Світанак выбелю на гонях,*
*Каб лашчыў вочы*
*родны мой куток,*
*Сагрэты ў матчыных далонях*
*Збяру я промні*
*зорыстай расы*
*І поўняй — высею рупліва*
*На цвет, на рунь, на каласы,*
*Што ў руні тояцца гулліва.*
*Збяру ўвесь шэраг колераў вясне,*
*Вясёлкай выгнутай над полем,*
*Каб кожны дзень*
*для сейбіта яснеў*
*І лашчыў песняй грудзі ўволю.*



Юрась Нераток

## Музей валуноў[1]

### Мікрапаэма з вынесенымі знакамі прыпынку

*Лавай бурліла зямное нутро,*
*Вулканамі пыхкала топка —*
*Касмічны пыл спрасаваўся ў ядро.*
*Коска-працяжнік-кропка*

*Да "Чарапахі"[2] ад трох "Кітоў"[3]*
*Секлі маланкі порстка…*
*Гулка ўздымаліся грэбні хрыбтоў,*
*Двукоссі-шматкроп'е-коска*

*З трэскам паднебны*
*масіў астываў —*
*Скалы ўзрывалі кроплі!*
*Эра-эпоха-час-інтэрвал…*
*Працяжнік-клічнік-шматкроп'е*

*Ляталі камэты ўсутыч і ўпрытык —*
*Ішоў Божы дзень нетаропка:*
*Скругляліся шпілі пікаў крутых.*
*Працяжнік-двукроп'е-кропка*

*Стала кішэць айкумена-Зямля*
*Фаўнай шматаблічнай.*
*Людзі пасля — аднекуль здаля!*
*Кропка-працяжнік-клічнік*

*Раптам збіў вось Сонцасветны Ра:*
*Новая перацяробка!*
*З месца скранулася Маці-гара.*
*Двукроп'е-клічнік-кропка*

*Горы, скаваныя ў панцырны лёд,*
*Рушылі па калатушцы*
*(Колькі стагоддзяў цягнуўся ход?)*
*Дзве коскі-пытальнік-дужкі*

*Дзе непарушна лёг маналіт,*
*Ахвяры прыносілі кроўю*
*Людзі з часін, што зніклі ў нябыт…*
*Коска-коска-шматроп'е*

*Вакол валуна*
*вырастаў стромкі лес,*
*А побач сяліліся вёска…*
*Яго не крануў хрышчэння працэс,*
*Коска-шматкроп'е-коска*

*Бо зноўку клубіўся вогнішча дым,*
*Звінелі рушніцы і коп'і –*
*Роднай зямлі прысягалі над ім…*
*Коска-працяжнік-шматкроп'е*

*А як знікала вайна ў пазасвет —*
*Зноўку буяла калоссе.*
*Папараць-кветку сцярог камень "Дзед"[4]*
*Працяжнік-кропка-двукоссе*

*І адпускаў для юначых мар*
*Пад смех галасоў зычных:*
*Кастрышча, вяночкі, кахання дар!*
*Двукроп'е-дзве коскі-клічнік*

*Дзеля якіх "маштабных" мэт*
*Або ідэй "эпахальных"*
*Быў перавезены камень "Дзед"?*
*Тройчы двукоссі-пытальнік*

*Хваткі гамункул махае стырном —*
*Ён над спрадвечным начальнік!*
*Што ж ты ніяк*
*не знойдзеш свой дом?*
*Працяжнік-клічнік-пытальнік*

### Замест эпілогу

*Ляжаць валуны ад адной гары*
*Імкліваю людскою парою.*
*Спакойна чакаюць той пары,*
*Калі стануць новай гарою…*

---

[1] Народная назва парку пад адкрытым небам, створанага ў 1985 годзе ў мікрараёне Уручча. Велізарныя камяні ледавіковага паходжання (больш як дзве тысячы) звозіліся з усёй Беларусі. Статус музея парку камянёў не прысвоены дасюль.
[2] Раўнавага.
[3] Гравітацыя. Інерцыя. Магнетызм.
[4] "Дзед" — тыповая назва для неапрацаваных валуноў, якія тысячагоддзямі ляжалі побач з людскімі селішчамі.

# Ад бізнес-літаратуры — да падручнікаў

**Наклад якога падручніка рэальна прадаць за тры тыдні? Як выдаўцы змагаюцца з пірацтвам? Пра гэта чытачам распавядае Святлана Кагадзеева, дырэктар "Выдавецтва Граўцова".**

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

— "Выдавецтва Граўцова" з'яўляецца адным са структурных падраздзяленняў медыяхолдынга "Агенцтва Уладзіміра Граўцова". Рашэнне стварыць яго было прынята Уладзімірам Маркавічам у 2005 годзе. Да гэтага я працавала начальнікам аддзела маркетынгу выдавецтва "Вышэйшая школа". Першым крокам стала распрацоўка стратэгіі развіцця: бізнес-плана, які быў прыняты ў студзені 2006-га. Тады ж і пачаўся пошук аўтараў, якія змаглі б хутка напісаць кнігу. Першым нашым аўтарам стаў Андрэй Каляда. Менавіта з яго кнігай "Маркетинг, который работает" у жніўні таго года мы выйшлі на рынак Беларусі.

**— На які сегмент кніжнага рынку зрабіла стаўку выдавецтва?**

— Першапачаткова мы пачыналі з бізнес-літаратуры. Былі заснаваныя тры серыі: "Бизнес от А до Я", "Консультант бухгалтера" і "Консультант по правовым вопросам". Нашы кнігі адрознівала ад іншых, якія ў той час былі ў крамах, тое, што яны напісаны мясцовымі аўтарамі, улічвалі мясцовыя рэаліі. Больш за тое, аўтары з'яўляліся не толькі тэарэтыкамі, але больш нават практыкамі, бо спярша самі рухаліся ў пэўнай сферы шляхам проб і памылак. Затое яны атрымалі добрыя вынікі і цяпер маглі засцерагчы чытачоў ад памылак. Яшчэ адно адрозненне — гэта мова выкладання. Яна простая і даходлівая, каб кнігі лёгка чыталіся і засвойваліся. Нездарма ў сваёй працы кіруемся лозунгам "Проста — пра складанае". Дарэчы, гэтую якасць адзначаюць у сваіх водгуках карыстальнікі інтэрнэт-магазіна oz.by. Зразумела, там сустракаецца і крытыка, якую мы адсочваем і аналізуем. Каштоўнымі з'яўляюцца для нас і тыя станоўчыя водгукі, дзе тлумачыцца, чым, у якой сітуацыі чытачам дапамагла кніга, апісваюцца рэальныя жыццёвыя сітуацыі.

Але неўзабаве стала зразумела, што рынак дзелавой літаратуры ў Беларусі не вельмі актыўны. Інакш кажучы, не запатрабаваны так, як хацелася б. Зразумела, мы не адмовіліся ад найбольш папулярнай літаратуры. Напрыклад, кнігі Ганны Швец "Всё о бухучёте для начинающих" і Сяргея Шкірмана "Всё об упрощённой системе налогообложения" вытрымліваюць ужо трэцяе выданне. А выданне Г. Швец дагэтуль з'яўляецца лідарам па продажах у інтэрнэт-магазіне oz.by літаратуры па аўдыце, бухгалтарскім уліку і падатках.

Але адначасова было прынята рашэнне выходзіць на іншыя рынкі. З 2008 года мы выпускаем навучальную літаратуру для ВНУ (у асноўным з



грыфам Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь).

**— З якімі цяжкасцямі сутыкаецца "Выдавецтва Граўцова" ў сваёй дзейнасці?**

— Мяркую, шэраг праблем — агульны для ўсіх удзельнікаў кнігавыдавецкай дзейнасці. Цяпер наогул цяжкі час для кнігавыдання. Агульнай тэндэнцыяй з'яўляецца падзенне накладаў. На сітуацыю паўплывалі і мінулагоднія карэкцыі курса валюты. Як гэта адбілася на нашай дзейнасці? Паводле стандарту падручнікі павінны друкавацца на афсеце. Паколькі беларуская папяровая фабрыка ў Шклове выпускае газетную паперу, вымушаны арыентавацца на расійскіх пастаўшчыкоў. З-за агульнай фінансавай сітуацыі ўзраслі кошты на друкарскія паслугі. У выніку кнігі сталі даражэйшымі.

Іншай істотнай праблемай з'яўляецца пірацтва. Мы рэгулярна знаходзім на розных сайтах электронныя версіі нашых кніг, якія прапаноўваюць спампаваць за грошы. Прычым на такіх рэсурсах звычайна размяшчаецца наступная інфармацыя: "калі праваўладальнікі нязгодныя, кніга будзе прыбраная з доступу". Зразумела, мы адсочваем інфармацыю і пішам адпаведныя лісты. Кнігі нібыта знікаюць. Але дзе гарантыя, што праз некалькі тыдняў яны не з'явяцца на іншым сайце?

**— Назавіце выданні, якія варта лічыць візітнай карткай выдавецтва.**

— Некалькі выданняў вылучыць складана. У сваёй працы мы кіруемся паняццем "культура выдання", якое ўключае шэраг узаемазвязаных элементаў: кантэнт, знешні выгляд, унутраны дызайн, паліграфічнае выкананне. На маю думку, усе кнігі нашага выдавецтва адпавядаюць яму. Зрэшты, калі звярнуць увагу на такі паказчык, як запатрабаванасць чытачамі, можна вылучыць пэўныя выданні. Напрыклад, першай навучальнай кнігай для студэнтаў-медыкаў, выпушчанай "Выдавецтвам Граўцова", стала "Пропедевтика внутренних заболеваний". Наклад у адну тысячу разышоўся за тры тыдні. А 2-тысячны наклад дапаможніка "Беларуская мова. Эканамічная лексіка" мы прадалі за два месяцы. Цяпер у продажы ўжо трэцяе яго выданне. Максімальным для нас 5-тысячным накладам выдадзена кніга "Тренинг-конспект курсанта автошколы", якая была адобрана ДАІ. Лічу кнігу ўнікальнай з метадалагічнага пункту гледжання. Як вядома, навучэнцам аўташкол даводзіцца запамінаць шмат інфармацыі. Правілы дарожнага руху пададзены ў нашай кнізе ў табліцах і схемах, што палягчае засваенне матэрыялу.

Хацелася б адзначыць, што нашыя кнігі актыўна прадстаўленыя на рынку Расійскай Федэрацыі, дзе карыстаюцца попытам. Напрыклад, зусім нядаўна былі званкі з Іркуцка і Хабараўска. Дарэчы, прадаўцы кніг у Казахстане і Украіне выбіраюць тавар таксама ў Маскве. Таму не выключаю, што прадукцыя выдавецтва распаўсюджваецца і ў гэтых дзяржавах.

**— Якімі навінкамі неўзабаве парадуе сваіх чытачоў "Выдавецтва Граўцова"?**

— У нашых планах — шэраг выданняў. Распавяду чытачам пра адно з іх. Яшчэ ў мінулым годзе пачалося ўзаемавыгаднае супрацоўніцтва з Рэспубліканскім інстытутам прафесійнай адукацыі. Мы выпусцілі "Справочник для поступающих в учреждения профессионально-технического образования Республики Беларусь". Зразумела, выданні такога кшталту выходзілі і раней. Але бывала, што некаторая інфармацыя ў іх не адпавядала рэчаіснасці, з-за чаго неадназова гучалі скаргі. Нашае выданне ўпершыню ў Беларусі мае грыф РІПА. Гэта адзінае афіцыйнае выданне даведніка ў краіне. Фактычна, маем інфармацыю з першых вуснаў. Цяпер здалі ў друкарню чарговы зборнік для абітурыентаў, што будуць паступаць ва ўстановы прафесійна-тэхнічнай адукацыі сёлета. У бліжэйшы час убачыць свет першы і адзіны ў рэспубліцы афіцыйны "Справочник для поступающих в учреждения среднего специального образования Республики Беларусь", таксама з грыфам РІПА.

*У падтрымку чытання*



**Кандыдат філалагічных навук, пісьменнік Пятро Васючэнка:**

## У казках — мудрасць

— Чытаць я пачаў у пяць гадоў, прытым з дарослых кніжак. Прыкладам, з Гогаля… Калі казаць пра беларускую літаратуру, то на мяне як на будучага пісьменніка найбольш паўплывала кніга "З рога ўсяго многа". Таўшчэзны і дастаткова поўны збор беларускіх казак усіх сюжэтных тыпаў. Сёння, калі бачу гэтае старое выданне, ува мне разгараецца апетыт. З казак засвойваюцца архетыпы мыслення чалавека. Тое, што мы сёння чытаем як другаснае, успрымаецца як навацыя, калі бярэшся за том казак першы раз у жыцці. Гэта тэзіс пра стварэнне свету, узаемаадносіны чалавека і прыроды, стэрэатыпы ўнутрычалавечых адносінаў, так званыя адвечныя тэмы. Таму я не лічу кнігу "З рога ўсяго многа" кнігай толькі для дзяцей. У мяне быў адзін знаёмы юны філосаф, які чытаў Шапенгаўэра, Ніцшэ і спрабаваў весці са мной філасофскія гутаркі. Гутаркі не атрымліваліся, таму што ён не чытаў казак. У казцы больш мудрасці, чым у філасофскім трактаце.

Напрыклад, "Курка Рабка" — гісторыя з'яўлення свету з яйка. "Дзед з козамі на небе" — успамін пра часы татэмізму. "Муха Хахаўка" — напамін пра тое, што некалі людзі былі больш блізкімі з братамі нашымі меншымі, чым цяпер, і пераймалі норавы звяроў, а звяры — норавы людзей. У сацыяльна-бытавых казках мы знаходзім маральныя максімы. Прыкладам, "Піліпка-сынок". Тут ёсць і парасткі гуманізму, і водгулле часоў, калі нашыя продкі, можа быць, былі канібаламі. Казкі новага часу таксама маюць у сабе, як рэха, парэшткі былой мудрасці.

Наста ГРЫШЧУК

*Прэзентацыя*

# У падарожжа да жыватворных крыніц

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

Мінскае выдавецтва "Альтиора — Живые краски" выпусціла ў свет кнігу Ірэны Гаражанкінай "Живая вода Словакии". Урачыстая прэзентацыя з нагоды рэалізацыі беларуска-славацкага праекта адбылася ў Доме дружбы.

Высакаякасная паліграфія гэтага выдання — даведніка па славацкіх курортах — дазваляе ўявіць хараство краіны ў цэнтры Еўропы, веліч яе старажытных замкаў, свежае паветра Высокіх Татраў. Аўтар, журналіст па адукацыі, вандроўніца па прызванні, закахалася ў прыгажосць краявідаў. Часта здараецца, што кожны дзень карыстаючыся тым, што навокал, прызвычайваешся і не можаш у поўнай меры ацаніць памер багацця, якім валодаеш. Менавіта погляду вандроўніка лягчэй выхапіць асаблівасці, ацаніць прыцягальную сілу таго, чаго няма ў роднай краіне. Так адбылося і з Ірэнай — на стварэнне кнігі яе натхнілі гісторыя і архітэктура, легенды старажытных замкаў, хараство гор і гаючая сіла тэрмальных крыніц.

Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Славацкай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Мар'ян Сэрватка, уступнае слова якога ёсць у кнізе, быў цалкам згодны з І. Гаражанкінай: "Славакія сапраўды найцікавейшая краіна: прыгожыя горы, сотні лячэбных мінеральных крыніц. Тут насамрэч здзяйсняецца казка пра жывую ваду — шматлікія курорты дапамагаюць лячэнню многіх захворванняў".

Гартаючы старонкі выдання, знаёмішся з гісторыяй курортаў і тымі "разынкамі", якія абавязкова трэба ўбачыць: у Бардзеёве, занесеным у спіс Сусветнай культурнай спадчыны ЮНЕСКА, Ірэна раіць не толькі адчуць жыватворную сілу вады, але і абавязкова наведаць храм Святога Эгідыя, дзе захаваліся 11 познеготычных створчатых алтароў з роспі-




сам па дрэве, у Бойніцэ — замак графа Палфі, у Банска-Быстрыцы — палац Турзо, пакаштаваць лепшыя віны рэгіёна ў Рыкінчыцах, пазнаёміцца са старажытным рамяством дротарствам (апляценне керамічнага посуду дротам) у Жыліне, а экстрэмалам — спусціцца на лыжах з паўднёвых схілаў гор курорта Лучкі.

# Тры апавяданні



Васіль Ткачоў

## Варона

Амаль кожны раз яна прачыналася, калі горад яшчэ спаў. Ледзь-ледзь пачынала днець, людзей нідзе амаль не відаць і не чуваць, і жанчына — а жыла яна на другім паверсе — расчыняла на верандзе насцеж акно — і адразу ж адчувала, як свежае паветра абвявала твар шчымлівай і лагоднай прахалодай. Куст жасміну ў апошні год падцягнуўся, і цяпер яго галлё нібыта просіцца да жанчыны ў госці: так-сяк абламала найбольш настырныя галіны; тыя, што можна было дастаць рукамі, адвяла ўбок. Вось цяпер іншая справа: цяпер добра бачыць яна пад вокнамі сваіх кацянятак, яны задралі на добрую цётку кволенькія галоўкі, лыпаюць вочкамі, бывае, нядоўга могуць так трываць, тады яны проста куляюцца на бачок. Але — глядзяць, як толькі можна глядзяць на яе, на сваю карміцельку, глядзяць мужна, з надзеяй.

— І вы ўжо прачнуліся, мае харошыя? Бягу, бягу!..

Наталля Цітаўна любіла раніцы. Хоць і выйшла год таму на пенсію, пазней прачынацца не стала. Гэта толькі марыла: вось стану пенсіянеркай, тады адасплюся. Дзе там! Ці прывычка, ці нешта іншае, але як толькі загаворыць на кухні радыё, яна ўжо на нагах. І сёння таксама, як і кожнага ранку, жанчына спярша паставіла на пліту чайнік, а пакуль вада будзе падаграваццa, заспяшалася на той жа балкон і пашукала вачыма сваіх гадаванцаў. А іх, прызнацца, і шукаць асабліва не трэба: кацяняткі тут як тут. Усе чацвёра. Яны зусім маленькія, кволенькія, і нават самая нізкая трава для іх пакуль вялікая перашкода, замінае. Наталля Цітаўна ж забылася пра гарбату, яна так і астыне ў кубку. Жанчына похапкам накрышыла хлеба ў неглыбокую місачку, наліла туды малака. Для іх хопіць ежы. Паўтарыла сваё "Бягу, бягу!" і асцярожна, каб не расплёскаць сняданак для кацянятак, на выцягнутай руцэ панесла місачку перад сабой. А калі тыя ўзяліся сілкавацца, кожнае кацяня пагладзіла, прымаўляючы:

— Сіроткі вы мае… Ешце, ешце, я вам яшчэ вынесу. Сама не вып'ю, вам дам. Хто ж вінаваты, што ў вас мамкі няма. А дзе яна, вы, відаць, і самі не ведаеце. Толькі не паверу я, што котка такіх немаўлятак магла кінуць, адцурацца. Такіх харошанькіх. Чалавек, даруй Госпадзі, можа, вунь паказваюць па тэлевізары, а котка не дазволіць сабе такога… Можа, забіў хто вашу матку, а? Піце, ешце… Вось і малайцы. Толькі не штурхайцеся, усім хопіць. Падрасцеце, тады вам гора менш будзе. Лаўчэйшымі і хітрэйшымі станеце.

На прыстрэшку ганка, Наталля Цітаўна толькі цяпер заўважыла, сядзела ўчарашняя вялікая чорная варона, не зводзіла вачэй з місы, у якой вабілі яе дробненькія кавалачкі хлеба, насычаныя малаком.

— А, ты зноў тут? — з дакорам у голасе падняла на яе вочы жанчына.

Варона каркнула і, нібы засаромеўшыся яе, адвярнулася.

— Глядзі ў мяне: калі зноў у малых адбярэш ежу — лаяць цябе буду. Зразумела? Ты ж глянь якая здаровая, можаш знайсці сабе што пакляваць, а дзе, скажы мне, яны, сіроты, возьмуць, хто паклапоціцца? Кыш!

Варона быццам зразумела жанчыну і паслухалася: узмахнула крыламі і пераляцела на суседняе дрэва, адкуль таксама не пераставала сачыць за кацянятамі і Наталляй Цітаўнай.

Тым часам на ганку паказалася з пузатай торбай новая суседка, жанчына сярэдняга веку. Як яе зваць-велічаць — Наталля Цітаўна не ведае, жыве яна высока — ажно на дзявятым, апошнім, паверсе, і з'явілася тут зусім нядаўна: памяняла, кажуць, двухпакаёвую кватэру на тры пакоі. Мае мужа і дачку-падлетка, гэта ўсе бачаць, ёсць у іх і даволі шыкоўная іншамарка. Дзе працуе гэтая жанчына, Наталля Цітаўна таксама не ведае, адно заўважыла, што кожнай раніцай спяшаецца некуды яна з туга набітай торбай. Як вось і цяпер. Новая суседка затрымалася каля Наталлі Цітаўны і кацянятак, моўчкі паглядзела на іх, а тады напусціла на сябе строгасць і мовіла халодным, як лёд, голасам:

— Разводзіце тут антысанітарыю!

— Як гэта? — ад нечаканасці, пачуўшы такое, Наталля Цітаўна ажно хаўкнула ротам: яна ж спадзявалася, што новая суседка таксама паспачувае кацяняткам, якія рана засталіся без маці, а яна — бачце што!.. Цюкнула, бы маланкай.

— А начамі што яны вырабляюць, каты гэтыя! — твар у новай суседкі ажно пачырванеў ад злосці, відаць, яна паставіла торбу перад сабой: відаць, цяжкая, а мо сабралася доўга перавыхоўваць Наталлю Цітаўну. — Спаць людзям не даюць. Вяселлі тут, бачце вы іх, ладзяць. Я на дзявятым паверху жыву, і тое чую. Гэта непарадак.

— Пачакайце, пачакайце, не гарачыцеся, — пачала супакойваць суседку Наталля Цітаўна. — А я вось на другім паверсе, і мне каты не перашкаджаюць. Сплю. Не чую іх. Ага. Сплю і не чую.

— І спіце, а я не магу! Развялі тут звярынец. А сабак колькі! Божа, і што за людзі ў гэтым, цяпер ужо і маім, доме?! Вось там, на праспекце Касманаўтаў, дзе я жыла раней, такога няма. Але было. Я, я навяла парадак. Цяпер мяне там успамінаюць, упэўнена, добрым словам. А як жа інакш?!

Наталля Цітаўна ўздыхнула, раптам адчула, што перасыхае і храсне ў роце, а нейкая горыч захаланула ёй у сярэдзіне грудзі. Усё ж яна знайшлася, каб сказаць:

— Не чакала я ад вас, жанчына, такога зларадства. Вы ж сама маці. А кацяняткі сіроты… Няўжо вам не шкада іх?

— Калі шкадуеце, забярыце дамоў! — валёхаючыся з боку на бок, новая суседка пайшла па сваіх справах, і калі праходзіла пад клёнам, на якім сядзела варона, тая каркнула: "Кар-р!.." — чым, падалося, нават спалохала яе, бо новая суседка ад каркання ажно здрыганулася, не адразу, а толькі ачомаўшыся, задрала галаву, а тады зіркнула на Наталлю Цітаўну і злосліва папракнула:

— Вось, атрымлівайце! Карміце, карміце і варон!.. Яны за вашымі кацянятамі даядуць. Не, я гэта так не пакіну!..

Настрой быў сапсаваны, але Наталля Цітаўна, асабліва не зважаючы на ўсё гэта, пачала супакойваць кацянятак, нібы і тыя чулі злую цётку і разумелі ўсё, што яна казала.

— Не слухайце вы яе, ешце, ешце. Вазьмі, кажа, да сябе ў кватэру, калі так любіш… Гэта вас, мае харошыя, сказала, каб узяла. Я б узяла. Месца ёсць. А потым што буду рабіць, калі падрасцеце? Ці пракармлю я вас? Ды і прывыкну, а калі блізка да цела станеце, то адрываць потым балюча. Вядома. А так вы на свежым паветры куляецеся-забаўляецеся, траўку, якую трэба, знойдзеце, па дрэвах палазіце… А ў мяне што? Асабліва радасці мала… Жыллё як жыллё… Чатыры сцяны… Ложак, стол… Тэлевізар. Уся радасць… А тут яшчэ такая аказія, мае харошыя: хварэю я часта, то бываю ў бальніцы… А каго папрашу, каб за вамі прыглядзець і накарміць? Няма каго. Сын п'яніца, яму ключы не давяраю, а мужык, Сцёпка, памёр, ірад… А так, калі на вуліцы, з голаду не памраце… Тут і сметніца побач… знайсці, кажуць, можна тое-сёе з ежы… Вам бы падрасці толькі хутчэй… на ногі стаць… А тая цётка, з дзявятага паверха, накінулася на вас, як учора варона… Вароне — даравальна: сама галодная… А ты ж, суседка, — чалавек, то не будзь варонай, не адымай у кацянятак ежу… Жывое ж… Няўжо не баліць? Хай варона не разумее… А чалавек павінен бы… павінен бы чалавек…

Варона, нібы таксама пачуўшы і зразумеўшы словы жанчыны, каркнула і паляцела прэч. Кацяняты, насмактаўшыся малачка, пачалі забаўляцца. "Што з іх возьмеш — дзеці ж", — шчасліва ўсміхнулася Наталля Цітаўна. Яна падняла парожнюю міску, паглядзела яшчэ раз на кацянятак, якія схаваліся ўжо ў кветніку — толькі па тым, што калываюцца лілії, рамонкі і цыніі, можна было зразумець, дзе яны, і заспяшалася піць гарбату. За сталом зноў успомніла новую суседку: "Трэба ж быць такой!.. Ай-я-яй!" Не выпускаючы з рукі кубак, Наталля Цітаўна падалася на балкон. Сёрбаючы кароткімі глыткамі халодную гарбату, яна пашукала вачыма кацянятак. Кветкі стаялі нерухома. "Спяць", — падумала жанчына і тут убачыла, як на тое месца, дзе колькі часу назад стаяла міска з ежай, прыляцела варона з кавалкам нечага ў дзюбе, паглядзела па баках, а потым паклала прынесенае на дол і села на прыстрэшак ганка. Сядзела і не зводзіла вачэй з кавалка каўбасы, як паспела заўважыць Наталля Цітаўна: чакала, трэба меркаваць, кацянятак. Нібы і яна ведала, што тыя — сіроты, і іх трэба агарнуць цеплынёй і клопатам.

На вачах Наталлі Цітаўны з'явіліся слязінкі. Яна паглядзела на варону, іх позіркі сустрэліся.

— Прабач, — сказала жанчына птушцы. — Ты ведаеш, за што…

## Перахапіла

Валянціна вярталася з базара, таму, вядомая справа, рукі ў яе былі занятыя сумкамі. На аўтобусным прыпынку жанчына з палёгкай уздыхнула: на лаве якраз было адно свабоднае месца, і таму яна мела магчымасць даць рукам паслабленне — села, а сумкі паставіла на калені. Патрэбны аўтобус затрымліваўся. Валянціна асабліва і не спяшалася. Жыве адна, а дзень нараджэння ў яе толькі заўтра, таму яшчэ паспее падрыхтавацца, каб чынна і годна сустрэць гасцей. Абяцалі быць калегі з аддзела.

А вунь і ён, патрэбны аўтобус. Пара ўставаць. Жанчына ўзяла ў рукі сумкі і накіравалася бліжэй да таго месца, дзе звычайна спыняецца транспарт. Стаіць. Чакае. І тут бачыць, што да аўтобуса бяжыць што сілы мужчына, а за ім гоняцца два маладзенькія міліцыянеры. Ловяць, значыць, уцекача-злачынцу. Так падумала яна, Валянціна. Не помніць і сама, як кінула яна сумкі на дол і шырока растапырыла рукі. Мужчына так і ўляцеў у яе абдымкі.

— Стаяць! — загадала жанчына. — Папаўся!..

Мужчына не мог зразумець, што адбываецца. Пакуль ён ачомаўся, міліцыянеры прабеглі міма, ускочылі ў аўтобус, таго неўзабаве і след прастыў. Толькі цяпер Валянціна здагадалася, што адбылося. Перастаралася, адным словам. Яна гучна засмяялася і папрасіла прабачэння ў мужчыны. Мужчына таксама ўсміхнуўся ў адказ:

— Бывае. — І прапанаваў свае паслугі: — Вам, можа, дапамагчы сумкі несці?

— Ну, калі не цяжка… — спярша сумелася Валянціна, а потым паціснула плечуком.

— А мне няма куды спяшацца. Не ведаю, навошта я так ляцеў на злом галавы да таго аўтобуса? Хаця, кажуць, што ні робіцца, усё да лепшага… — шматзначна паціснуў ён плячыма і згроб у адну руку ўсе яе сумкі, загадкава паглядзеў на жанчыну. — Загадвайце: куды несці?

— Дамоў… — ціха і сарамліва прамовіла жанчына.

— Дамоў дык дамоў! — бадзёра сказаў мужчына і дапамог Валянціне увайсці ў салон аўтобуса, які толькі што падышоў.

З таго дня на базар яны ходзяць разам і ездзяць толькі на тым нумары аўтобуса, які стаўся шчаслівым для іх абаіх.

## Прывітанні

Сяргей Іванавіч амаль усё сваё жыццё працаваў у канструктарскім бюро завода па вырабе вентылятараў, а калі выйшаў на пенсію, пераехаў жыць у іншы горад — бліжэй да сына і ўнукаў, як сказаў сваім былым супрацоўнікам. Праводзячы ветэрана працы на новае месца жыхарства, яны паабяцалі не забываць Сяргея Іванавіча.

— Ты толькі пакліч, і мы заўсёды акажамся побач! — ударыў у грудзі інжынер-канструктар Ціханчык. — Не забывай і ты нас, шаноўны! Тэлефануй! І помні: у цябе сярод нас багата сапраўдных сяброў, у тым ліку і я. Нас не разлучаць адлегласці, жывы і вер!..

Праз нейкі час у Сяргея Іванавіча надарыўся юбілей — сямідзесяцігоддзе. У канструктарскім бюро доўга не вагаліся, каго адкамандзіраваць у суседні горад, каб той ад імя калектыву павіншаваў ветэрана з днём нараджэння. Канечне ж, Ціханчыка! Усе добра помнілі, як ён абдымаў на вакзале Сяргея Іванавіча і слёзна прасіў не забываць калектыў. І мы цябе, маўляў, ніколі не забудзем, любы дружа.

Былыя супрацоўнікі скінуліся па некалькі тысяч, за якія купілі падарунак імянінніку і вымеркавалі, вядома ж, грошы на аўтобус Ціханчыку. Пажадалі таму шчаслівай дарогі.

У панядзелак Ціханчык на працу не выйшаў. З дарогі чалавек, рашылі ў канструктарскім бюро, то не выспаўся, мусіць, няхай адпачне. Усё ж на дні нараджэння быў. Не будзем турбаваць. А на наступны дзень Ціханчык гучна і ўзнёсла распавядаў усім, як добра прайшоў у Сяргея Іванавіча дзень нараджэння і як дарэчы быў ягоны візіт.

— Калі я ўручаў падарунак юбіляру ад усіх вас, сябры мае, вы б толькі бачылі, як ён расчуліўся, пусціў нат скупую мужчынскую слязу. — Ціханчык ажно сам хлюпнуў носам і прамакнуў насоўкай вільгаць на вачах. — Што значыць — увага, сябры мае. Ён вам усім перадае, дарэчы, прывітанні. Жадае моцнага здароўя і поспехаў у працы.

Праз некалькі тыдняў Сяргей Іванавіч прыехаў у горад свайго юнацтва і, вядома ж, завітаў на старое месца працы. Шчырыя ўсмешкі, поціск рук, абдымкі.

— Вялікі дзякуй табе, Сяргей Іванавіч, за прывітанні, — сказаў нехта з супрацоўнікаў, — якія перадаў нам ад вас Ціханчык…

Сяргей Іванавіч зніякавеў: "Якія прывітанні? Ніякі ж Ціханчык на юбілей не прыязджаў…" Але ён не падаў выгляду. І — змоўчаў. Толькі з хітрынкай у вачах паглядзеў на Ціханчыка, які схаваў галаву за манітор камп'ютара і стараўся не дыхаць.

Алесь СУХАДОЛАЎ,
фота Аляксея Смольскага



Сцэна са спектакля.

# Місія «Мімозы»

**Сацыяльная інтэграцыя інвалідаў — праблема складаная і набалелая. Калі мы імкнёмся да мадэрнізацыі грамадскага жыцця, нам не пазбегнуць яе вырашэння. Зразумела, што ў першую чаргу размова ідзе пра наяўнасць жылля, працоўных месцаў, сацыяльных ільгот. І пасля ўжо згадваецца значэнне цэркваў, спецыялізаваных школ, мастацкіх студый... Адным словам, выхаванню душы чалавека ў гэтым асяроддзі адводзіцца другарадная роля. Пра слушнасць, абгрунтаванасць такога падыходу я паспрабую паразважаць на прыкладзе мінскага тэатра “Мімоза”, які больш як дзесяць гадоў займаецца з інвалідамі тэатральнымі пастаноўкамі.**

Інваліднасць — з шэрагу тых з'яў, якія акружаюць нас у штодзённым жыцці і ад якіх, тым не менш, мы імкнёмся ўсімі сіламі адмежавацца. І гэта натуральна, бо чалавек баіцца траўмы, хваробы, страты здароўя, баіцца... выглядаць непаўнацэнным у чужых вачах. Але ж ад немачы, як вядома, ніхто не застрахаваны. Задача тэатра “Мімоза” — даць чалавеку магчымасць пераадолець пачуццё, ці, дакладней, — усведамленне ўласнай немачы. Сцвердзіцца, раскрыць свае таленты, паказаць сябе з моцнага боку — на сцэне магчымыя ўсялякія цуды і пераўтварэнні. Да мастацкага кіраўніка тэатра Вольгі Прохаравай калі-нікалі звяртаюцца пасля спектакля збянтэжаныя гледачы: “Усё добра, але дзе тут у вас інваліды?!” Артысты, што добра спяваюць, таленавіта прамаўляюць маналогі, пластычна рухаюцца і танчаць, ніяк не стасуюцца з гэтым жаласным словам. Тут кожны знаходзіцца на сваім месцы. І нават ролі падбіраюцца спецыяльна пад чалавека. Разам такая трупа — моцны калектыў, дзе абмежаваныя магчымасці аднаго кампенсуюцца здольнасцямі іншага.

Так, мімозаўцы — далёка не тыя людзі, што выклікаюць у сэрцы гледача шкадобу сваімі сцэнічнымі дзеяннямі. Светлыя, жыццярадасныя, яны нясуць пазітыў з тэатральных падмосткаў у рэальнае жыццё. Большасць з іх мае сталы заробак і працу — нягледзячы на наяўнасць групы інваліднасці, парушэнні ў развіцці. Некаторым, наадварот, давялося пераадолець празмерная шкадаванне блізкіх, што замінае сцвердзіцца ў самастойнасці. Мяркую, што для многіх тэатр змяніў ход жыцця, напоўніўшы яго ўпэўненасцю, сэнсам, новымі магчымасцямі. Не хачу нікога пакрыўдзіць, але інваліды са свайго мізэрнага заробку выдаткоўваюць грошы на рэквізіт, друк, набыццё абсталявання, пашывачных матэрыялаў — усяго таго, што патрэбна для нармальнай тэатральнай пастаноўкі. Гэты факт яскрава гаворыць пра духоўную моц людзей “з асаблівасцямі”.

А іх было чым зламіць. На долю тэатра выпалі сур'ёзныя выпрабаванні. У 2009 годзе быў зачынены на рамонт будынак “Інвацэнтра” па вуліцы Мяснікова, 26, пад дахам якога тэатр месціўся доўгія гады. Тады думалася: ці здолеюць хворыя людзі, якія засталіся без памяшкання, захаваць рэпертуар і склад калектыву? Гэта гучыць жахліва, але пэўныя асобы былі б нават і рады, каб у гэтым асяродку памянела актыўнасці, а тэатральнае захапленне сышло, як дзіцячае блюзнерства. Але выпрабаванні толькі шчыльней з'ядналі і загартавалі артыстаў. І сёння яны выйшлі на ўзровень прафесійнай сцэны — Маладзёжнага тэатра эстрады, куды прадаюцца квіткі. Выйшлі з пастаўленым у “Інвацэнтры”, але значна ўдасканаленым сёння спектаклем “Дыхай са мной”.

Няхай мне даруюць выканаўцы, але ў аўтара гэтых радкоў зусім нядаўна былі іншыя адносіны да такой з'явы, як тэатр інвалідаў. Шмат для каго “тэатр” — гэта справа несур'ёзная, а “тэатр інвалідаў” заслугоўвае да сябе як максімум паблажлівага стаўлення. Гэткая права дабрачыннасці. Дзе ўжо тут казаць пра катарсіс і мастацкія вартасці пастаноўкі! Вось і я прытрымліваўся гэткіх жа скептычных поглядаў. Так бы яно і было, калі б пасля другога паказу ў Маладзёжным тэатры эстрады мяне літаральна не захліснула хваляй удзячнасці і шчырых апладысментаў, што не аціхалі ў глядзельнай зале. У “асаблівым” тэатры глядач можа знайсці для сябе тое, чаго няма ў акадэмічным. А менавіта: прастасць, натуральнасць, шчырасць, свята “наіўнага мастацтва”. Якраз тое, чаго не хапае няспрактыкаванаму тэатралу.

Але, як гэта і павінна быць у мастацтве, за даступнай формай і простым сюжэтам прыхаваны глыбокія сэнсы і патаемныя ключы. Каханне галоўных герояў Фэба і Лагорды, юных і прыгожых... Маральнае падзенне Фэба праз апантанасць — згадка наркаманіі ды іншых чалавечых заганаў... Персанаж Дрогана, звыродлівага царкоўнага званара з чыстай душой... З'яўленне на сцэне цыганскага табару з варажбіткай Радай на чале... Сюжэт часткова пазычаны з легендарнага “Нотр-Дам дэ Пары”, але атрымлівае ўласнае развіццё, далёкае ад французскай першаасновы. Для тэатра такога кшталту гэта цалкам прымальная з'ява, бо тут ніхто не бярэцца канкураваць з прафесійнымі выканаўцамі. Перад мімозаўцамі стаіць зусім іншая задача: данесці высокае мастацтва да людзей з абмежаванымі магчымасцямі, укараніць яго на гэтай малападатлівай глебе. Няхай не ўсё атрымліваецца гладка — часам ірвуцца звязкі паміж сцэнамі, не гучыць адзіным акордам трошкі расцягнутая канцоўка, — аднак энтузіязм і шчырая вера стваральнікаў відовішча кампенсуюць усе магчымыя хібы. У фінале спектакля з юнаком Фэбам адбываецца псіхалагічная трансфармацыя — праз узаемадзеянне са светлым вобразам Дрогана, — і ён робіць выбар на карысць кахання, а не знішчальнага эгацэнтрызму. Калі глядач верыць Фэбу, (у ролі якога артыст эстрады, інвалід па зроку Аляксей Крэчат), — спектакль адбыўся!

Здавалася б, “Мімоза” — гэта свецкая трупа. А тэма спектакля — душа чалавека, дзе змагаюцца цёмныя і светлыя сілы. Многае родніць пастаноўку з жанрам інтэрмедыі, з царкоўным тэатрам, у якога свая старадаўняя гісторыя. І справа не толькі ў дабрачыннай скіраванасці таго, чым займаецца

> *У “асаблівым” тэатры глядач можа знайсці для сябе тое, чаго няма ў акадэмічным. А менавіта: прастасць, натуральнасць, шчырасць, свята “наіўнага мастацтва”. Якраз тое, чаго не хапае няспрактыкаванаму тэатралу.*

“Мімоза”. Спектаклю ўласціва рэлігійнасць як рыса сучаснага мастацтва, як адзнака глыбокага душэўнага перажывання рэчаіснасці. Найбольш поўна гэтая якасць выявілася ў вобразе Анёла ў выкананні Андрэя Судніка — маленькага чалавечка з выразным драматычным талентам. З вуснаў Анёла гучаць ключавыя словы: “Не па абліччы ты пазнаеш сутнасць чалавека... Мала хто можа разгледзець пад абалонкай існасць”. Гэта пра страшнага Дрогана, што нагадвае біблейскае: “Бо чалавек глядзіць на твар, а Госпадзь глядзіць на сэрца”. Такое пасланне спектакля да “здаровых” людзей: нельга нікога выракацца праз хваробу, немач, адхіленне ў развіцці — за непрывабнай абалонкай можа хавацца залатая душа. Я наогул лічу, што часам Усявышні адмыслова “маскіруе” сваіх пасланнікаў, каб ісціну маглі ўбачыць толькі тыя, хто навучыўся бачыць сэрцам (згадаем звыродлівага байкапісца Эзопа). Таму надзвычай важная роля дасталася Аляксандру Разанцаву, які іграе Дрогана. У выканаўцы — ДЦП лёгкай ступені, што не адбілася на разумовым развіцці, аднак стварыла сур'ёзныя праблемы з маўленнем. І той факт, што ён у спектаклі гаворыць, — гэта ўжо вялікае дасягненне, і яго нешматлікія рэплікі гучаць у найбольш драматычныя моманты імпрэзы.

Містычным, эзатэрычным сэнсам поўняцца словы Лагорды, якую ўвасабляе Вольга Прохарава: “Ты няправільна дыхаеш... Трэба ўдыхнуць увесь гэты свет з усім яго добрым і прыгожым”. Менавіта Вользе належыць ідэя праекта “Дыхай са мной” і асноўная роля ў яго ажыццяўленні. Выпускніца БДУКіМ, сацыяльны педагог Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача, у спектаклі мімозаўцаў яна і рэжысёр-пастаноўшчык, і драматург, і аўтар касцюмаў, і выканаўца галоўнай ролі.

Але такі разнапланавы ўдзел выкліканы больш неабходнасцю, чым уласна творчымі амбіцыямі: не было каму замяніць Вольгу Прохараву ва ўсіх гэтых справах. Яна не імкнецца дастасаваць да сябе ролю рэжысёра-творцы, безумоўнага лідара, хутчэй, выяўляе сябе пасрэднікам, куратарам, што яднае вакол сябе, сваёй мэты калектыў аднадумцаў. І менавіта такая альтруістычная пазіцыя і паспрыяла агульнаму поспеху: шчырасць і бескарыслівасць натхняе людзей да саўдзелу ці, як мінімум, выклікае жаданне дапамагчы. І, такім чынам, спраўджваюцца самыя светлыя мары Вольгі і яе “гадаванцаў”. Упэўніцца ў гэтым можна, наведаўшы музычны сацыяльна-філасофскі спектакль “Дыхай са мной”, пастаўлены тэатрам “Мімоза”.

## ART-пацеркі

Лана ІВАНОВА

Сёння ўвечары Беларускі дзяржаўны маладзёжны тэатр пакажа прэм'еру спектакля “Звычайная гісторыя” паводле хрэстаматыйнага рамана Івана Ганчарова. Над пастаноўкай працавалі рэжысёр Мадэст Абрамаў, мастак па касцюмах Ніна Гурло, вялікая група артыстаў тэатра, сярод якіх Канстанцін Міхаленка, Яўген Іўковіч, Лілія Арамілева, Алена Хрысціч, Андрэй Гладкі ды інш. Будынак тэатра, як вядома, на рэканструкцыі, таму паказ адбудзецца ў Рэспубліканскім палацы культуры ветэранаў.

Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Рэспублікі Беларусь, якім кіруе маэстра Міхаіл Фінберг, свае сёлетнія праекты прысвячае 25-годдзю калектыву. Учора завяршыўся адзін з іх: “Шлягеры на ўсе часы”. Пад знаёмаю назвай — новая серыя сталічных канцэртаў, якія, на думку маэстра, нясуць у сабе не толькі дадатныя эмоцыі, але і вялікі асветніцкі сэнс: “Шлягер — гэта не значыць модны хіт, шлягерамі з'яўляюцца лепшыя песні, якія вытрымліваюць праверку часам, не страчваюць сваю мастацкую каштоўнасць, гуманістычныя вартасці і перадаюцца з пакалення ў пакаленне”. Для кагосьці “Шлягеры на ўсе часы” — кранальны напамін пра маладосць, для кагосьці — прыемнае адкрыццё забытых мелодый. Сёлета прагучалі тэматычныя праграмы “Людміла Гурчанка: «Когда мы были молодые...»”, “Песні кіно, радыё і тэлебачання”, “Новы шансон” і апафеоз праекта — “Юбілейны канцэрт. Міхаіл Фінберг і аркестр”.

Гарадская мастацкая галерэя твораў Л. Шчамялёва запрашае на выстаўку “Мая сям'я”. Экспазіцыя ўключае каля паўсотні размаітых партрэтаў, створаных народным мастаком Беларусі Леанідам Шчамялёвым, які з асаблівай цеплынёй і назіральнасцю ўвасабляе на палатне прадстаўнікоў некалькіх пакаленняў сваёй вялікай сям'і. Арганізатары выстаўкі прадстаўляюць яе як пачатак імпрэз, што будуць ладзіцца насустрач 90-годдзю Леаніда Дзмітрыевіча, выбітнага майстра айчыннага жывапісу.

Пяты раз ператварылася ў “Кветкавы рай” галерэя “Лабірынт” Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Традыцыйны выставачны праект, прысвечаны вечнай тэме веснавога абуджэння і росквіту, пазітыўнай сімволіцы кветак, сёлета пашырыў свой фармат. Апроч прафесійных жывапісцаў, графікаў, фотамайстроў і мастакоў, якія працуюць у дэкаратыўна-прыкладных жанрах, да стварэння “Кветкавага раю” далучыліся прадстаўнікі Беларускага саюза фларыстаў, прапанаваўшы для паказу арыгінальныя крэатыўныя кампазіцыі.

Атмасфера Мінска зноў поўніцца... “Арт-мажорам”! Гэты фестываль мастацтваў, які аб'ядноўвае студэнцкую моладзь, педагогаў і вядомых выпускнікоў БДУКіМ ды прывабліваe шырокае кола гледачоў, — у ліку значных падзей нашага жыцця. Ён адыгрывае вялікую ролю ў захаванні, развіцці ды распаўсюджванні нацыянальнай культуры і мовы, у духоўнай пераемнасці пакаленняў, ва ўзбагачэнні творчых традыцый беларускага народа і папулярызацыі набыткаў сусветнага мастацтва. Прадзюсарскі цэнтр “Арт-мажор” БДУ культуры і мастацтваў праводзіць фестываль ужо дваццаты раз і прысвячае яго Году кнігі. Фэст працягнецца па 25 мая. На лепшых сталічных пляцоўках пройдуць канцэрты кафедраў універсітэта, выстаўкі кніг і твораў дэкаратыўна-прыкладнага мастацтва.

# Павітайце вясну... увечары!

**Сёння ў Вялікай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі ўрачыста распачнецца “Мінская вясна-2012”. Дваццаць дзявяты раз ладзіцца на галоўнай канцэртнай пляцоўцы сталіцы гэтае міжнароднае свята музыкі. І хаця ў яго эмблеме афіцыйна не ўжываецца слова “фестываль” (некалькі сезонаў таму было прынята называць “Мінскую вясну” цыклам канцэртаў), адзін са старэйшых філарманічных праектаў, як і раней, прываблівае сваёй высокай мастацкай вартасцю і святочнай сутнасцю самую пераборлівую публіку.**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**

Чым зацікавіць чалавека не надта дасведчанага, якому афіша “Мінскай вясны” можа падацца даволі сціплай у параўнанні з кідкай “зоркавай” рэкламай іншых міжнародных музычных імпрэз — напрыклад, ужо традыцыйнага для Беларусі фестывалю Юрыя Башмета ці праекта “Уладзімір Співакоў запрашае”, што сёлета ажыццяўляецца ў Мінску другі раз? Калі такі чалавек і насамрэч цэніць мастацтва, а не проста хінецца да гучных імёнаў, яго сумніву можна супрацьпаставіць кожную праграму вясновага “не-фестывалю”.

Мастацкі кіраўнік Беларускай дзяржаўнай філармоніі, знаны артыст, прафесар Юрый Гільдзюк, музыкант з вытанчаным густам, найвысокімі творчымі крытэрыямі ды шматгадовым досведам у арганізацыі канцэртнага жыцця, перакананы: “Паводле свайго музычнага зместу “Мінская вясна” не саступае тым фестывалям, якія ладзяцца ў нашай краіне на камерцыйнай аснове. Ужо самая першая праграма, якой 30 сакавіка адкрываецца наш цыкл канцэртаў, прываблівае ўвагу і аматараў класікі, і прафесійных музыкантаў. Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі выканае знакамітую сімфонію №9 “З Новага Свету” Антаніна Дворжака. У Канцэрце Яганеса Брамса для скрыпкі ды віяланчэлі партнёрамі аркестра будуць добра знаёмыя мінскай публіцы госці: Юлія Ігоніна — сусветна вядомая расійская салістка, якая нарадзілася ў Мінску і пачынала свой шлях у прафесійнае мастацтва менавіта тут, і Марк Драбінскі — “дэман віяланчэлі”, вучань легендарнага Мсціслава Растраповіча, адзін з самых вядомых музыкантаў Еўропы, які ўжо больш як 30 гадоў жыве ў Францыі. Так што сёння ў Вялікай канцэртнай зале — сапраўды вялікая падзея”.

Дарэчы, адкрыўшы “Мінскую вясну”, аркестр на чале з мастацкім кіраўніком Аляксандрам Анісімавым працягне серыю сваіх вясновых выступленняў, але ўжо на іншым кантыненце. Упершыню вядучы сімфанічны калектыў Беларусі прадставіць выканальніцкае мастацтва нашай краіны ў Японіі.

“Аднак мы не пакінем публіку “Мінскай вясны” без аркестравай музыкі, — падкрэслівае Юрый Гільдзюк. — У праграме пад назваю “Скандынаўская тэма”, што адбудзецца 5 красавіка, удзельнічае Сімфанічны аркестр Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь. За дырыжорскім пультам выступіць наш госць з Эстоніі Эркі Пекх. Прагучаць таямнічая і рамантычная Сімфонія № 2 фінскага кампазітара-класіка Яна Сібеліуса і Фартэпіянны канцэрт геніяльнага нарвежца Эдварда Грыга. Саліст, які будзе ў гэты вечар іграць з аркестрам, мае сярод мінскай публікі нямала прыхільнікаў яшчэ са сваіх юначых гадоў. Гэта лаўрэат шматлікіх міжнародных конкурсаў, беларускі піяніст Юрый Бліноў. Свой міжнародны праект, здзейснены ў партнёрстве з пасольствам Турцыі ў нашай краіне, прадставіць і Дзяржаўны камерны аркестр Беларусі, якім кіруе маэстра Яўген Бушкоў: на афішы — прывабная для многіх назва “Часы... «Beatles»”. На сцэну з нашымі музыкантамі выйдзе шаноўны турэцкі маэстра, дырыжор Стамбульскага дзяржаўнага сімфанічнага аркестра, піяніст, прафесар Эрол Эрдзінч. І ў гэты вечар (10 красавіка) будзе нямала сюрпрызаў: выбітныя салісты, яскравы рэпертуар — ад аранжыровак “Паравінаў года” Астара П’яцолы да матываў “Бітлз” і джазавых мініяцюр”.

Сярод удзельнікаў “Мінскай вясны-2012” — лепшыя творчыя калектывы краіны. Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла імя Р. Шырмы (мастацкі кіраўнік Людміла Яфімава) у бліжэйшы аўторак выступіць з вялікай праграмай, якую прысвячае памяці Настаўніка — свайго заснавальніка, выбітнага беларускага музычнага дзеяча, фалькларыста, народнага артыста СССР Рыгора Раманавіча Шырмы — і прымяркоўвае да 120-годдзя з дня яго нараджэння. Эпіграфам прагучыць “Зорка Венера” са славутай шырмаўскай “Анталогіі”. Затым — харавыя творы нашых сучаснікаў Яўгена Паплаўскага ды Вячаслава Кузняцова. І — неўміручая “Літургія Святога Іаана Залатавуста” Сяргея Рахманінава.

Нацыянальны акадэмічны народны хор імя Г. Цітовіча 4 красавіка дадасць самабытны магутны голас у поліфаню “Мінскай вясны”. З Магілёўскай абласной філармоніі завітае Аркестр народных інструментаў імя Л. Іванова (мастацкі кіраўнік і дырыжор Мікалай Алданаў), які выступіць разам з вядучымі салістамі беларускай опернай сцэны Нінай Шарубінай, Уладзімірам Пятровым, Уладзімірам Громавым, Сяргеем Франкоўскім. Назва праграмы кажа сама за сябе: “Вечар старадаўняга раманса” (8 красавіка). А Нацыянальны акадэмічны народны аркестр імя І. Жыновіча пад кіраўніцтвам Міхася Казінца рыхтуе грандыёзную прэм’еру, прысвечаную 130-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы: сваю версію рок-оперы “Песня пра долю” Уладзіміра Мулявіна на вершы народнага паэта — з удзелам салістаў Кацярыны Дзегцяровай, Пятра Ялфімава, Яна Жанчака, фальклор-тэатра “Госьціца” (18 красавіка).

За адным разам не пералічыць усе адметныя імпрэзы “Мінскай вясны”! У Вялікай зале філармоніі плануюцца і выступленні нашых знакамітых салістаў. Старонкі папулярнай класікі для “караля інструментаў”, раяля, ажывуць у праграме Ігара Алоўнікава, прысвечанай 300-годдзю фартэпіяна. А салістка канцэртнай залы Полацкага Сафійскага сабора Ксенія Пагарэлая возьме ўдзел у папулярным філарманічным праекце “Шэдэўры сусветнага арганнага мастацтва”, які вядзе музыказнаўца Вольга Савіцкая.

Між іншым, фестывальны дух завітае і ў Малую залу імя Р. Шырмы. Там, напрыклад, пагасцюе музыка для фартэпіяна ў чатыры рукі (дуэт расійскіх музыкантаў Дзмітрыя Зубава ды Сямёна Дзянісава); на час ужо традыцыйных міжнародных дзён мандаліна-гітарнай музыкі “Мандалінісіма” заззяюць зоркі айчыннага і расійскага выканальніцтва; у сакральны для хрысціянаў час адкрыюцца духоўныя іспіны праз вядомы твор Ёзафа Гайдна “Сем слоў Збаўцы на крыжы” ў выкананні Мінскага струннага квартэта. А маэстра Уладзімір Байдаў разам са сваім ансамблем салістаў “Класік-Авангард” наладзіць чарговую прэм’еру: “Каханнем неба віхрыць танец...”, якая літаральна выбухне бліскаўкамі самабытных мелодый розных краін і народаў!

Вось так... Павітаўшы “Мінскую вясну” сёння, можна сустракацца з ёю ці не кожны вечар. Яна будзе ствараць у канцэртнай зале сонечна-ўрачысты настрой. Незалежна ад вясновых капрызаў надвор’я.



*Старшыня Камісіі Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА Уладзімір Шчасны ўручае дыплом народнаму мастаку Беларусі Барысу Герлавану.*

# Тэатр і мастакі

**Арцём КУМЕЛЬСКІХ, фота Кастуся Дробава**

Добрая традыцыя Дзяржаўнага музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі — правядзенне конкурсу работ мастакоў-сцэнографаў на атрыманне прэміі імя Івана Ушакова. З 2000 года штовесну ладзіцца гэтае творчае спаборніцтва, вынікі якога падсумоўваюцца ва ўрачыстай абстаноўцы напярэдадні Міжнароднага дня тэатра.

Работы сёлетніх намінантаў размясціліся ў выставачнай зале музея. Гэта макеты сцэнаграфіі, эскізы касцюмаў да спектакляў у розных тэатрах краіны, выкананыя пяцю мастакамі. У экспазіцыі ёсць і мемарыяльны куток заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі І. Ушакова з яго эскізамі дэкарацый да спектакляў Купалаўскага тэатра. Каму ж дасталася яго імянная прэмія? Валянціне Праўдзінай за афармленне “Вельмі простай гісторыі” М. Ладо ў НАДТ імя Якуба Коласа ды Любові Сідзельнікавай, якая стварыла сцэнічнае аблічча камічнай оперы Г. Даніцэці “Званочак, або Шлюбная ноч аптэкара” ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным музычным тэатры.

Штогод на гэтай імпрэзе ганаруюць і прадстаўніка СМІ за асвятленне падзей тэатральнага жыцця: такому журналісту ўручаецца Дыплом Камісіі Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА. Сёлета адзначана вядомая медыйная асоба, карэспандэнт АТН Ларыса Гулякевіч. Старшыня камісіі Уладзімір Шчасны нагадаў, што рашэнне IX кангрэса Міжнароднага інстытута тэатра наконт даты 27 сакавіка прымалася ў 1961 г., але фактычна святкаваць Дзень тэатра пачалі з 1962-га. Так што ў гэтага знамянальнага дня юбілей — 50. Таму і адзначаных узнагародамі ЮНЕСКА больш. Іх, вядомых майстроў, настаўнікаў для некалькіх пакаленняў беларускіх сцэнографаў, — Барыса Герлавана і Уладзіміра Чарнышова, а таксама піяністку, педагога, кіраўніка міжнароднага праекта “Маладыя галасы” Тамару Астапенку прадставіла дырэктар музея Зінаіда Кучар. Уладзімір Шчасны ўручыў дыпломы — і ў выкананні ўдзельнікаў праекта “Маладыя галасы” загучала сонечная італьянская музыка.

# Балерына як тытул

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, фота Кастуся Дробава**



*Прадстаўнік генеральнага партнёра праекта — намеснік старшыні праўлення Белінвестбанка Уладзімір Тамашэвіч; мастацкі кіраўнік балета НАВТ оперы і балета Беларусі Юрый Траян; намеснік генеральнага дырэктара НАВТ Валерый Гедройц і легендарная Ніна Ананіяшвілі на сустрэчы з мінскімі журналістамі.*

Два вечары на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі выступалі госці з Грузіі. Гэта была ўжо трэцяя сустрэча нашай публікі з высокім харэаграфічным мастацтвам таленавітага народа, звязанага з беларусамі даўняй прыязнасцю, сімпатыяй, сяброўствам.

Сем пастановак (аднаактовыя спектаклі, харэаграфічныя мініяцюры), якія паказаў Тбіліскі дзяржаўны тэатр оперы і балета імя З. Паліяшвілі падчас свайго сакавіцкага візіту, пазнаёмілі беларускую публіку і са шматгранным выканальніцкім майстэрствам грузінскіх артыстаў, і са шматпланавай творчасцю сусветнага сузор’я харэографаў. Для Мінска гэта быў бліскучы парад прэм’ер. Неверагодна, але ў першы ж вечар за пару гадзін перад намі прайшла размаітая чарада разнажанравых і рознастылёвых музычна-сцэнічных вобразаў, алегорый, метафарычных лёсаў, рамантычных гісторый і драм: “Моцартыяна” і “Duo concertant” Джорджа Баланчына, “Падзенне анёлаў” Іржы Кіліяна, “Між небам і зямлёй” Трэя МакІнтайра. “Моцартыяна”, пастаўленая на музыку Сюіты № 4 П. Чайкоўскага, напісанай паводле некаторых тэм зальцбургскага генія, уразіла яшчэ і ўдзелам выхаванцаў Беларускага дзяржаўнага харэаграфічнага каледжа, і жывым гучаннем нашага аркестра, якім дырыжыраваў грузінскі маэстра Давід Мукерыя. А таксама — дэбютам дуэта салістаў: сусветнай мега-зоркі, уладальніцы шматлікіх ганаровых званняў, мастацкага кіраўніка Грузінскага балета Ніны Ананіяшвілі ды нашага майстра, народнага артыста Беларусі Ігара Артамонава. Кранальны камерны дыялог салістаў (Кацярына Сурмава, Ігар Артамонаў) “Duo concertant” інспіравала жывое выкананне музыкі І. Стравінскага: Лелам Мджадлідзэ — скрыпка, Тамар Маджаварыяні — фартэпіяна. Сюрпрызам для гледача сталася не пазначаная ў праграме знакамітая мініяцюра Міхаіла Фокіна, пастаўленая на музыку п’есы К. Сен-Санса “Лебедзь”: танцавала Ніна Ананіяшвілі. У гэтай пранізлівай “лебядзінай песні” — такая кантылена рухаў, жэстаў, пластыкі, такая візуальная дасканаласць, такі вытанчаны і высокі духоўны пасыл! (Хто здагадаўся б, што праз год балерына адзначыць свой залаты юбілей, калі б яна сама не сказала пра гэта).

Між іншым, напярэдадні гэтай тэатральнай падзеі Ніна Ананіяшвілі, адказваючы на пытанні журналістаў, заўважыла: “Сёння налічваюць 10-гадовых выхаванцаў харэаграфічнай школы называюць балерынамі. Аднак з гісторыі вядома, што балерына — гэта... не прафесія. На імператарскай сцэне працавалі танцоўшчыцы, а балерын сярод іх было адзінкі. Балерына — гэта тытул, які даваўся танцоўшчыцы тэатра і які трэба было заслужыць”.

Падчас прэс-канферэнцыі з удзелам Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Грузіі ў Рэспубліцы Беларусь Георгія Чхеідзэ гаварылася не толькі пра плённае развіццё творчых стасункаў паміж двума тэатрамі, але і пра перспектыву беларуска-грузінскіх культурных і сяброўскіх сувязей. Нашы салісты Ігар Артамонаў і Дзяніс Клімук паспяхова супрацоўнічалі з Грузінскім дзяржаўным балетам. Ёсць ідэі наконт пашырэння партнёрства ў спектаклях, абменных гастролях. Больш канкрэтная гаворка пра гэта будзе пасля таго, як завершыцца капітальны рамонт цудоўнага старажытнага будынка тэатра ў цэнтры Тбілісі, дзе Беларускаму балету яшчэ не даводзілася выступаць.



**Міжнародны дзень тэатра адметны для многіх, бо дату 27 сакавіка памятаюць усе, для каго сцэнічнае мастацтва — прафесія і захапленне, прызванне, лёс і любоў. Яго Вялікасць Тэатр мае ў Беларусі глыбокія вытокі, што вызначаюць яго нацыянальную самабытнасць і ў той жа час яднаюць з сусветнай мастацкай культурай. Ёсць і свае традыцыі, звязаныя з Міжнародным днём тэатра (World Theatre Day), які адзначаецца з 1961 года адпаведна рашэнню IX кангрэса Міжнароднага інстытута тэатра. У нас да гэтай даты штогод прымяркоўваюцца прэм'еры спектакляў, урачыстыя імпрэзы, фірмовыя "капуснікі" творчых калектываў і нават міжнародны маладзёжны тэатральны форум "М.@рт.кантакт". Дзень 27 сакавіка паяднаў усіх, хто шчыруе на сцэне, працуе за кулісамі ці прыходзіць у залу як звычайны глядач, а ў якасці чытача наведвае лімаўскую "Тэатральную пятніцу" і знаходзіць публікацыі пра сцэнічнае мастацтва на іншых старонках нашай газеты — прынамсі, у сённяшнім нумары.**

Аддзел мастацтваў "ЛіМа".

Алена МАЛЬЧЭЎСКАЯ

# У чаканні рэцэнзіі-эсэ

**Асоба венгерскага крытыка, даследчыка гісторыі тэатра, прафесара Ніны Кірай дакладна адпавядае маштабам свята і асабліва азначэнню "міжнародны". Ніна Кірай вучылася у Маскоўскім дзяржаўным універсітэце, абраўшы спецыяльнасць, якая сінтэзавала лінгвістыку і антрапалогію. Выкладала тэорыю тэатра і гісторыю польскага тэатра ў Ягелонскім універсітэце (г. Кракаў, Польшча) ды супрацоўнічала з легендарным Тадэвушам Кантарам і яго тэатрам "Cricot 2". Яна сябруе з вядомым рускім рэжысёрам Анатолем Васільевым і ўважліва сочыць за яго тэатральнымі эксперыментамі. Цяпер Ніна Кірай працуе каардынатарам міжнародных праграм Дэбрацанскага тэатра імя Міхая Чаканаі (Венгрыя). І такім чынам сумяшчае ў адной асобе досвед пра рускі, польскі, венгерскі дый увогуле еўрапейскі тэатр. Але у нашай гутарцы падчас Міжнароднага фестывалю тэатральнага мастацтва "Панарама" мы засяродзіліся на тым, з чым беларусы амаль не знаёмыя, — тэатр і тэатральная крытыка ў Венгрыі.**

**— Як бы вы ахарактарызавалі той працэс, які цяпер адбываецца ў тэатральнай крытыцы Венгрыі?**

— Хваравіты (*смяецца*). У венгерскай крытыцы сёння адначасова можна назіраць дзве з'явы: змяненне структуры ды законаў тэатра і стварэнне катэгорый тэатраў. Цяпер мы якраз працуем над стварэннем крытэрыяў для тэатра нацыянальнага статусу. Ёсць нацыянальны тэатр, оперныя тэатры — і ўсе яны атрымліваюць дзяржаўныя датацыі. Але якім крытэрыям павінны адпавядаць тэатры, каб атрымліваць грашовую падтрымку ад дзяржавы? Безумоўна, гэта рэпертуар, заснаваны, як мінімум напалову, на нацыянальнай драматургіі — рэпертуар павінен абапірацца на нацыянальную аснову. Адрозненне венгерскай драматычнай літаратуры ад, напрыклад, рускай у тым, што ў большасці яна напісана ў паэтычнай форме, а таму канцэпцыя тэатра таксама павінна быць прыстасавана да паэзіі. Акцёр павінен умець чытаць вершы на сцэне, а гэта цяжка (часта акцёрам даводзіцца пачынаць з пераадолення свайго нежадання працаваць з паэтычнай формай). Але, пры ўсіх цяжкасцях, гэтая форма каштоўная тым, што правакуе асаблівую форму метафарычнага мыслення.

Пры нацыянальных тэатрах павінны ствараецца студыі, каб акцёры старэйшага пакалення маглі перадаць свой досвед маладым, каб было дзе наладзіць адукацыйныя праграмы і тым самым прыцягнуць малады гледачоў у залу. І яшчэ адна важная асаблівасць рэпертуару — у ім павінны прысутнічаць, паступова змяняючыся, усе эпохі. Каб ніводнае пакаленне гледачоў не засталося без ведаў пра асновы еўрапейскага тэатра і еўрапейскай драматургіі. Гэты крытэрый звязаны з адукацыйным напрамкам, які таксама павінен распрацоўваць тэатр, каб заставацца асноўнай формай эмацыйнага і інтэлектуальнага выхавання.

**— Аднак не ўсе тэатры ў краіне атрымаюць нацыянальны статус…**

— Тэатры, якія не трапяць у разрад нацыянальных, могуць прэтэндаваць на статус "тэатра павышанай катэгорыі". Яны не будуць мець такіх абмежаванняў у рэпертуары, не змогуць стварыць студыю. Але ў іх лік трапяць тыя калектывы, якія змагаюцца за высокую мастацкую якасць і за годны разнастайны рэпертуар, а не толькі за забаўляльны.

**— Чым адметная венгерская тэатральная крытыка?**

— Яна выглядае крышку аднастайна. Напрыклад, звяртаючыся да ўласнага досведу, я магу сказаць, што венгерская крытыка адрозніваецца ад польскай. У Польшчы ўсё разгалінавана: свой профіль маюць тэатральныя часопісы, універсітэты (у Пазнанскім рыхтуюць крытыкаў і драматургаў, у Кракаўскім — гісторыкаў тэатра, у Варшаўскім — антрапалагаў). У нас такой разнастайнасці няма. Крытык, як правіла, апісвае відовішча, а ўнутры яго — ці ігру знакамітых акцёраў, ці саму драму. Аналіз ж драматычнага твора, інспіраваны аналіз, які ў свой час стварыў Ян Кот, распавядаючы пра тое, як належыць ставіць п'есы Шэкспіра (гэтымі матэрыяламі потым карыстаўся, да прыкладу, Пітэр Брук) — крытыка такога ўзору ў нас адсутнічае.

Увогуле крытыкі сёння падзелены на два лагеры, і гэты падзел абумоўлены школамі, з якіх яны выйшлі, светапоглядам майстроў, якія іх вучылі. Ёсць крытыкі, якія ідуць ад тэксту, і такіх большасць. Яны найперш заўважаюць, што новы пераклад (а венгерскія тэатры цяпер фактычна да кожнай новай пастаноўкі класічнай замежнай п'есы замаўляюць новы пераклад) не адпавядае першапачатковай задуме аўтара, і гэтаму прысвячаюць больш як палову свайго тэксту. А ёсць памочнікі рэжысёра ды людзі іншых прафесій, якія працавалі ці працуюць у тэатры і пішуць. Галоўнае для іх — мізансцэна: ці перакanaўча вырашана? І гэта супрацьстаянне адчувальнае ў друку.



Фота з сайта www.festival-panorama.by

**— У Беларусі выданні, прысвечанага выключна тэатру, няма, а ў Венгрыі?**

— Ёсць. Па-першае, гэта часопіс "*SzTnhasz*" ("Тэатр"), крышку традыцыйны, але з нядаўняе пары ён займеў дадатак, прысвечаны сучаснаму сусветнаму тэатру, у якім друкуюцца рэцэнзіі з фестываляў і сучасныя п'есы. Па-другое, у Венгрыі існуе часопіс "*Criticai Lapok*" ("Крытычныя старонкі"). Назва гучыць крыху па-старасвецку (часопіс быў заснаваны ў XIX стагоддзі), але пра тэатр там пішуць вельмі жыва. Здараецца, што ў "*Criticai Lapok*" друкуюць падрабязныя цікавыя аналізы, гэты часопіс уважліва сочыць за дзейнасцю венгерскіх тэатраў па-за межамі Венгрыі, за фестывалем, які ладзіцца адмыслова для такіх калектываў.

**— Сёння рэцэнзія страчвае такую адметнасць, як поліадраснасць: шырокае кола гледачоў не разумее разбору спектакля, а рэжысёру нецікава чытаць тлумачэнні для гледачоў. Зыходзячы з гэтага, якой вам уяўляецца будучыня тэатральнай рэцэнзіі?**

— Так, размежаванне вельмі строгае, і цяпер нельга вылучыць агульны кірунак для аб'яднання — усё залежыць ад індывідуальнасці крытыка. Але тыя, хто насамрэч захоплены тэатрам, здолеюць пісаць цікава і для шараговага гледача, і для прафесіянала. Будучыня, на маю думку, за літаратарам-рэцэнзентам, за рэцэнзіяй-эсэ.

Святлана ДАШКЕВІЧ,
кіраўнік літаратурнай часткі НАДТ імя Якуба Коласа

# Насустрач бенефісу

Народная артыстка Беларусі Святлана Акружная адзначыла свой юбілей на сцэне роднага Коласаўскага тэатра. Для паказу ў святочны вечар яна выбрала спектакль "Бацька" паводле Аўгуста Стрындберга, пастаўлены заслужаным дзеячам мастацтваў Беларусі Віталем Баркоўскім. П'еса ўключана ў рэпертуар коласаўцаў тэатра па прапанове актрысы. Да таго ж Святлана Акружная разам з Саламонам Казіміроўскім (галоўны рэжысёр тэатра імя Якуба Коласа ў 1967 — 1976 гадах), які апошнім часам пражываў у Швецыі, правяла вялікую папярэднюю работу. У Стакгольме праходзіць штогадовы паказ спектакляў паводле п'ес Аўгуста Стрындберга. Менавіта з надзеяй трапіць на гэты прэстыжны міжнародны фестываль ставіўся спектакль "Бацька" ў Віцебску. Спадзяёмся, гэтак будзе. А пакуль за стварэнне вобраза Лауры Святлана Акружная атрымала дыплом і прыз "За лепшую жаночую ролю" на міжнародным фестывалі "Белая вежа" ў Брэсце.

Цяпер спектакль "Бацька" з поспехам прайшоў і на Міжнародным тэатральным фестывалі ў г. Трабзон (Турцыя).

Святлана Арцёмаўна збірае матэрыялы для новага аўтабіяграфічнага выдання. І рыхтуецца да бенефісу, які мае адбыцца сёлета ў кастрычніку.

# Упэўнены апошні крок

Зоя ВАСІЛЬЕВА,
фота Аляксея Братачкіна

**Сцэнічныя чытанні сучаснай нямецкамоўнай драматургіі, наладжаныя Інстытутам імя Гётэ ў Мінску і Цэнтрам беларускай драматургіі, прайшлі ў сталіцы. Акцёры і рэжысёры розных беларускіх тэатраў прачыталі сем п'ес з мэтай звярнуць увагу тэатральных дзеячаў на тэксты сучасных нямецкіх аўтараў.**



*"Злодзеі" (рэжысёр — Таццяна Арцімовіч).*

Тыдзень чытанняў твораў са зборніка "ШАГ-4", які пабачыў свет летась, стаў працягам прэзентацый трох папярэдніх "ШАГов", выдадзеных за апошнія дзесяць гадоў. Але ў чацвёртым "кроку", канечне ж, былі свае асаблівасці.

Эвалюцыяніравала сама форма чытанняў — цяпер рэжысёры не толькі імкнуцца пазнаёміць гледача з тэкстам, але і ствараюць мізансцэны, надаюць увагу музычнаму афармленню, скіроўваюць дзеянне ў віртуальную прастору. Сцэнічнае чытанне перастае быць проста агучваннем тэксту і робіцца паўнавартасным эскізам да спектакля.

Павялічылася колькасць прэзентаваных п'ес. Гэтым разам прачыталі сем з дзесяці, прычым упершыню адзін і той жа тэкст чыталі двойчы. Чыталі рэжысіравалі Алег Жугжда, Аляксандр Марчанка, Наталля Слашчова, Ігар Пятроў, Алена Плютава, Канстанцін Воранаў. Эксперымент "Ці варта звяртацца да аднаго і таго ж твора для сцэнічнага прачытання ў межах аднаго праекта?" паставілі актрыса Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Зоя Белахвосцік і рэжысёр Таццяна Арцімовіч, увасобіўшы п'есу Дэа Лоэр "Злодзеі". Зоя Белахвосцік, выступіўшы ў ролі рэжысёра і адной з выканаўцаў, абрала традыцыйную форму і зрабіла стаўку на акцёрскае майстэрства чытальнікаў (Аляксандр Казела, Віталь Краўчанка, Валянціна Гарцуева). Таццяна Арцімовіч перанесла частку дзеяння на экран: ад дэманстрацыі фотаздымкаў і відэа да перапіскі герояў у сацыяльнай сетцы Facebook. Вынік эксперыменту атрымаўся станоўчы.

Прэзентаваныя п'есы нязменна вылучаліся надзённасцю і вострыні: эміграцыя, расавыя супярэчнасці, адзінота, страх, адносіны бацькоў і дзяцей, творчай асобы і грамадства. Магчыма, што некаторыя тэксты з цягам часу знойдуць паўнавартаснае ўвасабленне на беларускай сцэне, як гэта адбылося з п'есай Інгрыд Лаўзунд "Бесхрыбетнасць" (зборнік "ШАГ-2") — у рэпертуары Купалаўскага тэатра яна атрымала назву "Офіс".

Аднак зборнік "ШАГ-5" наўрад ці пабачыць свет. На фінальным абмеркаванні адзін з куратараў праекта ад Інстытута імя Гётэ ў Мінску Вера Дзядок зазначыла, што "ШАГ" хутчэй за ўсё спыніць сваё існаванне (дзесяць гадоў для праекта — салідны ўзрост), але тэатральнае супрацоўніцтва будзе працягвацца ў новых формах.

Надзея САЛОДКАЯ

**27 сакавіка споўніўся год, як пакінуў гэты свет Ізмаіл Капланаў, вядомы беларускі кампазітар, аранжыроўшчык, які стварыў і выканаў мноства песень, у тым ліку і на мае словы. Памяці майго вялікага сябра і настаўніка прысвячаю гэтую публікацыю.**

# Удзячнасць

Сярод нас пануе дужа распаўсюджанае выказванне "Я нікому нічым не абавязана". Дык перад кім наш абавязак? Бацькі нашы, вядома ж, — тут на першым месцы. Ну, зразумела, пасля Госпада Бога. Якім бы няўдачнікам і нядзараю ты ні падаваўся сабе сам, але варта толькі добра пакорпацца ў сваёй душы, у памяці, і абавязкова адшукаеш там безліч асоб-твараў, якія выклікаюць пачуццё цеплыні, спакою, павагі, удзячнасці. Бывае, што чалавек той незаўважным ценем-воблачкам праплыў паўз тваё жыццё, пакінуўшы пасля сябе толькі лёгкае ўсведамленне "добрасці" ад таго, што ён быў. А здараецца так, што нехта заняў ці не найгалоўнейшае месца ў тваім лёсе.

Праз маё жыццё прайшло нямала людзей, з якімі я звязаная рознымі стасункамі і пачуццямі: простай прыязнасцю, сяброўствам, суседствам, удзячнасцю, каханнем, творчым інтарэсам. Кожны з іх займае пэўную нішу ў душы, у сэрцы, у прасторы, кожны па-свойму дарагі і блізкі. І сёння ўспамінаю чалавека, перад якім з трапяткой удзячнасцю схіляю галаву. Гэта ён сваёй увагаю, разуменнем, талентам узнёс мяне на тую творчую вышыню, дзе я пешчуся цяпер. Мне не хочацца прыдумляць нейкія незвычайныя літаратурныя эпітэты ў дачыненні да яго, бо гэта было б не зусім шчыра, а я хачу абсалютнай шчырасці, натуральнасці, праўдзівасці, нязмушанасці ў памкненні аддаць яму па заслугах тое, што належыць.

Ізмаіл Львовіч Капланаў. Асоба. Чалавек-глыба, чалавек-неспакой, чалавек з такім агромністым творчым патэнцыялам, што яго хапіла б на дзясятак проста таленавітых людзей. Часам мне здаецца, што яго душа сапраўды была бязмежная: столькі яна ўмяшчала дабрыні, спагады, ідэй, жадання аддаць, зразумець, зрабіць — толькі бярыце і карыстайцеся!

На жаль, майго героя, майго куміра, майго незвычайнага сутворцы ўжо няма на гэтым свеце — ён сышоў раптоўна, неспадзявана, зучасна, і таму не аціхае боль...

Свойчас назапасіўшы ў сталае даволі ладную колькасць "творчага літаратурнага прадукту", пачала шукаць шляхі, як данесці гэта ўсё да чытача. І да слухача, бо тэксты пачалі з'яўляцца відавочна песенныя. Сама я не вялікі прамоўца, чалавек фізічна не мабільны. Спадзявалася на шанц… Аднойчы пачула па радыё: "Нэлі Захараўна Багуслаўская вярнулася на вялікую эстраду". Я ведала гэтае імя з юнацтва і адразу адчула нейкую невытлумачальную душэўную сугучнасць. Мауляў, калі "вярнулася" — значыць, з нечага цяжка перажытага, перапакутаванага, таму гэта, безумоўна, чалавек з тонкай душэўнай арганізацыяй, здольны паспагадаць, зразумець, спасцігнуць. А тут яшчэ я даведалася, што муж спявачкі — кампазітар Ізмаіл Капланаў...



Сабрала нізку ці не з дзясятка вершаў, напісала невялікі ліст і даслала яго на тэлебачанне з просьбаю перадаць Нэлі Захараўне, не дужа спадзеючыся, што просьбу выканаюць. Як жа затрымцела ўся мая істота, задрыжэлі рукі, калі дзён праз дзесяць я ўзяла з паштовай скрынкі ліст ад Нэлі Багуслаўскай! Яна вельмі прыязна паставілася да маіх вершаў, пералічыўшы сваіх паэтычных суаўтараў, адзначыла, што не мае нічога супраць, каб сярод іх была і Надзея Салодкая, і што сёе-тое з дасланага ўжо ляжыць у мужа на фартэпіяна. Апісаць тое маё душэўнае ўзрушэнне ні прозаю, ні вершамі немагчыма. Гэта была Падзея ў жыцці! І развівацца яна пачала імкліва.

Спачатку былі новыя лісты, потым тэлефонныя размовы, урэшце асабістае знаёмства. Неўзабаве з'явілася некалькі песень, яны загучалі на радыё ў выкананні Нэлі Захараўны і самога Ізмаіла Львовіча. Імкліва пашыралася плынь нашага творчага супрацоўніцтва. Мы блізка пазнаёміліся сем'ямі, абменьваліся гасцявымі візітамі, дзяліліся кожны сваімі навінамі: пра набыткі і страты, удачы і праблемы. Мне падавалася, што я ведаю гэтых людзей усё жыццё, настолькі арганічна перапляталіся нашы лёсы. Рэдкі дзень мы не размаўлялі па тэлефоне, рэдкі дзень не гучалі па радыё нашы песні. Мы амаль аднолькава думалі, успрымалі, перажывалі... Ізмаіл Львовіч мацаваў, будаваў наш творчы саюз. Я кажу часта: "Бог ведаў, што рабіў, калі сутыкнуў нас у адной кропцы прасторы і часу".

Шырока загучалі і "Горад над Дзвіной" — песня-гімн, прысвячэнне Полацку, і "Прызнанне" — песня пра любоў да нашай Радзімы... А колькі песень, што ўслаўляюць Беларусь, напісана Ізмаілам Капланавым у суаўтарстве з іншымі паэтамі! Сабраць усё разам, і атрымаецца сапраўдная энцыклапедыя любові да роднай краіны.

Калі чалавеку дадзена Богам столькі таленту і талент шчодры, дабрадайны, ён не можа трымаць гэткі дар у сабе. Творца перанасычаны дабрынёй і спагадаю, проста не можа не насычаць гэтым блізкіх, нават не чакаючы аддачы, разумення, удзячнасці.

Мне пашчасціла, што плынь душэўнай і творчай шчодрасці Ізмаіла Капланава падхапіла і мяне. Мы разам радаваліся, разам перажывалі, я нават магла дазволіць сабе і паплакацца калі-нікалі, хаця і не вельмі гэта люблю. Я ведала, што ў кожную хвіліну, з усялякай нагоды магу спадзявацца на падтрымку і дапамогу, і я яе заўсёды атрымлівала і ў добры час, і ў вельмі няпросты. Так здарылася, што я практычна не адчула таго бацькавага цяпла, што ведалі дзеці ў іншых сем'ях. А тут сустрэла сапраўднае выключэнне з правілаў свайго ўжо ладнага жыццёвага досведу. Ізмаіл Львовіч быў для мяне бацькам, братам, сябрам, дарадцам, творчым кумірам…

Я ніколі не пісала пра іх панегірыкаў, але заўсёды казала, што гэтыя дзве асобы сваім сяброўствам далі мне столькі, колькі ўсе іншыя разам узятыя. Я абавязана Ізмаілу Капланаву сваім творчым узлётам.

А душа разрываецца на кавалкі ад таго, што яго ўжо няма побач, што стол ягоны перапоўнены нявдзейсненымі задумамі, неагучанымі нашымі песнямі. І чаго вартыя цяпер мае словы прызнання... Усё, што я змагла зрабіць у памяць пра гэтага незвычайнага чалавека, — выдаць чарговую кніжку вершаў з прысвячэннем яму — "Прикосновение"...

*Кнігі расказваюць*

# Дыханне аўтографаў

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ

Чытаю ў Янкі Брыля: "Старажытных кніг значна больш знішчана, чым захавалася", — піша Дэнікэн і, называючы колькасць кніг у знішчаных бібліятэках (кнігазбор Пталамея Сатэра — 500 000 тамоў, у Пергамоне — 200 000), дадае, што кніг тады было не па тысячы, не па сто тысяч экзэмпляраў, як сёння, а кожная ў адным экзэмпляры, і ад гэтага страты — яшчэ страшнейшыя.

Слухаючы "шорах стагоддзяў" (Нэру), усведамляючы колькі чаго было і што вось я пішу, думаючы... пра вечнасць, а гэта ж варта жалю і смеху... Ды не пра вечнасць слова свайго (гэта было б вар'яцтвам), а пра тое мы думаем, каб быць у згодзе з тым, што вечнае, найбольш трывалае ў сваёй разумнасці — пра мір і дружбу людзей, для чаго пісаць і жыць.

І разуменне сучаснасці не трэба атаясамліваць з газетнай злабадзённасцю, і папулярнасць некаторых "сюжэтнікаў" не варта глыбокага, няхай сабе колькасна меншага, разумення нашай патрэбнасці".

Як заўсёды, і ў такой вось лаканічнай мастацкай прасторы спрацаваў, узяў на сябе складаную нагрузку брылёўскі "малафармізм". Тут сказана многае. Кнігі самога Янкі Брыля, пераканаааны, застануцца, не будуць знішчаны іпаіншай прычыне — з-за надыходу бяспамяцтва ў дачыненні да аўтара "Ніжніх Байдуноў" гэта не здарыцца. Не можа здарыцца...

Ёсць у напісаным і надрукаваным Брылём асаблівая цеплыня, той душэўны і сардэчны грунт, без якіх мастацкаму слову дарогу ў заўтра не працерабіць, не адолець. Яшчэ большай падалася мне гэтая цеплыня, калі ўглядаўся ў выданні прозы Янкі Брыля, кнігі, якія ён у розныя часы падараваў вядомаму беларускаму паэту Алесю Бачылу. Углядаўся ў Пухавіцкім раённым краязнаўчым музеі, дзе гаспадарыць дырэктар Аляксандр Прановіч.

І вось чаму кнігі з хатняй бібліятэкі А. Бачылы апынуліся ў Мар'інай Горцы. У сакавіку 2008 года пухавічане ўрачыста адзначалі 90-годдзе з дня нараджэння паэта, свайго земляка. Сустрэча з дзецьмі і ўнукамі Алеся Мікалаевіча праходзіла ў раённым Палацы культуры. Зала была перапоўненай, што па сённяшнім часе не так часта бывае на літаратурных імпрэзах. А перад самым пачаткам урачыстасцей у выставачнай галерэі раённага краязнаўчага музея быў адчынены мемарыяльны пакой Алеся Бачылы. Аснову яго склала бібліятэка, падараваная дзецьмі паэта. Больш як 200 асобнікаў з таго кнігазбору — з дарчымі надпісамі сяброў, калег па творчым цэху.

Іван Мележ, Барыс Сачанка, Алесь Адамовіч, Рыгор Бярозкін, Ян Скрыган, Іван Навуменка, Ніна Ватацы, Зоська Верас, Анатоль Вялюгін, Іван Шамякін, Адам Русак, Сцяпан Александровіч, Фёдар Янкоўскі... За надпісамі гэтых празаікаў, паэтаў, крытыкаў — відавочна, гісторыя сяброўства, творчай дружбы, цікавыя сустрэчы... Асаблівая энергетыка блізкасці светапоглядаў, шчырасці зносін адчуваецца ў аўтографах Янкі Брыля.

1949 год. Алесь Бачыла працуе ў газеце "Літаратура і мастацтва". Ужо выйшла першая кніга — "Шляхі" (1947). Падрыхтаваны да друку другі зборнік вершаў — "Подых вясны". А за плячыма Янкі Брыля — кнігі "Апавяданні" (1946), "Нёманскія казакі" (1947), "Вераснёвая рунь" (1949)... Вось-вось павінна было з'явіцца выданне аповесці "У Забалоцці днее", за якую пісьменнік атрымае Сталінскую прэмію... А 24 сакавіка 1949 года Янка Брыль дорыць паэту свой першы зборнік "Апавяданні": "Алесю Бачыла — у знак шчырай сімпатыі..." Гартаю старонкі кнігі, жыццё якой налічвае ўжо амаль сем дзесяткаў гадоў. Пачынаю знаёмства з прадмовы Кандрата Крапівы: "Янка Брыль, малады беларускі празаік, упершыню выступае са зборнікамі сваіх апавяданняў..." А ў кастрычніку 1951 года празаік падпісвае ўжо асобнае выданне аповесці "У Забалоцці днее": "Дарагому сябру Алесю Бачылу. Янка Брыль. 19.XI.51 г." Новая пазнака адносін. Яе Іван Антонавіч засведчыць і амаль праз сем гадоў — у надпісе на кнізе "Надпіс на зрубе": "Алесю Бачылу — па-сяброўску. Янка Брыль. 19.09.58 г."

— ...Глядзіце, кнігі як новенькія, — перарывае маё знаёмства з аўтографамі Янкі Брыля Аляксандр Прановіч. — Нібы некранутымі ляжалі ў музеі...

Ды відаць па ўсім, што з кнігамі свайго сябра Алесь Бачыла быў у цесных стасунках. Ёсць і пазнакі тоненькім алоўкам. У кнізе "Мой родны кут" (Мінск, 1959) аловак спыніўся на наступным сказе: "...І вось тады яна завітала да нас — нібыта чалавек адтуль, з радзімы, — "новая зямля"!.." Шмат што з рэаасэнсавання ў жыцці, у рэчаіснасці Янка Брыль пачынаў з усведамлення прачытанага. Мне здаецца, што не будзе перабольшванем назваць пісьменніка самым вялікім і ўдумлівым чытачом і кніжнікам Беларусі. І гэтая яго вялікасць перадавалася, несумненна, яго сябрам, блізкім людзям. І мо ў некаторай ступені перадаецца нам, чытачам. Як вось і з гэтага ўсё ж спавядальнага ў сваёй простасці эсэ — "У родным доме": "Прыемна чытаць тут Карнея Чукоўскага, — яго ўспаміны, тым больш пра Пастарнака, — іменна тут, у падмаскоўным лесе, на іх апошняй радзіме, паблізу ад драўлянага жылля і сціплых магіл.

Над гэтай кнігай я як быццам злавіў-такі нарэшце сваю даўнюю думку, тое, што адчувалася ў розны час у родных мясцінах іншых пісьменнікаў — меншых, большых, вялікіх.

Хто ў сваёй Яснай Паляне, хто ў Наваградку, хто ў Веймары, хто ў Каневе, хто ў Надньямонні ці ў Ялце... Вось я наведаў іх, тыя мясціны, а далей — ужо няма нічога, туга па далёкай, узнёслай легендзе аціхла, у пошуках найбольшай паўнаты іх вобраза трэба вяртацца ў іхнія кнігі.

Мы ўжо туды вярталіся неаднойчы, і будзем вяртацца, як з вялікага падарожжа ў родны дом, з яшчэ большай, з самай грунтоўнай упэўненасцю, што радней, чым ён, — і сапраўды няма нічога".

У 1960 выходзіць першы Збор твораў Янкі Брыля — у двух тамах. 22 кастрычніка 1960-га пісьменнік падпісвае паэту першы том: "Дарагому сябру Алесю Бачылу, каб сэрца гарэла ярка, плённа, без лішняга хвалявання..." У 1962 годзе пабачыла свет кніга "Працяг размовы". 31 жніўня 1962 года Янка Брыль падпісвае і гэты зборнік: "Дарагому сябру Алесю Бачылу..." 3 верасня 1965 года — надпіс на кнізе "Жменя сонечных промняў": "Дарагому Алесю Бачылу — сябру і літаратару..." Відаць, за кожным аўтографам — свой настрой, сваё дыханне, пазнака часу ці іншага часу, таго ці іншага дня. Пэўна ж, і з сённяшніх вышынь мы ўсё ж недасягальна дробныя і малыя, каб нешта разгледзець увачавідкі. Але ўражлівым падаецца пастаянства, заўсёднае імкненне падараваць, надпісаць кнігу старому сябру, паплечніку па літаратуры і жыцці. Хіба што такім жа пастаянным у дачыненні да Алеся Бачылы быў другі Алесь — Аляксандр Адамовіч.

...А гэта ўжо мы разглядаем з Аляксандрам Прановічам стосік з кніг, выдадзеных у 1970-я гады: "Вітраж", "Акраец хлеба", "Трохі пра вечнае"... І надпісы: "Дарагому сябру Алесю Бачылу..." "Дарагому, шчыраму Алесю на яшчэ адзін добры ўспамін...", "Алесю Бачылу — зноў па-сяброўску..." Яшчэ на пачатку сваёй літаратурна-крытычнай дзейнасці Алесь Адамовіч напісаў пра Івана Антонавіча: "Эмацыянальнасць — характэрная прыкмета стылю Я. Брыля. Гэта празаік лірычнага складу..." мяркуючы па аўтографах, адрасаваных паэту, аўтару славутай песні "Радзіма мая дарагая" Алесю Мікалаевічу Бачылу, эмацыянальнасць — важны, калі не асноўны, складнік усяго жыцця Янкі Брыля.

Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»

*Слова краязнаўцы*



**Алесь ГОСЦЕЎ, выкладчык ліцэя №1 г. Гродна, распавядае, як даследаванне гісторыі і культуры горада Гродна стала неад'емнай часткай яго жыцця:**

— Краязнаўства — найкарацейшы шлях да самога сябе. Гэта я адчуў яшчэ ў юнацкія гады, калі ледзь не ашалеў ад уласнай усёеднасці. На той час мною авалодала неадольная прага, гаворачы словамі Максіміліяна Валошына, "усё бачыць, зразумець, усё ведаць, перажыць". Апантана калекцыніраваў паштовыя маркі, манеты, значкі, запалкавыя этыкеткі, прыглядаўся да паштовак і іншых прадметаў, прыгодных да збору. Да таго ж мяне змалку прывабнівала гармонія свету, а таму неабыякавы быў да паэзіі і мастацтва, а пазней — да навукі, у тым ліку філасофіі.

Але як ахапіць неабдымнае? І тут я звярнуў увагу на выключнасць свайго роднага горада Гродна, на яго быццам някідкую, але такую ўтульную архітэктуру, якая да таго ж так удала спалучаецца з двума (дзе яшчэ ёсць такое!) замкамі. А таксама на яго незвычайных жыхароў. Тады ў Гродне жыў і ўжо рабіў свае адметныя крокі ў сусветную літаратуру Васіль Быкаў. На ўвесь свет грымела слава "дзяўчынкі з косамі" — Вольгі Корбут. І ўзнікла пытанне: "Чаму менавіта тут так удала і гарманічна спалучаюцца ўсе гэтыя адметнасці?" Адказаў, якія б ляжалі на паверхні, не было. Шукаў іх сам, на што пайшло шмат часу. І нават сёння, праз 35 гадоў, не магу сказаць, што знайшоў іх у здавальняючай ступені. Але разам з гэтым прыйшло і ўсведамленне, што менавіта праз збіранне разнастайных матэрыялаў пра Гродна я здолеў наталіць смагу "ўсёеднасці". Сёння мая калекцыя "Гісторыя гарадзенскай пошты" ўганаравана чатырма залатымі медалямі на розных філатэлістычных выстаўках. Вынік працы над калекцыяй — кніга "Кронан. Летапіс горада на Нёмане (1116 — 1990)" у суаўтарстве з Вячаславам Шведам і шэраг іншых кніжных публікацый на гарадзенскую тэму. А яшчэ прыйшло ўсведамленне таго, чаму я, народжаны ў пасляваенным Кёнігсбергу ад бацькі з Тульскай губерні і маці-ўкраінкі, апынуўся тут і застаўся назаўсёды.

## Помнік князю Альгерду

У Віцебску абмяркоўваюць ідэю ўзвядзення помніка князю крэўскаму і віцебскаму, вялікаму князю літоўскаму і рускаму, выдатнаму палітычнаму дзеячу сваёй эпохі, які нямала зрабіў для станаўлення Віцебска як гандлёвага і палітычнага цэнтра Вялікага Княства Літоўскага, — Альгерду. Ужо вызначана месца, дзе, магчыма, паўстане помнік, і створаны яго макет. Але перш чым прыняць канчатковае рашэнне, мясцовыя ўлады вырашылі параіцца з грамадскасцю горада. Старт абмеркавання быў дадзены ў музеі "Духоўны круглік", які пабудаваны на аўтэнтычным фундаменце і знешне нагадвае адну з вартавых веж, узведзеных вакол Віцебскага замка князем Альгердам. Тут рэй вялі гісторыкі, археолагі, архітэктары, святары, чыноўнікі, журналісты і нераўнадушныя гараджане, якія прыйшлі да адзінай думкі: помнік князю павінен быць. Сёння скульптурны вобраз Альгерда можна ўбачыць толькі ў Вялікім Ноўгарадзе на манументе, прысвечаным тысячагоддзю Русі.

**Бажэна СТРОК**

*Музейны ўнікат*

# Сукенка як сямейная рэліквія

**Тыдзень таму ў Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны ўрачыста адкрылася выстаўка "Пасляваенная вясна", прысвечаная адвечнай тэме — жаночаму хараству.**

**Ульяна БЯЛОВА, фота аўтара**

У экспазіцыі прадстаўленыя сукенкі, абутак, капялюшыкі, сумачкі, кашалькі, парасоны, пудраніцы, брошкі і шмат іншых рэчаў дамскага туалету пасляваеннага перыяду. Акрамя скарбніц музея актыўны ўдзел у фарміраванні моднай экспазіцыі ўзялі і мінчанкі. З вялікай ахвотай жанчыны прыносілі свае памятныя рэчы, сукенкі з гісторыяй ці тыя, што дасталіся ім ад маці і бабуль. У большасці гэта рэчы 1940 — 1960-х гадоў.

У азначаны перыяд да кожнага ўбора ставіліся вельмі далікатна, прыхоўвалі для адметнай нагоды. Цікавую гісторыю распавяла Тамара Шалюбская пра сукенку сваёй маці Таццяны Янчэнкі. Яна купіла ўбор з крэп-саціну і пан-аксаміту ў маі 1945 года ў жонкі палкоўніка Філатава, які ўдзельнічаў у вызваленні Адэсы. Сукенка цёмна-зялёнага колеру і моднага на той час крою. Да 1970 года яна была першай у гардэробе Таццяны Янчэнкі, апраналася на розныя ўрачыстасці, у тэатр. Потым сукенку яшчэ доўга насіла сама Тамара. Сёння жанчыны берагуць гэты ўбор як сямейную рэліквію.

Сумная і вельмі інтымная гісторыя звязана з маленькай пацямнелай брошкай, якая належыць дачцэ Аляксандра Салаўёва, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны. Яе маці надзела брошку-медальён з фотаздымкам мужа, калі яго забралі на фронт. У 1942 годзе ён прапаў без звестак. "Маці чакала яго ўсё жыццё і таму ніколі не здымала брошку", — распавяла дачка.

Пасляваенны час быў нялёгкім для савецкіх жанчын: адна-дзве сукенкі і пара абутку. "Калі мая бабуля выходзіла замуж, у яе была толькі адна паркалёвая сукенка!" — расказала ўнучка ветэрана вайны Васілісы Мельнік. — Мой дзядуля, таксама ветэран, Васіль Мельнік, моцна кахаў сваю жонку. Калі жыццё крыху наладзілася, рабіў ёй дарагія падарункі. З чарговай камандзіроўкі прывёз модную сумачку з вышыўкай". На выстаўку ўнучка ўдзельнікаў вайны прынесла сярэбраную пудраніцу і брошку пачатку 1940-х гадоў.

Тут можна даведацца шмат цікавых сакрэтаў пасляваенных модніц. Ці бачылі вы калі-небудзь абцугі для завіўкі валос, якія больш нагадваюць прыладу для катавання? Каб зрабіць тугія завіткі, абцугі награвалі на вуглях, а затым пры іх дапамозе моцна нацягвалі кожную пасму. Лаку для валасоў не было, таму жанчыны надзявалі сетачкі, якія дапамагалі захаваць прычоску і ратавалі ад ветру. Гуллівыя капялюшыкі называлі "менінгіткі", бо яны зусім не грэлі, не закрывалі вушы, а служылі толькі для ўпрыгожвання. Яшчэ адным сакрэтам нашых маці і бабуль былі манішкі — карункавыя каўнерыкі, якія апраналі, як блузку, пад пінжак.

Манекены ў вінтажных сукенках і вітрыны з аксесуарамі — гэта не гісторыя моды, а гісторыя жанчын, якія нават у самы цяжкі пасляваенны час здолелі захаваць жаноцкасць і прыгажосць.



*Сукенка мінчанкі 1940 —1960-х гадоў.*

*Родны кут*

**Васіль СНУСЦІК**

# Клецк: вандроўка ў часе

**Андрэй Блінец — вядомы на Міншчыне краязнаўца. Працуе ў Клецкім раённым краязнаўчым музеі. Доўгі час на старонках клецкай раённай газеты вёў гісторыка-асветніцкую старонку "Карані". Друкуецца ў рэспубліканскіх газетах "Літаратура і мастацтва", "Звязда". Галоўны прадмет даследаванняў апантанага збіральніка памятак гісторыі Бацькаўшчыны — родная старонка. Зусім нядаўна ў мінскім выдавецтве "Друк — С" пабачыла свет кніга А. Блінца "Клецк: Старонкі даўняй гісторыі".**

"Клецк — адзін з найстаражытнейшых гарадоў Беларусі, які мае багатую і, на жаль, маладаследаваную гісторыю. Падзеі далёкай мінуўшчыны не знаходзілі адлюстравання ў летапісах аж да XII ст. Першыя звесткі пра наш горад датаваны 1127 г. Адсюль і ідзе адлік гісторыі Клецка, які нядаўна адзначыў 880-годдзе. Але ж гарады нараджаюцца не за адзін дзень, і нават не за адзін год. Ад моманту заснавання да моманту, калі назва паселішча трапляе на старонкі летапісаў, можа прайсці шмат часу", — так пачынае распавед у першым раздзеле "Узнікненне і ранняя гісторыя горада" Андрэй Блінец. Усяго кніга складаецца з васьмі раздзелаў. Акрамя першага, вышэйназваная праца падзелена на наступныя часткі: "У складзе Вялікага княства Літоўскага"; "Клецкая бітва 1506 г."; "Час каралевы Боны"; "Клецкія Радзівілы. Пачатак дынастыі"; "Перад "патопам" і пасля"; "Васемнаццатае стагоддзе"; "Мястэчка Слуцкага павета". Завяршаюць кнігу два дадаткі — храналогія "Некаторыя моманты гісторыі Клецка" і даведка генеалагічнага характару "Клецкія Радзівілы".

Шматстаронкавы, багата ілюстраваны аповед завяршаецца падзеямі 1914 года. Згадваюцца папулярныя ў свой час так званыя гісторыка-эканамічныя нарысы пра гарады Беларусі. Як правіла, гісторыя раённых цэнтраў у 1970 — 1980-я гг. выкладалася зусім у няроўных адносна часу прапорцыях. Перыяду да 1917 года адводзілася ўсяго некалькі старонак. А ўсё астатняе месца ў кнігах прысвячалася савецкаму перыяду. Такая ж доля напаткала і Клецк. Андрэй Блінец парушае стэрэатыпы. Несумненна, спрыяюць гэтаму іншы час, іншыя магчымасці, большая крыніцазнаўчая база. Займаючыся старажытнай гісторыяй Беларусі, Клецк і яго ваколіцы складана абысці ўвагай. Таму зразумелы і лагічны зварот аўтара да работ такіх дасведчаных гісторыкаў і гістарычных пісьменнікаў, як Мікола Ермаловіч, Валерый Пазднякоў, Станіслаў Думін, Ібрагім Канапацкі, Генадзь Сагановіч, Кастусь Тарасаў, Вітаўт Чаропка, Уладзімір Сазановіч. Але ж асноўная кнігі, аснова, калі хочаце, уласнай аўтарскай канцэпцыі ў выкладанні Клецкай гісторыі ў Андрэя Блінца носіць арыгінальны характар, відавочна падкрэслівае ўласныя неардынарныя і дастаткова сістэматызаваныя і абгрунтаваныя падыходы ў асвятленні мінуўшчыны.

Месцамі даследчык аспрэчвае даўно прынятыя за ісціну высновы тых ці іншых аўтараў. І робіць гэта аргументавана, выбудоўваючы пераканаўчую логіку. Падаецца цалкам правільным меркаванне, напрыклад, пра тое, што войска ВКЛ падышло "да Клецка карацейшай дарогай з боку Нясвіжа" 5 жніўня 1506 г. Хаця раней лічылася іначай: войска, маўляў, падыходзіла з поўдня, з Пінскага тракту, з боку в. Кухчыцы. Дарэчы, неабходнымі і істотнымі падобнага кшталту высновы і іх абгрунтаванне ўяўляюцца яшчэ і таму, што беларускі гістарычны матэрыял павінен быць прадметам разгляду ў вывучэнні шэрагу спецыяльных вайсковых дысцыплін.

Дастаткова цікавым падаецца раздзел "Час каралевы Боны". Тут варта акрэсліць наступную акалічнасць, якую заўважае А. Блінец і тым самым вытлумачвае зварот да такога гістарычнага персанажа, як каралева Бона Сфорца: "Цэнтрам уладанняў Боны на Беларусі быў Пінск. У сваіх гарадах і маёнтках каралева будавала замкі і касцёлы, адкрывала школы і шпіталі, праводзіла меліярацыю, садзейнічала асваенню новых зямель, спрыяла развіццю садоўніцтва і агародніцтва. У агульным шэрагу, Клецк разам з воласцю не быў буйным уладаннем, але займаў прыкметнае месца сярод іншых. Адметна, што менавіта тут адбылася адна з першых гаспадарчых рэформ Боны. У 1524 г. было закладзена мястэчка Сіняўка".

Кнігу "Клецк: Старонкі даўняй гісторыі", безумоўна, можна разглядаць як выдатны, па-свойму ўнікальны дапаможнік па вывучэнні гісторыі Клецка і ваколіц. Найперш — для агульнаадукацыйнай школы. Выклікае шкадаванне, што тыраж кнігі складае ўсяго 200 асобнікаў. А праца Андрэя Блінца, відавочна, магла б быць цікавай не толькі на Клеччыне, а і ўвогуле чытачам усёй Міншчыны і Беларусі. Застаецца чакаць працягу даследавання і яго новага выдання.

## Постаці

Аляксандр ВАШЧАНКА



**Багаты 2012 год на юбілеі знакамітых творчых асоб беларускай культуры: Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Танка. На іх фоне нельга абысці ўвагай постаць яшчэ аднаго юбіляра — Адама Багдановіча, 150 год з дня нараджэння якога азначаецца сёлета. Ён заслугоўвае, каб удзячныя нашчадкі з павагай і любоўю ўзгадвалі яго імя.**

# Каб нашчадкі ведалі…

Дата нараджэння Адама Ягоравіча да апошняга часу выклікае спрэчкі сярод навукоўцаў і даследчыкаў. Адны называюць 20 сакавіка 1862 года, другія — 25 сакавіка, трэція — 1 красавіка. Дзе ж ісціна? Паспрабуем высветліць.

Справа ў тым, што ў метрычных кнігах быў прапушчаны запіс пра дату нараджэння і хрышчэння Адольфа Багдановіча. Гэта высветлілася толькі ў 1878 годзе, калі юнак пачаў рыхтаваць дакументы для паступлення ў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. Вось што ён піша пра гэта ў “Моих воспоминаниях”: “Я стал добывать нужные документы. Я обратился в консисторию за метрикой и в свою волость Лисовичскую, по месту приписки отца, где я никогда не был, за увольнительным свидетельством от общества, в котором я числился, но никогда фактически к нему не принадлежал. Не тут-то было. Оказалось, что моя метрика пропущена записью. Я возбудил ходатайство в консистории о восстановлении метрики следственным путём. А это долгая песня. И я ещё пробыл в кондитерской около года, пока шло следствие и пока я не получил этот важный документ. В нем я был переименован из Адольфа в Адама. Это была консисторская выдумка: в интересах православия и обрусения: имя Адольф было признано и не русским, и не православным. Но замена была довольно неудачной: консисторские отцы из белорусов, по-видимому, не знали, что имя Адам не в ходу среди великоруссов, да и в святцах оно не встречается: по крайней мере, мне никогда не пришлось справлять своих именин. Впрочем, и Адольф в этом отношении был без безнадёжен. Итак, после 16 лет я оказался с двумя именами (ибо по волостным, т. е. гражданским документам, я всёе же значился Адольфом), с тремя разноформенными отчествами (Юрьевич, Георгиевич, Егорович) и с двумя фамилиями, если вдаваться в глубокую старину. Адам для Холопенич было непривычно, но маломалу вытеснило из обихода Адольфа”. Дык вось у гэтай метрыцы запісана, што Адам Георгіевіч Багдановіч нарадзіўся 20 сакавіка 1862 года і быў ахрышчаны 25 сакавіка таго ж года. Аднак сам Багдановіч лічыў гэту дату недакладнай. Вось што ён узгадвае ў аўтабіяграфіі, напісанай 8 сакавіка 1927 года: “Родился я 25 марта ст. ст. 1862 г. (по метрикам — 20 марта, но это неверно) в местечке Холопеничи Борисовского уезда Минской губ.”. (БДАМЛМ, ф. 153, воп. 1, спр. 17).

Трэба прыгадаць, што ў даўнія часы людзі запаміналі даты нараджэння па народных і царкоўных святах. Дык вось, маці і бабуля нагадвалі Адаму, што ён нарадзіўся на вялікае царкоўнае свята — Благавешчанне. У “Моих воспоминаниях” ён успамінае: “В этом временном помещении (школьным будынку. — **А. В.**) я родился в день Благовещенья (25 марта) 1862 года, днём, под пенье жаворонка.

Эта поэтическая подробность отмечалась бабушкой:

— Як раскрылі вакно, каб даць свежае паветра парадзісі, а жаваранкі ў небі так і заліваюцца!”

А калі ўспомніць, што яшчэ ў 560 годзе н. э. імператар Іусцініян датай святкавання Благавешчання вызначыў 25 сакавіка старога стылю, або 7 красавіка новага стылю, то гэту дату і трэба лічыць днём нараджэння Адама Багдановіча.

Так здарылася, што постаць геніяльнага беларускага паэта Максіма Багдановіча ў многім засланіла сабой асобу яго бацькі. Але без бацькі не было б і сына… І ў тым, што сучасны чытач з захапленнем чытае вершы Максіма, ёсць неацэнная заслуга Адама Ягоравіча, бо ён не толькі выхаваў будучую зорку беларускай паэзіі, але і збярог для ўдзячных нашчадкаў яго творчую спадчыну.

Жыццёвы і творчы шлях Адама Багдановіча можна назваць не характэрным для свайго часу, а выключным, бо выхадцаў з сем'яў прыгонных сялян, якія дасягнулі такіх навуковых і творчых вяршынь, як ён, можна пералічыць па пальцах адной рукі. Адам Ягоравіч скончыў народную школу ў мястэчку Халопенічы, Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. Пасля былі кнігі і самаадукацыя. Пазней ён напіша: “Жыццё і кнігі зрабілі з мяне народніка, затым сацыяліста і, нарэшце, рэвалюцыянера”. (А.Багдановіч. Рэвалюцыйны рух у г. Мінску і Мінскай губерні ў 80-х і напачатку 90-х гадоў). Настаўнік; супрацоўнік Сялянскага зямельнага банка; збіральнік беларускага фальклору і актыўны карэспандэнт Паўла Шэйна; адзін з кіраўнікоў мінскай арганізацыі “Народная Воля”; журналіст; літаратар і навуковца, як напісаў больш як сорак кніг і артыкулаў і толькі за 1927 — 1928 гады зрабіў 468 дакладаў; загадчык навуковай бібліятэкі пры Яраслаўскім гістарычным музеі; выкладчык гісторыі мастацтва ў тэхнікумах Яраслаўля; збіральнік рэдкіх кніг і творчай спадчыны свайго сына Максіма — вось пералік асноўных творчых і навуковых іпастасей Адама Багдановіча.

Нашаму славутаму земляку не пашчасціла ў тым сэнсе, што пры жыцці ўбачыла свет толькі адна яго кніга — “Пережитки древнего миросозерцания у белорусов”. РВУ “Літаратура і Мастацтва” і Літаратурны музей Максіма Багдановіча, у якім захоўваюцца асноўныя матэрыялы з архіва Адама Ягоравіча, ажыццявілі цікавы праект — выпуск дзвюх кніг Адама Багдановіча.

У першую кнігу ўвайшлі “Мои воспоминания” — праца, якую можна назваць “энцыклапедыяй сялянскага жыцця беларусаў XIX — пачатку XX стагоддзя”. Жахі прыгону, паўстанне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага і адносіны да яго простага люду, побыт сялянскага жыцця, апісанне святаў, абрадаў, песень, танцаў, казак, нацыянальных страў беларусаў арганічна ўплятаюцца ў канву “Моих воспоминаний”. Яны напісаны на рускай мове, але многія дыялогі і асобныя выразы перададзены з усімі арфаэпічнымі асаблівасцямі беларускай мовы (прычым — пэўнага рэгіёна). Сустракаюцца і выразы на польскай мове. Гэтыя матэрыялы могуць служыць падставай для многіх навуковых даследаванняў і дазваляюць гаварыць пра аўтара як пра тонкага псіхолага, які валодаў выдатнай назіральнасцю і памяццю. Непаўторны аўтарскі стыль, яркія эпізоды, якія выклікаюць смех і слёзы чытачоў, дазваляюць сказаць, што Адам Ягоравіч не паспрабаваў свае сілы ў белетрыстыцы, бо ён валодаў усімі неабходнымі для гэтага дадзенымі.

У другую кнігу ўвойдуць наступныя творы Адама Багдановіча: “Пережитки древнего миросозерцания у белорусов”, “Страницы из жизни Максима Горького”, “Материалы к биографии Максима Адамовича Богдановича”-,“М. Горький и Ф.М.Шаляпин в Нижнем” і “К истории партии «Народная Воля» в Минске”. Два апошнія друкуюцца ўпершыню.

“Пережитки древнего миросозерцания у белорусов” ужо стала класічнай, падсумоўвала пэўны этап у развіцці беларускай этнаграфіі і фальклору. Праца маладога навукоўцы была выдадзена ў 1895 годзе ў Гродне. У новым выданні яна адаптавана да сучаснага правапісу і забяспечана новымі каментарыямі.

Адам Ягоравіч быў знаёмы з многімі адметнымі творчымі асобамі свайго часу, а са знакамітым рускім і савецкім пісьменнікам Максімам Горкім ён не толькі сябраваў, але і знаходзіўся ў сваяцкіх адносінах (яны былі жанаты з роднымі сёстрамі Волжынымі). На “Страницах из жизни Максима Горького” Багдановіч паказвае шлях стаўлення вялікага пралетарскага пісьменніка, раскрывае асаблівасці яго характару, апісвае паводзіны ў побыце і на людзях — сціпла і стрымана, не датыкаючыся да інтымных бакоў жыцця.

У 1900 годзе ў Ніжні Ноўгарад прыязджае на гастролі Фёдар Іванавіч Шаляпін. Максім Горкі знаёміцца з вялікім рускім спеваком, і гэтае знаёмства перарастае ў адданае сяброўства, адной з прычын якога было падабенства біяграфій гэтых выхадцаў з простага народа і тая складаная жыццёвая дарога, па якой ім прыйшлося прайсці, перш чым стаць вядомымі і паважанымі ў свеце мастацтва людзьмі. Аднак пад пяром Адама Багдановіча ва ўспамінах “М.Горький и Ф.И.Шаляпин в Нижнем”, якія друкуюцца ўпершыню, Фёдар Шаляпін прадстае гэтакім вальяжным рускім панам з налётам багемнасці. Чаму? Мабыць таму, што сам Адам Ягоравіч, на той час ужо займеўшы пэўную прыступку ў “Табелі аб рангах”, быў сціплым у побыце і на людзях. Прыклад сціпласці — і Максім Горкі, любімым адзеннем якога была простая касаваротка. Шаляпін жа нават у хатніх умовах любіў фарсіць у фраку з бялюткай манішкай і залатым ланцужком на жываце. Да таго ж, свае ўспаміны Адам Ягоравіч пісаў у той час, калі пасля гастроляў па ЗША Шаляпін не вярнуўся на радзіму. Гэта выклікала рэзка адмоўныя адносіны да яго ў Савецкай Расіі. Але час усё паставіў на свае месцы, і цяпер імя Фёдара Іванавіча ў той жа пашане, што і імя Максіма Горкага, а яркія дэталі ўспамінаў А. Багдановіча пра гэтых выбітных асоб сусветнага мастацтва будуць цікавымі сучаснаму чытачу.

“Материалы к биографии Максима Адамовича Богдановича”, якія Адам Ягоравіч напісаў у 1923 годзе па прапанове Інбелкульта, заўсёды будуць карыстацца попытам у сучаснага чытача, таму што пад пяром бацькі перад намі паўстае постаць геніяльнага беларускага паэта Максіма Багдановіча.

Праца “К истории партии «Народная Воля» в Минске” цікавая тым, што малавядомыя старонкі гісторыі гэтага руху на Беларусі апісвае адзін з яго кіраўнікоў — легендарны “Егорыч” (пад такой мянушкай у канспіратыўных колах быў вядомы Адам Багдановіч).

Думаецца, што выданне ў РВУ “Літаратура і Мастацтва” дзвюх кніг твораў Адама Багдановіча, прадмову і большасць каментарыяў да якіх зрабіў аўтар гэтага артыкула, будзе лепшай данінай павагі да юбілею нашага славутага земляка.

## Млын навін

### «Бярэсце» святкуе юбілей

Міра ІЎКОВІЧ

Археалагічны музей “Бярэсце”, філіял Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея, адсвяткаваў нядаўна 30-гадовы юбілей. Адзіны ў Еўропе музей сярэднявечнага ўсходнеславянскага горада — вельмі папулярны: з моманту адкрыцця ў ім пабывалі прадстаўнікі 37 краін свету. Тут ужо рыхтуюцца да сустрэчы трохмільённага наведвальніка — ганароваму госцю будзе ўручаны памятны падарунак.

Жыхароў Брэста і яго гасцей чакаюць цікавыя мерапрыемствы, прымеркаваныя да юбілейнай даты. Напрыканцы чэрвеня ў Брэсцкім дзяржаўным універсітэце імя А. С. Пушкіна пройдзе навуковая канферэнцыя “Брэст: гісторыя і сучаснасць”, у якой возьмуць удзел вучоныя, мастацтвазнаўцы, выкладчыкі ВНУ і мясцовыя краязнаўцы. Пасля на пляцоўцы перад музеем адбудзецца тэатралізаванае прадстаўленне, падчас якога гледачы змогуць акунуцца ў эпоху Сярэднявечча.

Археалагічны музей “Бярэсце” адчыніў свае дзверы 2 сакавіка 1982 года на месцы раскопак, якія праводзіліся пачынаючы з 1968 года. Гэтая ўнікальная ўстанова размяшчаецца на тэрыторыі Валынскага ўмацавання Брэсцкай крэпасці, менавіта там, дзе і ўзнік горад Бярэсце. Цэнтральнае месца ў яго экспазіцыі займае раскоп памерам больш як тысяча квадратных метраў. На чатырохметровай глыбіні прадстаўлена частка рамесніцкага квартала: сцены 28 будынкаў з бярвення, аднапавярховыя драўляныя зрубы, дзве вулічныя маставыя, агароджа, рэшткі глінабітных печаў (XI — XIII стагоддзі). На стэндах, подыўмах і вітрынах 14 залаў музея дэманструюцца археалагічныя знаходкі, датуемыя XI — XIV стагоддзямі, якія распавядаюць пра эканамічнае і культурнае жыццё старадаўняга паселішча, распаўсюджаныя рамёствы, планіроўку і забудову Бярэсця, гісторыю яго адкрыцця і даследавання.

### Сувеніры — на любы густ

Раіса МАР

У музеі-запаведніку “Нясвіж” плануюць пашырыць асартымент сувенірнай прадукцыі, якая тэматычна звязана са знакамітым родам Радзівілаў і гісторыяй Нясвіжа. У хуткім часе ў продажы павінен з'явіцца шакалад “Чорная панна Нясвіжа”. Дарэчы, свае ідэі для распрацоўкі яго этыкеткі мог прапанаваць кожны жадаючы. Наладжана супрацоўніцтва са шклозаводам “Нёман” па выпуску арыгінальных вырабаў са шкла. Да адкрыцця палацавага ансамбля XVI—XIX стагоддзяў выпушчаны падарункавы значок з фірменным лагатыпам “R”. Ёсць задумкі па стварэнні сувеніраў са скуры.

Добрым попытам у турыстаў і самых жыхароў старадаўняга горада карыстаюцца кнігі на гістарычную тэматыку. Сярод традыцыйных падарункаў, якія набываюць госці, значацца календары і магніцікі. Замежнікам вельмі падабаюцца вырабы з лёну.

Як ужо паведамлялася ў СМІ, у бліжэйшы час плануецца адкрыццё другога пускавога комплексу Нясвіжскага замка, а гэта 27 экспазіцыйных залаў. У сувязі з тым, што сёлета Нясвіж стаў культурнай сталіцай Беларусі, чакаецца значны наплыў турыстаў. І гарадская інфраструктура павінна быць гатова да гэтага. У горадзе з'явіцца больш сувенірных крам, кавярняў. Вандроўнікі змогуць спыніцца ў гасцініцы эканомкласа ці пасяліцца ў шыкоўных апартаментах — што каму даспадобы.



*У Дзень смеху, што, як вядома, адзначаецца 1 красавіка, у "ЛіМе" падзяжурыць у якасці галоўнага гумарыста прыязна даў згоду наш старэйшы і дужа паважаны часопіс "Вожык". Ён, вясёлы і калючы перасмешнік, ствараючы сатырычна-гумарыстычныя сітуацыі, сам заўсёды смяецца апошнім.*

Васіль ФЕРАНЦ

# Няўдачнік

*Гумарэска*

Нядаўна я набыў дачны ўчастак. Каля лесу. Ажно чатыры соткі… Пачаў памалу абжываць яго — пні карчаваць, хмызняк высякаць, зямлю апрацоўваць. А мой сусед тым часам — цагліна за цаглінаю, ужо домік узводзіць. І не абы-які, а двухпавярховы. Пад дах ужо бярэцца, хутка, глядзіш, і наваселле спраўляць будзе. Калі ён паспеў, дзе матэрыялы бярэ? Ды і цэны цяпер ого як кусаюцца!

Зайшоў да яго, пачаў распытваць: падзяліся, маўляў, вопытам…

— А ўсё таму, — не стаў хавацца ён, — што я па жыцці вельмі няўдачлівы… Не шанцуе мне. Дзе б ні ехаў, ні ішоў, толькі і глядзі, каб цагліна на галаву не звалілася. І валяцца. Добра, калі побач… Ну, што мне застаецца? Пакладу ў партфель, прынясу дахаты. За тыдзень з дзесятак назбіраецца. У выхадны дзень вязу сюды ды кладу сцяну. Так вось паціху і рухаецца справа…

— Дык тая цагліна можа і на галаву ўпасці…

— О, колькі разоў! От паглядзі, — сусед зняў шапку, і я ўбачыў на яго галаве гузакі, шрамы, невялікія і нават адметныя раны, даўнія і зусім свежыя.

— І на нагу цагліны падалі, — працягваў сусед. — Нездарма вунь левая карацейшая за правую. Аднойчы плячо перабіла…

— Сапраўды, нейкі ты няўдачлівы. Але ж акрамя цэглы патрэбныя і іншыя матэрыялы. Дошкі там, бэлькі, дзверы…

— Гэтаксама! І ўсё таму, што не шанцуе мне… Іду неяк па вуліцы, а мяне абганяе машына, даверху нагружаная дошкамі. На яме грузавік калыхнуўся — і дошкі абрынуліся на мяне, прысыпалі… А машына хоць бы што, далей паехала. Што мне заставалася? Так-сяк выбраўся з-пад завалы, нагу тады вывіхнуў і вось гэтую рану на галаве, каля вуха, атрымаў. Давялося тыя дошкі прывезці сюды — вось табе і столь, і падлога…

— А дзверы?

— Я ж кажу: не шанцуе мне. Непадалёк ад майго дома ў горадзе таксама вядзецца будоўля. Кранам падымалі дзверы на паверх, адны і ўпалі. Ледзь не на мяне… Потым будаўнікі ўстаўлялі ў доме вокны. Дрэнна замацавалі іх, узняўся вецер — і некалькі выдзьмула скразняком. Адно акно ўпала каля майго пад'езда, другое — проста на балкон. Перавёз сюды… Вось чакаю, дах пачнуць хутка крыць, падыду, можа, што ўпадзе. Які рулон толю ці металачарапіца. Мне толь цяпер патрэбны…

«Ну і сапраўды, — падумаў я, — няўдачлівы нейкі мой сусед. Не шанцуе яму».

А можа, і мне паспрабаваць хадзіць побач з будоўлямі?..

Павел САКОВІЧ

## Эпіграмы як рэкламы

**Віктар ГАРДЗЕЙ**

Ягоным імем на вякі
Назвалі вулку землякі.
Зайздроснік скажа: — Дзівакі!
Хіба Гардзей герой які?

Любы з вяскоўцаў-землякоў
Аспрэчыць "кляузу" гатоў:
— Пашаны варты ад людзей
Салдат паэзіі — ГВАРДЗЕЙ!



**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

Не крытыкан ён па натуры:
Працуе шчыра, без халтуры.
Падкалупне каго ці ўколе —
Не да нясцерпнага усё ж болю.
Алесь заўсёды меру знае:
Ён крытыкуе і — натхняе!



**Мікалай ПАРШУТА, галоўны інжынер выдавецтва "Беларускі Дом друку"**

Ён узяўся за гэты гуж:
Воз друкарскі свой цягне ўпарта.
Інжынерам пісьменніцкіх душ
Мы ўсе лічым яго не жартам.



*Шаржы Аляксандра Каршакевіча*

Мікола ШАБОВІЧ

## Пародыі

**Блакітны вецер**

*Танцуе лыжачка, звініць.*
*Праз фортку без білета вецер*
*Залазіць, просіць: "Не гані…"*
*Загрукаў мой цягнік у вечар.*

**Віктар ШНІП**

У цягніку, не на кані,
Я ехаў, ды праз фортку спрытны
Залазіць вецер: "Не гані!" —
"Ты што?! Вар'ят? А мо блакітны?..

Ёсць у вагоне шмат дзяўчат.
Чаго ка мне ты прычапіўся?.."
Я моўчкі п'ю халодны чай.
Было?.. Ці, можа, сон прысніўся?..

Танцуе лыжачка, звініць.
Зноў не засну я з перапуду.
Больш на чыгунку — ані-ні.
Пяшком хадзіць заўсёды буду!

**Актыўны**

*За мною крочыць не яна*
*Між гэтых стоеных бяроз.*

*Вачэй наіўнае святло*
*Шчэ не замглёнае тугой.*
*Ёй не скажу я, што ў сяло*
*Сюдою крочыў за другой.*

**Мікола МЯТЛІЦКІ**

Канечне, гэта не мана,
Бо мой падман
ці варты слёз.
За мною крочыць не яна
Між гэтых стоеных бяроз.

Я ёй пра гэта не скажу.
Хіба ж маўчанне ёсць мана?
Што я галовы ўсім кружу,
Няхай не ведае яна.

А што актыўны я юнак,
Не ведаць ні другой, ні ёй.
Пара дахаты ўжо, аднак,
Пара да жоначкі сваёй.

## Мініяцюры

Мікола ЧАРНЯЎСКІ

**Максі-бюракрат**

Курыць і піць
З гадамі кінуў.
Адно ж уелася,
Адно:
Узяў на подпіс
Дзённік сынаў
І па прывычцы —
Пад сукно!

Янусь МАЛЕЦ

**Пільнасць**

Я — ахоўнік шмат гадоў.
Прахадную не прайшоў
Аніколі злодзей той,
Хто не дзеліцца са мной!

Кастусь ЖУК

**"Дамасед"**

"Я —
Першабытны дамасед", —
Тлумачыў
На судзе сусед.
Вердыкт суда —
Хамелеон:
У хаце
Ён трымаў прытон.







*Малюнкі Пятра Козіча*

Міхась СЛІВА

## Усмешкі

**Хачу ў начальнікі!**

— Тэрмінова перавядзіце мяне на вышэйшую пасаду! — настойліва патрабуе работнік.

— Чаму? — цікавіцца начальнік.

— Бо я са сваёй не спраўляюся!..

**Вось табе і малеча!**

По дарозе ідзе бабуля з унукам.

— Асцярожна, Васілёк, — папярэджвае бабуля. — Вунь ту-ту едзе!

— Не ту-ту, а "Аўдзі-4", — адказвае ўнук.

**Чыстая праўда**

— Галя, гэта праўда, што расстанне ўмацоўвае каханне?

— Безумоўна! Калі мой Пеця едзе на заробкі ў Маскву, у мяне заўсёды мацнее пачуццё да суседа Аліка.

**"Гаспадары"**

— Мы працуем па двух крэдытах.

— Як гэта?

— Адзін — плацім, другі — бяром.

**Самі рашайце**

— Ты каго хочаш мець: брацікa ці сястрычку? — пытаюць бацькі ў малой Дашы.

— Вы ўжо дарослыя, самі рашайце, як лепш, — адказвае дзяўчынка. — А ў мяне сваіх праблем хапае…

**Ногі-равесніцы**

Бабуля скардзіцца доктару:

— Вельмі баліць левая нага!

— Гэта ў вас ад старасці, — тлумачыць доктар.

— Дык чаму ж тады не баліць правая? — здзіўляецца бабуля. — Яны ж равесніцы!

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас:
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п. 4а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 2300 рублёў
Наклад — 2855
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк 29.03.2012 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 1397
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686